Рэдактары:
ЯН ЧЫКВІН
МІХАСЬ ШАХОВІЧ
САКРАТ ЯНОВІЧ

Мастак:
АЛЯКСАНДР ХОМЧЫК

Карэктар:
ВАЛЯНЦІНА ЖЭШКА

Wydawca: Zarząd Główny Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego w Białymstoku. Oddano do składania 16.X.1978 r., druk ukończono w maju 1980 r. Ark. druk. 15,25, ark. wyd. 13,26. Nakład 1000 egz. Cena 25 zł.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne. Zam. 2146/78 r. S-1

## УСТУП

*У 1978 годзе завяршылася дваццацігадовая дзейнасць літаратурнай групы „Белавежа“. Перыяд гэта не малы. У еўрапейскіх нацыянальных літаратурах за гэты час вылучыліся прынамсі трычатыры творчыя пакаленні, ужываліся розныя эстэтычныя напрамкі, тэндэнцыі і плыні, з года ў год на Ўсходзе, Захадзе і ў Польшчы паяўляліся новыя літаратурныя вартасці. Вядома, шмат чаго з гэтага працэджана ўжо гісторыяй. Тое, аднак, што вытрымала першую спробу часу, папоўніла нацыянальныя традыцыі, атрымала атэстат на бліжэйшую будучыню, сталася непадробленым пасведчаннем свайго часу і якаснага напластавання культуры. Гэтыя гістарычна-літаратурныя факты маюць, зразумела, неаднолькавыя вымярэнні і перспектыву, але якраз такім чынам ствараюць шматкшталтную культурную рэчаіснасць.*

*На гэтым фоне беспрапыннага ад стагоддзяў развіцця літаратур малых і вялікіх еўрапейскіх народаў выразна абрысоўваюцца нашы дагэтуляшнія магчымасці і дасягненні. Беларуская творчая інтэлігенцыя, упісаная ў шырокі кантэкст шматлітаратурных узаемасувязяў, падключаная арганічна па меншай меры да двух культур, шчодра выкарыстоўваючы гэтыя нацыянальныя культурныя традыцыі, мае магчымасці ствараць і ствараe адначасова свае арыгінальныя мастацкія вартасці.*

*За дваццацігадовы перыяд, пры невялікім якніяк разгоне для творчасці ў выдавецкай галіне і тым больш з адзіным часопісам, мэтанакіраваным на сялянска-гаспадарчую праблематыку, з'явілася дваццаць пяць літаратурных кніжак, апублікавана на старонках „Нівы“, у „Беларускіх календарах“ і іншых БГКТ-оўскіх выданнях не менш як дзве тысячы самых розных па жанры і тэматыцы твораў, праведзена каля трох тысяч аўтарскіх сустрэч у вясковым і гарадскім асяроддзях у цэлай краіне.*

*Усе гэтыя мерапрыемствы, маючы несумненна істотную важнасць у фармаванні асаблівай самасвядомасці беларусаў і інтэграцыі асяроддзяў, слушна атрымалі станоўчую ацэнку ў знаўцаў і прафесіяналаў. На больш-менш саракаасабо-*

*вую групу „белавежцаў“ чатырох яе ўдзельнікаў набілітавана членствам Саюза польскіх пісьменнікаў.*

*Зразумела, што беларускі літаратурны зрух у Польшчы не мог не выклікаць зацікаўлення не толькі з боку польскага друку, з нагоды выхаду ў свет чарговых кніжак „белавежцаў“, але — таксама — і ў Савецкім Саюзе, Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, Вялікабрытаніі, Канадзе, Аўстраліі. Беларусамоўная творчасць у Польшчы ўсё часцей прыцягвае ўвагу і гісторыкаў літаратуры з Варшавы, Познані, Вроцлава, Гродна. Значнейшыя творы ўжо перакладзены на польскую мову.*

*Тым не менш пяройдзенае дваццацігоддзе ў дзейнасці „Белавежы“ трэба лічыць хутчэй за ўсё этапам колькаснага намагання. Дзве прычыны склаліся на гэта. Першую трэба бачыць у тым, што група „белавежцаў“ у палове шасцідзесятых гадоў папоўнілася таленавітай літаратурнай моладдзю, якая значна павысіла паказальнік усёй творчай прадукцыі. Заадно пасталелі і выразна актывізаваліся ў сваёй творчасці таксама заснавальнікі гэтай групы. Прычына другая — больш складаная. Амаль поўная адсутнасць унутранай літаратурнай крытыкі прывяла да парадаксальнай сітуацыі: калі для іншамоўных чытачоў творчыя дасягненні „белавежцаў“ маюць неаднародную важнасць, а тым больш рашуча не прыймаецца імі графаманія, то ў свядомасці, на жаль, многіх з беларускага асяроддзя ўсе дагэтуль апублікаваныя творы нічым не адрозніваюцца, „ляжаць“ на тым жа самым мастацкім узроўні. Маэаікава-жывапісны шлях дзейнасці і несумненных дасягненняў гэтай літаратурнай групы выглядае для іх як алеаграфія. І „ацэначным“ крытэрыем у іх з'яўляецца надалей колькасны падлік.*

*Рэдакцыйная калегія альманаха „Белавежа“ № 3 старалася не ўступаць перад націскам колькаснай паказухі, аддаючы перавагу творам высакамастацкім, спелым ці такім, у якіх ёсць хоць іскрынка арыгінальнай задумы. Хацелася б, каб так было і ў будучым пры публікацыі гэтага цікавага неперыядычнага выдання, якога ў 1979 годзе адзначаецца таксама дваццацігадовы юбілей. Першы альманах „Рунь“, як вядома, з'явіўся ў 1959 годзе. Затым былі, каб успомніць, — „Мой родны кут“ (1963 г.), „Белавежа“ № 1 (1965 г.), „Белавежа“ № 2 (1971 г.), і „Літаратурная Беласточчына“ (1973 г.). „Белавежа“ № 3 з'яўляецца, як відаць, шостым ужо па чарзе літаратурным альманахам, у якім чытач мае магчымасць сустрэцца адразу з многімі аўтарамі, пазнаёміцца з іх новымі творамі.*

*Хацелася б, каб наступнае дваццацігоддзе было перыядам якаснага станаўлення літаратуры „белавежцаў“.*

*ЯН ЧЫКВІН*



**В. Шум. Галава сябра. Гіпс.**



**Семінар „Белавежы“ ў 1959 годзе (буд. Прафсаюзаў). У першым радзе злева направа: Уладзімір Гайдук, Ян Чыквін, Пятро Чэрнякевіч, Сакрат Яновіч. У другім радзе — Мікола Буцылін, дац. Уладзімір Лазарук, Алесь Барскі, Віктар Швед. Стаяць — першы злева: Вацік Асіповіч, далей — Люба Красоўская, дац. Аляксандр Жураўскі, і крайні — Янка Анісяровіч (Яша Бурш).**



*ВАЛЯ АНІШЧУК нарадзілася 24 лютага 1956 года ў вёсцы Навакорніна. Там закончыла пачатковую школу. Вучылася ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы. Зараз з'яўляецца студэнткай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Дэбютавала ў 1976 годзе на старонках тыднёвіка „Ніва“.*

* * *

пішам
ад рана
да ночы
ад змроку
да світання
пішам
усё
пішам
нумаруем
кожны дзень
грунтоўна
каемся
на палях
за кожны грэх
пішам
    пішам
        пішам

з дня на дзень
таўсцее кніга
столькі
чырвоных радкоў
шматкроп'яў
косак
было
    ёсць
        будзе
як у кніжцы
стаім
пад напорам
выклічнікаў
мучаць нас
пытальныя знакі
знакі
пішам
    пішам
        пішам
а
могуць жа
аддаць
наш шэдэўр
на
макулатуру



* ✲ *

бадзяюся
па ўсходах ночы
я —
вылепленая
на форму чалавека
я —
уласны цень



**А. Герасімюк. Партрэт III.**

* ✲ *

як
толькі
ўваходжу табе ў рукі
падаеш
мне
энцыклапедыяй
на вушы



**А. Герасімюк. Партрэт IV.**



* ✲ *

як ні лячу
прызямлюся
на тваіх далонях

чаго не скажу
нікому
вытлумачу табе

хваляванне
таксама
выкрычу страфе

і сэрца
і ўсмешку ведзьмы
ахіну эпітэтам

а потым
як найшчаслівейшая
маці

буду чакаць
наступных
родаў

## БАНКЕТ РЭШТКАЎ

банкет
чатырох вачэй
двух сэрцаў
сярод
пунктаў слоў
пра
прагноз надвор'я

вялікі банкет
складзеныя на крыж
мае губы
з тваімі
ты
я
вецер і раны
цераз
шыю любасці

дзе ж
падзелася
магутнасць
хвалявання

гэта там
дзе нас няма
льсніць
магіла
нашай надзеі



* * *

хацела б
праглынуць
хоць
трошкі сэрца
што
ўсыхае за
пазногцямі

хацела б
пазнаць
тагасветны
сэнс
звароту ўсмешкі

восень
    — плады
кветкі
    — вясны
зіма
    — белені
сонца
    — лета

хацела б
так
хацела б
і
магутна шалёна
    ... давяраць

* * *

гэты банкет
гэта звычайны
канец

гэта стол
стопкі сухога
кава
на абрусе
— нібы прорва

гэта доказ
расстання
наша апошняя
неабходная споведзь
і
наш нерашучы
зрок
ведай
што развітвацца
не здолеем
не ўмеем

вызваляць
нашы далоні
сотні клямак
пры незамкнёных
дзвярах

і гэтае
сухое віно
ў чарах горычы



* * *

пышная
нянавісць
уваскрэсні
на грудзях маёй
адзіноты

о
мае буйныя
павіслыя пятлёю
ўсмешкі да
нябачных

як магу
прыкрыць
прызму
сізіфавай цеплыні

бо можа
не
можа менавіта
— не —



**У час веснавога семінара — за 1970 год. Злева направа — сядзяць: Ян Чыквін, Віктар Швед, Алесь Баркскі, далей — Алесь Свісёк і Сакрат Яновіч; стаяць — Юрка Геніюш, Янка Целушэцкі, далей — Яша Бурш, Уладзіслаў Дваракоўскі.**



*НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ нарадзілася ў 1946 годзе ў Аўгустове на Бельшчыне. Закончыла беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Жыве і працуе ў Бельску. На старонках „Нівы“ выступае з 1970 г.*

## СІНЯЯ ГАРА (ПОРЫ ГОДА)

Ніхто табе не скажа
Як адплысці за Сінюю Гару
— — — — —
Сіняя Гара
Не абяцае
Сіняя Гара
Як дзяцінства
Залягае памяць
 Што за Сіняй Гарой
 Ці і там
 Паміраюць кветкі
 У дзень нараджэння
 Ці і там
 Густы туман
 Зацірае берагі краявідаў — —

Птушка
Як страла
Праляцела
Забрала з сабой
І свой след
    А цень Сіняй Гары
    Утапіўся
    У возеры...
— — — — — —
Была
Вясна
Вясна зялёная
Вясна п'яная
Вясна чырвоная
    кроплямі крыві
Месяц
Фарбай слоў
Фарбай маўчання
Фарбай позіркаў
А потым
Фарбай
Масак
Замаляваў
Вялікае
Неба...
Неба... — —
Было
Лета
Непрытомнае
Лета з багажом — каменняў сто
Пад небам вялікім
Жыццё салодкае
    Не стаяць
    А шукаць
    Выбіраць
    Прадаваць
    Купляць
    Забываць
Няма зор
Няма сноў
    Цяпер
    Ногі
    У попеле — —

Была
Восень (сон)
    За Сіняй Гарой
    Лістапад ападаў
    Без шолаху
    А лісце
    Нерухома павісла ў жоўтым паветры
    Згінулі шкілеты
    І раптам
    Хтось прамовіў
    Хто
    Чыя працягнутая рука
    Вока
    Дарэмна
    Шукала
    Чалавека
        Канец сну — —
Зіма (або пачатак Наступнай дарогі)
Дарога да дарогі
Забытай
А блізкай
Блізкай
Як адлегласць
Нажа да цела
Дарога з песняй апошняй
З песняй
Дзе толькі музыка
А словы
Непатрэбным госцем — —
Няма яго ўжо сярод нас
Адплыў за Сінюю Гару
Засталося па ім нямнога
Адзін чаравік (другі ў маладосці згубіў ён
                на далёкай дарозе)
І гэта ўсё
Гавораць
Яшчэ пакінуў жменю слоў
У гэтай жмені быццам
Было адно Сапраўднае зерне
Пра тое
Ён не сказаў
Нікому

*  ✲  *

ценем
плыву ў марах
да тваіх дзвярэй

але
промень твайго святла
не прасочыцца тут

іду
сваім
крокам

да цябе
і
да зямлі

згінь думка (без загалоўка)
. . . . . . . . . . .

штодзень
адыходзяць
людзі



*  ✲  *

П'ю прагна
Як цудадзейнае лякарства
Тваё неба
мой Бельск
Затрымаў ты для мяне
Свой час
І свеціць ясна
Тут
Мой прамень.
Дару табе
Адно маленькае
Слова-зерне
Зерне
Што ўпаўшы
На родную зямлю
Заўсёды акалосіцца
Салёнымі жменямі дажджу
Ты абмываеш
Чужую вопратку
Сваіх дзяцей
Разаграваеш іх акамянелыя сэрцы
Адмыкаеш іх зашнураваныя вочы
Развязваеш іх спутаныя рукі
Бельск
Спалі маё закратаванае акно
Выкінь у далёкае мора
Мае чорныя сны
І тады
я буду з табою
заплятаць касу
дзён і начэй

* ✲ *

З нашых сэрцаў
Будзем ткаць
Белае-белае палатно
Зялёнай ніткай мараў-птушак
Вышыем
Узор-цуда
Узор-казку
З небам шырокім
Усходам сонца
І
Цішынёй
Чырвонай ніткай надзеі
Абрысуем
Новы краявід
І
Пакінем там
Як след
    нашую
        ружова-сінюю
            ўсмешку



* ✲ *

З неспакойных дарог
Вяртаешся ў сваё гняздо
Краявід
Абмыты градам поту
Прывітае цябе цішынёю
    У блізкіх крыніцах
    Пульсуе чыстая вада
    А слова
    Ёсць словам
З родных пяскоў
З матчынай маршчыны
З цяжкай спякоты
Лета
Будуе
Калючы шматвугольнік восені
Што заўсёды прыйдзе
    да цябе
    да мяне
А памяці ў падарожжа
Ужо трэба наслаіцца
Скібамі жывымі і мёртвымі
    Лугам
    Не ўквецішся
    А жнівень
    Горкім будзе
Ледзяны месяц
Крэсліць
Кругі
    усё больш кругоў

## ПЕЙЗАЖ

. . . . . . . . . . . заўсёды паміж
клеткай і
жыццядайнай ракою
плывеш аднакрылай птушкай
белы цень апошняга цягніка
як бетон паклаўся на твае вусны
перад табою
як смала
разлілося чорнае святло
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тут дарогі няма
І зямлі няма што родзіць кветкі
(у дзень нараджэння вецер прыносіць ім смерць)
Зачапіцца тут хоць бы на адну хвіліну
Паглядзець
Азірнуцца

Ты стаіш
Чуеш толькі трэск попелу
У ботах
А дзе боль
Ногі ж крывавяць
і рукі ў залітай крыві
А дзе ж боль
Ціхі плач заснуў

У твае вочы ўваходзіць
Пейзаж без канцоў
Плюшчыш адно вока
Бачыш
Затыкаеш адно вуха
Чуеш
А стагоддзю чорнаму
Усё мала
бяжыць ляціць
як дзіцё пакрыўджанае да маці
Хутка хутчэй



. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Тут дарогі няма.
Дрэвы тут — крыжы магільныя
песня тут — какафонія звар'яцелая
крыніца тут — ноч чорная
а людзі — ценямі самотна
. . . . . . . . . . . . . . . . заўсёды паміж



**М. Давідзюк. Музыка.**



**Сакрат Яновіч, Вальдэмар Смашч, Ян Чыквін і Ян Леанчук — у Крынках. Ліпень 1978 год.**





*ЮРКА БАЕНА нарадзіўся 24 сакавіка 1957 года ў вёсцы Мокрае, што ў Бельскай гміне. Друкавацца пачаў у „Ніве“. Піша вершы. Вучыцца ў Люблінскім універсітэце.*

## У ВІШНЁВЫМ САДЗЕ

У вішнёвым садзе
над шумлівай рэчкай,
рэчкай нам нястрымнай
маладосці,
рэчкай,
што нясе ў далеч
воды серабрыстыя
зацвілі зноў вішні.

Бель іскрыцца снегам
на галінках
вішань
і пяе на сонцы
маладосці спевам,
і цалуе вечна

валасы красуняў
цёплым пацалункам.

Нектар пчолы вабіць,
што звіняць бясконца
ў паводцы квецця,
у каронах вішань.
А звіняць дзяўчыне,
што цалуе квецце
і аб нечым марыць.

Марыць аб каханні,
чыстым, як пах вішань,
як вішнёвы нектар,
як вада у рэчцы.
Марыць аб спатканнях
над шумлівай рэчкай
у вішнёвым садзе.





## ГЛЯНЬЦЕ!

Гляньце!
Там, пад небам, на вяршыні ўзвышша
Стаіць самотная тапОля.
Стаіць,
Як пальма на беразе мора
(Незабыўнае ў снах дрэва),
Як небасяжны манумент-статуя
На некранутым фоне неба,
Як бяскрылая маці, што на світанні
Ідзе выглядаць свайго сына,
Як сімвал вечнага чакання —
Маці без сына і без арэола....
Гляньце! ...





**Пасля аднаго з семінараў „Белавежы“, у пачатку шасцідзесятых гадоў. Злева направа: Алесь Барскі, Віктар Швед, Антось з Лепля, Міхась Хмялеўскі, Алесь Свісёк, Яша Бурш, Уладзіслаў Дваракоўскі, Васіль Качноў.**



*КАСТУСЬ БАНДАРУК нарадзіўся ў вёсцы Астравок, што ў Шудзялаўскай гміне. Дэбютаваў у верасні 1970 года на старонках „Нівы“. Зараз жыве і працуе ў Тэрэспалі, Бела-Падляшскага ваяводства.*

## ЖОНКА ЛОТА

Кажуць — азірнулася, па цікавасці,
Хаця не ведаюць, мо дзеля іншае патрэбы?
Азірнулася ад жалю за міскай сярэбранай,
Вяжучы, міжвольна, рамень на сандалі.

Каб болей не глядзець ужо ў карак справядліві
Мужа майго, Лота, што не азірнуўся б,
Калі канаць я стала.
Азірнулася ад упартасці непаслухмяных,
Ад услухоўвання ў нас,
Даганяючы пагоняю,
Кранутая цішынёю, у якой цярпліва
На роздум бога ўсё яшчэ чакала.
Дзве дочкі нашы гару ўжо міналі.
Адчула ў сабе старасць, бязраднасць ды стому.
Азірнулася, паклаўшы на зямлю свой клунак,
Азірнулася з жахам: куды нагу паставіць!?
І не хапіла дарогі, каб пайсці дадому.
Па сцежцы маёй толькі гадзюкі папаўзлі,
Малыя каршуняты, павукі і мышы,
Пакуль цемра начная не зляцела з шумам.
А з ёю — жвір гарачы і мёртвыя птушкі,
Калі вецер дзьмуў у твар мне і задзіраў адзенне
Здавалася, што насміхаюцца з мяне ў сценах
Садомы.

Азірнулася ў гневе, з радасцю іх згубы,
Міжвольна азірнулася — пакуль на дарозе
Не лёг камень, якога не змагла я абмінуць,
І тады паглядзела назад несвядома,
Не, не, я ўсё яшчэ бегла, паўзла і ўзлятала,
Стала ціха і душна, і сцяліся губы

У апошнім крыку акамянелых вуснаў.
І паветра прапала, а я віравала,
Я адна, хоць сказаў бы хтосьці, што гэта пара.
Можа вочы расплюшчыла тады раз апошні,
Можа ўпала з павернутым да горада тварам...



В. Шум. Змаганне са злом. Гіпс.



* * *

А недзе там цяпер ячмені
гараць пад небам перагрэтым,
варочаецца перапечка
і мёд зярняці льецца ў жменях.
Ў кілім сакольскі прыадзета
Зямля — бы чорны хлеб духмяны.
І, быццам ёй б'ючы паклоны,
за плугам схілены ступаю,
ад вусеніц, што адкрываю,
нахабных я ганю варон.



А. Герасімюк. Вуліца Млынавая.



**У клубе ГП БГКТ, 1973 г. (злева направа): М. Самоцік — старшыня ГП, Ю. Валкавыцкі — галоўны рэдактар „Нівы“, Ян Гушча — польскі пісьменнік і перакладчык беларускай літаратуры, Т. і С. Яновічы.**





*АЛЕСЬ БАРСКІ (Аляксандр Баршчэўскі) нарадзіўся 2 лістапада 1930 года ў вёсцы Бандары на Беласточчыне, у сялянскай сям'і. Закончыў Лодзінскі універсітэт. Жыве ў Варшаве і працуе загадчыкам Кафедры Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Аўтар паэтычных зборнікаў: „Белавежскія матывы“, „Жнівень слоў“, „Мой бераг“. Член Саюза польскіх пісьменнікаў.*

*  ✲  *

Маіх гадоў ты не лічы дакладна,
Ні валасоў на скроні белых.
Я ведаю, у многім я няскладны,
Таму саромлівы, таму нясмелы.
Гады мае, як скрыпкі струны,
Парваліся з адчайным крыкам;
І праплылі дзесяцігоддзяў труны
У свет, дзе ціша ёсць музыкай.
Прабач ты мне, прабач мнагагоддзе,
Затрымай маю старасць на хвіліну,
І забушуй сягоння паўнаводдзем,
І не лічы маіх гадоў, дзяўчына.



**А. Герасімюк. Гара Магдаліны.**



*  ✲  *

Тут больш лісця, чым неба і зямлі,
Лісцё павісла хісткім мостам.
Па ім іду я — сын далін,
Пушчы раб ды і апостал.
Не трэба слоў, яны — цяжкі багаж,
Ні роздуму, ні розуму развагі,
Калі хрыбта лісця трымаецца нага —
Кабура сэрца поўная адвагай.
Вось тут рой птушак моліцца вясне,
Між іх я сеў, спяваю гімны, оды.
Дзе песня ёсць, там зла канец,
І там пачатак крыл свабоды.
Не хочацца вяртацца да людзей,
У свет заяў, дакладаў, дырэктыў...
Больш не магу ні слухаць, ні глядзець,
Як вучаць шчасцю чорныя каты.
Каб толькі ліст застаўся пад нагой,
Загоіць раны ён, адсуне здзекі;
Распаліць ачышчальны ён агонь,
Цябе ўчыніць песня чалавекам.

* ✲ *

Верш — згартаннем хараства ў пракосы,
Хвалі траў пахучых і зялёных.
Расплятанне, заплятанне косаў,
Бацькаўшчыне верш — паклонам.
А сябе парадуеш, памучыш,
Як забаўку здымеш з неба зорку.
Узляціш і звалішся на крушні,
І нап'ешся асалоды горкай.
Верш, як крыллі жнівеньскіх аблокаў
У анельскай рэзьбяны майстэрні...
Калі лічыш прыгажосць пялёсткаў,
Палічы у ім таксама церні.





* ✲ *

Заяц раніцай руні наеўся,
Першай руні, зялёнай, сачыстай.
Пад кустом, пад сасновым, усеўся,
Заглядзеўся у сонца агністае,
Што паўзло праз кусты на каленках
З галавешкай ў руках агняцветнай
І паліла бярозам сукенкі,
Выганяла з дубровы лета.
Заяц дзіву не мог надзівіцца.
На узлессі упаў на калені
І пачаў ён да сонца маліцца,
І ад дзіва зрыжэў, паасенняў.



* ✲ *

Апошні ліст на ветры спатыкнуўся,
Зваліўся у труну разоры,
Але паэт на шчасце падвярнуўся
І адспяваў малебен-гора.
Усе мы адплывем,
Чаўны чакаюць дзесьці...
Смерць ходзіць, смерць стаіць на стражы.
Памрэм і, можа быць, праз тыдняў дзвесце,
Што нас няма, ніхто і не заўважыць.





* ✲ *

У тваім каханні я не бачу болю
І таму не будзе тваё шчасце поўным.
Смутак у каханні — элемент галоўны.
У тваім каханні я не бачу болю,
Без якога шчасця не было ніколі;
Боль і радасць мусяць спалучыцца кроўна.
У тваім каханні я не бачу болю
І таму не будзе тваё шчасце поўным.



* ✲ *

Каб мог жыццё пачаць аднова,
Пачаў бы ад касы і плуга,
Зямлі застаўся б шчырым другам.
Каб мог жыццё пачаць аднова,
Зямлю я славіў бы не словам,
А толькі мускулаў натугай.
Каб мог жыццё пачаць аднова,
Пачаў бы ад касы і плуга.





* ✲ *

Прычасці мяне, клёне зялёны,
Першым лістком сакавітым —
Дай мне глыток акавіты,
Дазволь вясной разгавецца,
Глынуць яе цёплы кусок.
Хай стане зялёнаю мроя,
Як лес пад гарою,
Хай зеленню зорацца вочы,
Хай сэрца маё ззелянее,
Хай сэрца маё пацяплее
І выпусціць першы лісточак.





**Літаратурны вечар у клубе Варшаўскага аддзела БГКТ. Злева направа — Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Ежы Літвінюк, польскі паэт і перакладчык беларускай літаратуры. Лістапад, 1973 г.**





*НІНА ГАЎРЫЛЮК нарадзілася ў Ягадніках на Беласточчыне. Закончыла Медыцынскі ліцэй у Бельску. Зараз з'яўляецца студэнткай Варшаўскага універсітэта.*

* * *

Цішыня...
Паэзія мая
Захутаная ў нябыт,
Яе не сею
І не пажынаю —
Чуццё ў цішыні
Найцішэйшай,
Успаміны неба,
Лесу
Вячэрнім змрокам...
— Адну хвіліну
Цішыні ўтульнай.

## СПАГАДА ЦЕРАЗ АКНО

Кліча вароны
да пакрышанай булкі
цераз адчыненае акно
абуджаная спагада.

Саромеецца
перад сцэнамі,
што гэта яшчэ ў ёй
Нестэрылізаваная
індывідуальнасць.

Культурна
мые пад кранам рукі
ад крышынак.





*ЮРКА ЗУБРЫЦКІ*

## ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯЖЭННЕ

Усяму жывому на зямлі —
Сваё адведзенае месца.
Ды тое, што мы занялі,
З гардыняй нашай не ўжывецца.

Як роўныя, сярод раслін,
Мы выцягнуліся да сонца.
І не турбуе нас зусім
Пражэрлівы бадзяга — стронцый.

Дыспут з касмітамі вядзем
У неабдымнасці сусвету.
І даль нас новая заве
Сілаю мэты запаветнай.

Каардынаты, як закон
Апрабаванага сабрата,
Мы пасылаем наўздагон
Іншапланетным супастатам.

А, узяўшы зоркі на прыцэл,
Старую ісціну адкрыем:
Зямля — касмічны карабель,
Ды мы у ім — не рулявыя.



## ПРЫЗЯМЛЕННЕ

Сняцца мне сны трывожныя.
Іду
па зямлі,
бы па пожні я.
Не зямля пячэ —
думкі колюцца,
Нервы
токам гудуць
полюсным.

Над зямлёю кружу зморaны,
У голуба пераўтвораны.
Рукі
з галубінымі знакамі,
Па руках — снарады
гакаюць.

Знаю,
пакутніцкай пожняю
Высланы
шлях пераможаных —
На сваю не лічы
праваю.
У вечную
пру
немату.

Скручаны,
камяком падаю,
Уваходжу ў апошнюю стадыю.
Калыска мая разгойдана,
Зямля,
не цягні кордамі.

Слухае.
Прачынаюся.
На свет белы ўглядаюся.
А ён
— у колераў оргіі —
Гарэзліва
да мяне моргае.



**Возера Памора.**

## НА ВОЗЕРЫ ПАМОРА

Шуміць і возера, і бор.
Ў чароце прытаіўся вечар.
А мне здаецца, што наўкол
Яцвягі клічуць нас на веча.

Продкі, з крывёю на сцягу,
Неразгаданы вашы справы.
І ухваліць я не магу
Над племем дзікую расправу.

Вам бы каля святых кастроў
Не племянныя бачыць звады,
А возера святы прастор,
Святое дружбы далягляды.

Зямля ад тупату дрыжыць
Ватагі юнай, гаманлівай.
У ім пачуў я гул дружын,
Што з конскаю зрасліся грывай.



## ЛЯ ВЫТОКАЎ

Успененыя коні, коні.
І латунь, дзе не круні.
Задыхаюцца ў пагоні
Яцвяжскія скакуны.

Праскакалі. Белавежа
І калчаны за спіной.
Толькі згубленую свежасць
Не дагнаць, яцвяжа мой.

Над крынічнаю Лутоўняй,
У надрэчных паплавах,
Тапорыкаў латунёвых
Слава звонкая ўсплыла.

Мо таму на родных гонях
У снах забушавала рунь
І успеніліся коні,
Закрывавіла латунь.



## СЛЕД

Набрыняў пляж. На ім нарэзы —
Ялінкаваты чайкі след.
Строгі радок, як антытэза
Ў мадэрна хісткае дас'е.

З дзюнаў навеяла шыпшыны.
Скразіць ад мора халадок.
І я, сабраўшы ўзор птушыны,
Нясу яго у свой радок.





## МАЯ УТОПІЯ

Я хворы. Міякардыт слоў
Амаль у хранічным вымярэнні.
Дарма з забытых сутарэнняў
Цягну я прывід на святло.

З усходаў чорных пад далонь
Намацваю адчайна бездань,
Жывым хачу напоўніць зместам
Стэрыльны, не тутэйшы дом.

Хачу, нядаўні кватарант
Эдэмаў новых на закуцці,
Звышпрыцяжэнне пачуццяў
На ланцуговы ўзяць канат.



## ТВАРЭЦ

Над цьмянымі флюідамі дабра
разбіў ружовыя палаткі сукупнасці
і,
апусціўшы шчыльныя шторы рэўнасці,
думаў,
што стварыў харомы пладавітасці.
А гэта былі келлі еўнухаў.



**М. Давідзюк. Станьчык.**



## АДАМ ВІНАВАТЫ

Ужо Адам
у варотах раю,
калі пачуў штуршок тварца,
пытанне годнасці
паставіў.
І не сказаў нават слаўца.
Ды што ў пытанні!
Не адолеў
рацыянальнага ядра.
Абвінавацім
хіба
долю —
пітэкантрапам
быў Адам.
Прыбіты
норавам старога,
з атрутнай крыўдай
у грудзях,
панёс, нябога,
і варожасць,
як уступаў
у сан
бадзяг.
Не будзь Адам
на той паверцы
ў гарачай
купаны вадзе,
яго спакусліваe сэрца
ў чорнай
не білася б
бядзе.
Старэў бы продак
без інтрыгаў,
зямлі
шчаслівы гаспадар,

каб Каін
Авеля не здыбаў
і волю
рангам
не аддаў.
Тады б
начальнік —
не начальнік
І радавы —
не радавы,
Ніякай
муці
суцяшальнай
у справаздачах гадавых.

Вышэйшаю цаною —
слова.
А лаяць
— ха! —
няма каго.
Мір —
і пачаткам,
і асновай,
шквальны
не мроіцца агонь.
Агонь
наводкаю прыцэльнай
адзін —
па вірусаў брані.
Грыбы
пульсуюць
на патэльні —
у геенны
не растуць
агні.
Разгойдаў
ты
над намі атам.
Ці заўтра
з хісткага крука
без сораму
сарве зарад той
твая



шалёная
рука?
Што,
задыхаешся ў падзеях,
на свой
спяшаешся
парад?
А з кожным годам разумнееш...
Не каламуць,
ідзеш
назад.
...Іграюць гулкія тамтамы.
Самаўлюбёных чарада
пад гэту музыку
Адамаву
падзеі
хоча разгадаць.





**Яша Бурш і Ян Чыквін, (60-ыя гады).**





*ВАРВАРА КВАПІШ нарадзілася 7 ліпеня 1949 года ў Лодзі. Вучылася ў Вышэйшай Педагагічнай школе ў Гданску, а затым у Ольштыне. У 1976 годзе прыехала ў Белавежу, дзе працуе настаўніцай. Дэбютавала ў 1976 годзе на старонках „Нівы“.*

*

Мама
  — як дрэва фрукты,
  ты нас нарадзіла
І, хаця сама дрыжыш на ветры жыцця,
— Нас засланяеш далонямі,
  як дрэва лісцём свае плады.
Рукі свае, як галіны дрэў,
    выцягваеш па сонца,
  Каб мы ў яго цеплыні даспелі бяспечна.
І яшчэ непакоіцца тваё чуллівае сэрца
Каб толькі,
  тваім жыццём, як сокам набрынялыя,
  ад цябе адарваныя,
Плады...
  Сілу мелі,
    Каб у свет ураслі карэннямі,
      развіліся кветкай
        і пладаносіць —
          каб ім!

*

Твар яшчэ не звянуў,
Яшчэ мае сілу прытварацца...
    Таму ў вочы мае доўга не глядзі.
    Яны — сэрца люстэркам.
    А сэрца праўдзівае, не маніць!
    Што пад жыцця цяжарам прыгоркла,
    Што ў маршчынах цэлае.
Таму ў вочы мае доўга не глядзі,
Падман аб вясне няхай трымаецца.



**А. Герасімюк. Аўтапартрэт I.**



*

Блытаніна дарог, бездарожжаў
з канцом непрыкмечаным,
Думкі і пачуццяў зблытанне
ў сетцы няпэўнасці...
    Як вырвацца з густой чарнаты хмары,
    Як вырвацца з яе шчупальцаў ліслівых,
    Што ў бездань сваю ўцягваюць,
    Душаць і паралізуюць.
Як у гэтай ночы,
што ўнутры і навокал,
Паказальнік заўважыць — куды і кудою?
Каб, брыдучы праз жыцця папары,
    Знайсці дарогу сваю,
    Ды не патаптаць іншых.
    Як у сонца выплысці,
    У праменнях светавых выкупацца?
Цішыню ў сябе адшукаць,
Уваскрэснуць?
Каб целам жывучы —
душой не паміраць.



**У рэдакцыі „Нівы" — за сяброўскай гутаркай Юрка Геніюш і Сакрат Яновіч, (1967 г.).**





*ВЕРАНІКА ЛЕАНЮК нарадзілася 14 лютага 1950 года ў вёсцы Плёскі. Закончыла Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску. Жыве ў Беластоку і працуе тэлефаністкай на пошце.*

ВЯРТАННЕ

Дзе б не была — вярнуся.
Сцяжынку ў лесе я знайду
І між палёў зноў засмяюся,
Зноў дзверы ў хату адчыню.
Слоў урачыстых прывітання
Там я пачую ад бацькоў.
— Нарэшце — мама ціха скажа,
І ўсё праясніцца святлом.



* ✲ *

Калі ўжо ніхто
не чакае —
звоніць цішыня
бляскам зор
у вокны.
Калі ўжо ніхто
не чакае,
толькі травы
пасля дажджу
ў гародзе
скідаюць пыл —
лугі квяцістыя,
лугі дзяцінства,
клічуць у снах.
Калі ўжо ніхто —
пустата адзіноцтва...





*ЗОСЯ САЧКО нарадзілася ў 1955 годзе ў вёсцы Волька каля Орлі. Закончыла Люблінскі універсітэт. Дэбютавала ў 1972 годзе на старонках „Нівы".*

* ✲ *

калі нават
пайду з табою ў пасцель
не аддам табе
майго адзіноцтва
— яго як яблыка
дзялю на ноч і дзень.



**А. Герасімюк. Букет.**

## ПЫТАННЕ ПРА ПАЭЗІЮ

напрыклад рамеснікі
— паэты
гэта ў іх чаравіках
адмяраю пуды майго дня
а я
ні паэт ні рамеснік
ганюся толькі
за напісанай казуляй
наіўна спадзяваючыся
што ўцячэ ў ненапісаны лес



**М. Давідзюк. Заслужаны для...**





*АЛЕСЬ СВІСЁК (Аляксандр Батура) нарадзіўся 6 жніўня 1920 года ў вёсцы Крывічы на Навагрудчыне. У час вайны — беларускі партызан, потым разведчык Другога Беларускага фронту. З 1945 года жыве ў Польшчы. Закончыў Вышэйшую Педагагічную школу ў Кракаве і працуе настаўнікам у Рагозьне, Пільскага ваяводства.*

## ВАСІЛЬКІ

*(урывак з паэмы)*

*Віктару Шведу прысвячаю.*

Прыйшла вясна
і выйшаў
стары Нёман з берагоў.
Заліў луг,
падняўся вышай —
аж пад хату рыбакоў.
Дубы ў воду па калені
ўлезлі ў люстра паглядзець
і застылі ў задуменні...
Вечар.
Зоркі ў вадзе
ўжо купаюцца,
і месяц,

Маўчаць птушкі.
Вецер сціх...
Пятро, Юрка і Алеся
плывуць чоўнам утраіх
(Юрка вывабіў дзяўчыну
пракатацца).
Цішыня.
Вада.
Далёка згінуў
бераг.
Радасна прыняў
маладых вясенні вечар.
Яна цешыцца, пяе
і смяецца, і шчабеча.
Хлопцы сумныя.
Яе,
хоць і слухаюць, не чуюць
і не бачаць, хоць глядзяць.
Вараць сваю страву злую
і страшэнную ў грудзях...

Схамянулася дзяўчына
каля Гаці,
дзе быў дуб
з гняздом буслімым.
(Там загінуў
летась Супрыкаў Якуб).
Кіпень прагна паглядала
чорным вокам на яе.
Здрыганулася, збялела.
Глянула —
не пазнае
маладых хлапцоў.
Пажарам
дзіўным
вочы ім гараць,
пашарэлі губы, твары...
— Божа!
Што з вамі?!
Маўчаць...





*ЛЕАПОЛЬД ТАНКЕВІЧ нарадзіўся 7 красавіка 1939 года ў вёсцы Савейкі на Гродзеншчыне. У 1958 годзе пераехаў у Польшчу. Закончыў Настаўніцкую студыю, а пасля Вышэйшую Педагагічную школу ў Аполі і працуе ў Нысе.*
*Дэбютаваў у газеце „Чырвоны сцяг“ (Шчучын, БССР).*

ДАРАГОЕ СЛОВА

Першакласнік,
Хлопчык Міша
Ужо шчаслівы —
Бо ён піша.

„А“ пісаць ужо умее,
Бо стараецца, пацее.
„М“ яшчэ цяжэй даецца,
Але Міша не здаецца.

Піша чыста і старанна
Дарагое слова:
Мама!



## ГАДЗІННІК

Мой гадзіннік — ветэран,
Колькі год — не знаю,
Мае шмат іржавых ран,
Хоць іх выціраю.

Бо яго насіў мой дзед,
Жартаўнік вусаты.
Не адзін зрабіўся след —
Як хадзіў у таты.

А цяпер, як талісман,
У маёй кішэні.
Для мяне ён, як экран,
Што ляжыць у жмені.

Ды які я гаспадар,
Не паверыш, тата.
Нашу толькі футарал
З жоўтым цыферблатам.





## ЗІМА

У гародзе снег асеў.
У сукенках дрэвы.
Ён пад белую пасцель
Пахаваў засевы.

Баба снежная, глядзі,
На мятле іграе.
Хтосьці вецер абудзіў —
Вочкамі міргае.

А сасулькам-ледзяшам
Танцаваць ахвота.
Хтосьці шапкі палажыў
Белыя на плоце.

Іскры ясныя гарацъ
На зямлі, як зоркі.
Можна ў рукі іх набраць
З кожнае разоркі.





**Ян Чыквін і Сакрат Яновіч у майстэрні мастака Аляксандра Хомчыка, у студзені 1977 г.**



*ЯН ЧЫКВІН — аўтар трох паэтычных зборнікаў: „Іду“, „Святая студня“, „Неспакой“ — нарадзіўся 18 мая 1940 года ў вёсцы Дубічы Царкоўныя. Закончыў факультэт рускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Жыве і працуе ў Беластоку. Член Саюза польскіх пісьменнікаў.*

## ЭЛЕГІЯ НОЧЫ

Калі заціхне гоман дня
І вечар прашуміць сварлівы —
Ох, як да Ночы цягнецца Зямля,
Да губ яе маўклівых!

Чарнавалосая багіні,
Штодзённа йдзем к тваім рукам;
Прасіць — не вечны адпачынак,
А забыццё пасмакаваць,

Паспрабаваць бяздоння часу
У міг адзін, ў шчыліне дні,
Калі жыццё стаіць ў вачах
Глытком адвечнай цішыні;

Пазнаць пустынны шлях прастораў,
Пакуль прыліў бязмежнага святла
Не пазалоціць зноў зямны наш панадворак —
Да Ночы цягнецца Зямля.



## ЭЛЕГІЯ БЕЛАСТОЦКАЯ

Лета мінае. Апошняе лета.
Багрова-ліловае, ціха-замглёнае.
Радасна-кволае, велічна-сумнае.
Лета маё. Неўрадлівы палетак.

Лета канае. Апошняе лета.
Чэрствым агнём, святым, неўміручым
Гасне і тое, што мелася збыцца...
Лета маё. Гараць фіялеты.

Лета кароткае. Просінь над краем.
Музыкай тхне. Зямля ў фіялетах.
У вечнасці ўсе мы жывем-паміраем.
Нячутна, няўлоўна, штодзённа. Як лета.



**А. Герасімюк. Белы сабор.**

## ВЕРАВЫЗНАННЕ

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Паддаючыся салодка-дымнаму цячэнню вуліц,
Быццам човен пушчаны на віры скрыжаванняў
І пацвілыя затонні плошчаў абамлелых,
На зялёны шквал акварыумаў-паркаў,
У якіх жывуць паўсонныя русалкі-нянькі
І не спяць адважныя малакасосы.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Захапляючыся музыкай здаровай тэрміц'еры,
Архітэктураю чэрствых незнаёмых твараў,
Астравамі непракіслай радасці дзіцячай,
Буйнасцю правакацый кшталтаў жаночых,
Колерам, духмянасцю іх высокіх позіркаў
І такім жа міла-мілым тлумачальным найгрышам.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Аглядаючы раздзьмутыя вітрыны магазінаў,
Манекенаў, бы студэнтаў у час экзаменаў,
Піраміды падхарошаных дамоў патрыцыяў,
Негалосных купалаў вымоўнае маўчанне
І музеі, у якіх здавён-даўно запісана,
Як было, што дзе ёсць і што напэўна будзе.

Як прыемна ісці па чужым горадзе без спеху,
Спраў не маючы і ніякіх клункаў,
Пазнаючы распарадак лёсаў чалавечых,
Каляндар прыліваў і адліваў шчасця,
Графік болю нараджэння, болю скону...
Гэту кнігу непрачытаную я не дачытаю!
Як прыемна ісці... Нават не стамляе думка,
Што не ведаю, дзе буду начаваць.



* * *

Не пішы мне, не пішы, што жывеш у цішы.
Што сумуеш. Што нудзьга, як мыш, шуршыць.
І што шэры час па валасах бяжыць.
І што ноч — шаша самотная — перад табой
ляжыць.

Мы ішлі к сабе, шчаслівыя, быццам жнеі
да мяжы...

Ці ж не ты згадзілася ў цыганкі варажыць?
Як асот яна, як крапіва шапацела ў набрынялай
цішыні:
„Вы харошы. Многа грошы. Але путы...
Адзіноцтвам вы атруты.
Як парожнія збанкі — без агню і без душы.
Маладое пакаленне не ўмее ні ўміраць, ні жыць".



**М. Давідзюк. 8/76.**

* * *

Ці гэта прывычка жыць, як раней,
Ці гэта жыць няўменне —
Рассталіся мы... А для мяне —
Гэта глытанне камення.

Дні без цябе ночы цямней.
Ночы — дня відней, Таня.
Рассталіся мы... А для мяне —
Гэта агню глытанне.

А можа гэта маёй маладосці
З граніц сваіх цяжка так выйсці?
Яшчэ не сустрэўшы кагосьці,
Ужо развітаўся я з чымсьці.



**В. Шум. Заамарфічная кампазіцыя ў дрэве.**



## ЗАДУМЕННІ

1

Цішыня. Цемната. Піяніна.
І ты — сястра пявучага аргана —
Дзве птушкі, два аднолькавы маўчанні,
У клетцы груднай і ў клетцы драўлянай.
Свет недаступны.
Свет зачараваны.

2

Муза не спіць.
Муза стаіць за плячыма.
На вуха дыктуе ўсё
словы і словы.
Словы тут жа чарнеюць,
згарэўшы,
як куль саломы.
Сяджу папоцемку —
з аслеплымі вачыма.

3

Душа за лета пачарствела.
Штосьці ў тым ёсць,
Чагосьці ў тым няма...
Папрыгажэла зноў зямля.
Як нованароджаны —
у горадзе хаджу
няўмела я.

4

Хоць што хоч рабі —
Усё будзе, як раней.
Не спазнаю шчасця
На сваім вяку.
Страшэнная спадчына прывіта мне:
Мужык я.
І ад гэтай праўды —
Нікуды не ўцяку.

5

У звонкім небе дзень растаяў.
Вячэрнім сумам свет накрыты.
Ноч кнігу вечнасці чытае,
Хоць мы ёй пішам манускрыпты.

6

Праходзяць людзі — застаецца веліч
платоў, палацаў... ці ідэі ножык.
Або нічога. Пустыя пасцелі...
Таму ратуйцеся, хто можа.

7

Слухаць музыку любіў мой дзед:
Ад незапісаных гадоў
Круціў пласцінку·жорнаў.
І коўш мукі быў поўны.

А мы — дзеці яго дзяцей —
Муку малоць гатовы
На фанамастры новым,
Бо музыкі нам недаступная ідэя.

8

Нішто. Зямля: лугі і верас.
Зышліся Хаас, Гея, Тартар, Эрас.
І вылупіўся з недарэчнасці калекай
Сын Сонца, і назваўся Чалавекам.

9

Прыйшла у вёску ранняя вясна.
Адліг мароз. Нарэшце чаўкае балота.
Жанчыны, як гітары, чысцяць боты.
А можа гэта толькі шпакаў мітусня?

10

Апошнім часам
Сяджу над музыкай.
Чым у кнігі ўглыбляцца —
Лепш у гэты омут.
І пра мяне не думаюць
Музы хай,
Што я прадаўся слову
І толькі слову.



* * *

Дзе прападаюць рэчы вялікіх людзей:
Галошы Саванаролы,
Анучы Шэкспіра,
Вуздэчка каня Аляксандра Македонскага?

Дзе спачываюць косці
Першых уладальнікаў
Пікі,
Агню
І плуга?

Ці хто памятае
Першыя словы
Мікеланджэла,
Калумба,
Капэрніка?

Ды прызнаймася перад сабою:
Ці змаглі б мы паўтарыць
З апошняй сустрэчы
Хоць два апошнія сказы
Нашых бацькоў?

## ЭЦЮД

Спявае салавей
па няпісаных нотах.
Каламажка падымае горкі пыл.
Дзяўчат чародка
хіхікае
ў задворках.
Гарманісты пераклікаюцца
на свой
капыл.

Сустрэўшыйся — знаёмы, аднавясковец —
шапкаю вітае
і азіраецца,
адышоўшыся метраў пяць.
Жартанькі —
у глухую вёску
сын Праскоўі
прыехаў.
Будзе ў школе
навучаць.



* * *

З Зямлі мацярынствам нагрэтай,
Калі сонечны вецер павее,
Ірвецца ў прасторы каметай
Імклівая думка — ідэя:

Што дзесьці, што хтосьці ў сусветах,
Што з кімсьці, як-небудзь... А можа,
Аднекуль, нашай дарогаю гэтай,
Калісьці, чагосьці...
З дабром і прыгожым...



**А. Герасімюк. Скрыпач.**

# ЧОРНАЯ ВІЛА

## I. Змярканне

1.

Вечарэла. Кволай ноччу
Зацягнулася паўнеба.
А другая палавіна
Не магла расстацца з сонцам.

Што жывое — спаглядала
На чырвоную крыніцу.
Цішыня. Цяпло якое.
Камары стаўпом таўкуцца.

Без'языкая, святая,
Каляровая прырода
Непрыкрытая ляжала,
Як прыгожае стварэнне.

Многалікім птушкі хорам
Дзень хвалілі безупынна
Несканчонай серэнадай,
Незмаўкаючай руладай.

2

Паслухмяна вечарэла.
Як лякарства неблагое,
Як насонная настойка
У далінах пахла сена.

Гэтым пахам перагрэтым
Ашчасліўленая рэчка
Замірала ў захапленні
Ў меланхоліі цячэння.

Мост гарбаты над вадою,
Ўжо стары і ненадзейны,
Быў апошнім перапынкам
Для худых вясковых сцежак.



На расчыненых загонах
У жытнёвай аблямоўцы
Пагасала млявым дымам
Дня апошняя хвіліна.

3

Ціха-шэра вечарэла.
Толькі велічнай трывогай
Дагараў паміж кустамі
Акраец сонца дарагога.

У цяпле яго сардэчным
Нараджалася дарога.
Пазалочанаю рэчкай
Бегла ўпоперак загонаў.

А на поплаве паджараным,
Спачувальна і лагодна,
Пасла дбайна свае жабы
Пара буслаў старамодных.

Аднастайна, манатонна
У цішы раілась мошка
Ды гудзелі грозна-звонка
Жукі цвёрдыя, як брошкі.

4

Звечарэла непрыкметна.
І пад белагусты змрок
Разгайданым крокам ветлівым
Дружна йшоў аркестр кароў.

Сумным голасам старэчым,
Пакалечаным і ватным,
Ім знаёмы хор авечак
Памагаў спяваць кантаты.

Разам з імі на вячэру
Хмара птушак прыфурчэла.
І, як людзі глухаватыя,
Гусі тэпалі дахаты.

Але ткнутыя у сэрца
Прадчуваннем, што бяда,
Лямант паднялі ля дзверцаў:
„Гаспадыня наша дзе? І гаспадар?“

II. Здзіўленне

Вырачыўшы вочы ў клейкім змроку,
Дзеці неабцёсанай прыроды,
Аглядалі са здзіўленнем ў роце
Панадворкі родныя, знаёмыя.

Але ўсё было, як і раней:
Той жа воз і тая ж клуня,
Крапіва пад плотам аж да хаты,
Дзе пад хлеўчыкам на скрыпках
Страдзівары
Свінні нудна нешта сёння йгралі.

І нідзе нічога не было выключнага.
Як заўсёды, спадылба на іх глядзелі
Рэчы ўсе, якімі мучаць,
Рэжуць, б'юць і паганяюць.

І таму, павесіўшы пакорна вушы,
Згодныя на ўсе няшчасці, здзекі,
Слухалі, ці ў гуках ранняй ночы
Не чуваць дзе крокаў чалавека.

Чалавек — двуногая істота.
Чалавек — таемнае стварэнне.
Бог дзвярэй, агню, усіх прадметаў.
І мастак пярэднімі нагамі кідацца
каменнем.

Можна з ім дагаварыцца,
Мець заступніка-карміцеля,
Толькі нельга пад ім рыцца,
Ні рагамі і ні задам біцца.

„Прыдзе ён, прапахлы потам,
Дымам нейкім і цыбуляй.
І спачатку песціць, туліць,
Каб праз хвілю ўдырыць потым.

Але гэта не балюча.
Толькі так неспадзявана...
Можа ён нас гэтак вучыць
Філасофіі сялянскай?



Прыдзе баба гаваркая,
Што пачэша нас, памые.
Ну, мы проста маладзеем.
З ёю цешымся, брыкаем.

Любяць нас таксама дзеці
Паганяць па панадворку.
Зразумела — бегаем без толку.
Але з боку як прыемна паглядзець
На гімнастыку вялікіх цел!"

Штосьці дзесьці шамацела:
Быццам дзверы ў хаце праскрыпелі...
Быццам у хляве салому слалі...
Быццам да вады іх клікалі,
Бразгаючы вёдрамі бляшанымі...

Але гэтак гаманілі
Сціснутыя шэрасцю прадметы.
Не ішоў ні гаспадар, ні гаспадыня
У ліхтарыку са светам.

У глухмені матылінай
Дом чарнеўся фурай сена,
Што застрагла ў вязкай гліне.
Ні агеньчыка на сценах.

— Дзе яны прапалі сёння?
Ці мо гэта здарылася ўчора
Ў нашай вёсцы Белазверы?
Людзі зніклі, як камфора.
Так бязлюдна, што не верыш!..

Ну, каб хоць адзін, напрыклад,
Чалавек застаўся з імі...

„Хто напоўніць нам карыта?
Малако хто сцэдзіць з вымя?
Запражэ нас хто ў аглоблі?
Хамутом-вянком лаўровым
Хто наш упрыгожыць воблік?
Хто надзене нам падковы?

Хто заколе нас пад свята,
Калі мы ўжо — бочкі сала?
Гэта ж чыстае распяцце —
Страціць веру ў ідэалы!

Ці ж мы супраць йшлі каго!?
Не чакаўшы з неба манны,
Елі бульбу — наш пірог,
Каб таўсцець. Усё для плана!

Ні вада атрутая, ні травы,
Не стамілі волі нашай.
Мы штодзень няслі дзяржаве
У дарунку воўну, мяса.

Пакудахтваючы крыху,
Быццам дзед на лаўцы,
Нават драбяза птушыная
З нічога рабіла яйцы.

Людзям каб жылося ўволю!
Каб не елі з адной міскі —
Мы хадзілі з імі ў поле
З кнігамі эканамістыкі..."

Цішыня, як чорны шалік,
Сум, трывога ў Белазверах.
Слабанервныя рыдалі,
Гледзячы ў адчыненыя дзверы.

Чулася то тут, то там па вёсцы:
„Дзе наш даражэнькі гаспадар?
Прабачэння ў цябе просім!
Будзь заўжды нам ўладар!"

Летні сон, скупы і палахлівы,
Распасцёр свой сцяг рабочы,
Запрашаючы паспаць шчасліва...
Але як драмаць такою ноччу!

Толькі вераб'і і вераб'іхі,
Быццам грэцкія арэхі,
Моцна ўбіўшыся у стрэхі,
Пазяхалі вельмі ціха.



III. Віла

1

Ноч: стаяць глухія сцены,
Зорным небам дах пакрыты
Ды заткнуты ў кроквах венік
На будынку — чорнай віле.

У пакоях ціха-мяккіх
Дрэмлюць дрэвы. Спіць каменне;
Засланіўшыся імхамі,
Толькі чэрапамі свеціць.

Разлажылася выгодна
Між дарогамі да шчасця
Усё ахрышчанае поле —
Спіць глыбокім сном пясчаным.

У папоцемках вільготных
Брагай смачнага пахмелля
Расцякаецца паўсоннае
Цела цёплай чорнай рэчкі.

2

Ноч — штодзённая будоўля:
Як пагоня за няўлоўным,
З пазяханняў чорнай прорвы,
З таямнічых нітак Арыядны;

З круглых бэлькаў пажадання,
З лабірынтаў, як дыямант,
Сцен, абвешаных маўчаннем
Непрыкметнай Чорнай Дамы;

І з балеснасці кахання,
Нечаканага заўчасу,
Распасцёртага нястрымна
Нейкаю заслонай дымнай
Над жыццём кароткім нашым.

І з парогаў невядомых,
За якімі — паміранне.
У чорнай віле, гэтым доме,
На саломе: сном пацвілым.
Не за позна — не за рана!

3

Ноч — не віла, а палацца,
Запаветная зямля для рэчаў,
Для замучаных прадметаў
Не пад сілу чорнай працай.

Рухне дзень — і ўсе кагалам
Хціва падаюць, ляцяць
На зямлю, са стогнам — жалем:
„Адпачынку мала! Мала нам!“

Спяць — не спяць: навыварат, наўгад,
Тронкі вырваўшы з заціску гора...
Іх жыццё, ох, цвёрды мае лад!
Бо яны ўсе — дзеці Піфагора.

А цяпер ніхто над імі не крычыць —
Ткліва пазіраюць, выцягнуўшы формы:
Хоць шурпатасць хочуць зберагчы
І сабе — для сувязей, і для патомных.

4

Ноч — шчаслівае жыллё!
Без бяды клубіцца радасць.
Вабіць пышнасцю яно здалёк,
Быццам даўняя Элада.

Курыцца над вілай фіміям,
Варыцца нектар у кадзях,
Смяротныя па тэлевізары глядзяць
Паўтарэнне іх шматзначнай драмы...

Цішыня, спакой — унізе, на гары —
Часу мернага не зловіш тупат...
Толькі чутна ледзь, як голыя звяры
Паядаюць свежую цыкуту,

Смокчуць, нібы з сотаў мёд,
У парыве несвядомым і трывожным.
І таемны сверб, як велічны намёк,
Адчувае паасобна кожны.





*ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ нарадзіўся 8 лістапада 1926 года ў Чаромсе. Закончыў Ленінградскі Палітэхнічны інстытут. Працуе ў Міністэрстве энергетыкі ў Варшаве.*

## ЖАНЧЫНЫ З ЛУЎРА

Палац каралеўскі дрыжыць ад людзей.
Палкі пілігрымаў з далёкіх краін
Прыйшлі паглядзець на асколкі падзей,
Застылых у бронзы ці ў фарбах карцін.

Крылатая Нікэ пускае без віз.
Як вулей, гудзіць разнамоўны натоўп.
Павольным патокам уверх альбо ўніз
Плыве ён, як Сена, між арак мастоў.

Тут цяжка запомніць усіх мастакоў,
Палотны якіх паглядаюць са сцен,
Ад тых невядомых з сярэдніх вякоў
Да слаўных, як Гойя, Ван-Гог ці Гогэн.

Ва ўсіх калідорах і залах, са сцен,
Зрок вабяць фігуры і твары жанчын
Вясёлых, як сонца, і смутных, як цень,
Дам, пышна адзетых, і голых багінь.

Вось „Клеўская Анна“ — Гальбейна партрэт —
Глядзіць, як жывая, з-за тоўстага шкла.
Апранута, быццам ідзе на банкет,
Ці мо к каралю ў каралеўскі палац.

У сукні, як рыза, адкрыты ўвесь ліф,
Пад ёй шэмізетка ажурная ўся,
Карункі ўсю шыю, як вуж, аплялі,
А крыж і каралі блішчаць, як раса.

Твар доўгі і тонкі, ні следу маршчын,
Пад верхнімі вейкамі два вугалькі.
Дзве вузкія бровы спадаюць з вяршынь,
А вусны маленькія, як матылькі.

А Гальса „Цыганка“ глядзіць дзесьці ўбок
І шчыра смяецца, не ведаць чаму,
Дзве голыя грудзі зліліся ў клубок,
Пакінуўшы кофту, як п'яны карчму.

Зноў смутныя вочы ў „Мадам Рэкам'е“:
Фрывольна ў кашулі прысела ў шэзлонг
У келлі пустой, нібы дзесьці ў турме,
І страсна чакае, калі прыйдзе ён.

Далей „Адаліска“ — карціна Інгрэ —
Цудоўныя плечы паказвае нам.
Здаецца, нядаўна папала ў гарэм
І вельмі баіцца султана яна.

Другую жанчыну „Крыніцай“ назваў,
Якая чароўна, на левым плячы
Трымае ў руках перахілены збан,
З якога вада ручайкамі цячэ.

І поўнае грацыі цела яе,
І грудзі, як яблыкі з райскіх садоў,
Красою сваёй разбудзіла ў мяне
Крыніцу ўспамінаў пра ўсю маладосць.

У зале, направа ад цёмных дзвярэй,
Дзівосная шафа стаіць ля сцяны.



Яе абступілі натоўпы людзей —
Ніяк наглядзецца не могуць яны.

З той шафы, як з клеткі, праз шыбу акна
Джаконда чаруе усмешкай жывой.
З вачэй жа яе свеціць водбліскам дня
І радасць, і шчасце, і цёплы спакой.

Далей — сотні новых жаночых вачэй
Праводзяць мяне цераз цэлы палац.
Аб кожнай тут можна было бы яшчэ
Асобна паэму ці верш напісаць.

А колькі статуй цудоўных багінь —
І грэцкіх, і рымскіх з далёкіх вякоў,
Мадонн і царыц, каралеўн і княгінь,
Народжаных скульптара ўмелай рукой.

„Венера Мілоская“ з пены марской,
Змянілася ў мармур, як светлы янтар.
Стаіць напаўголая ў позе такой,
Што вее з яе абаяльнасць і чар.

Хоць позірк яе накіраваны ўбок,
Хаця і без рук, ды, здаецца, жыве,
І хочацца мне, каб ступіла хоць крок
І выйшла на двор, каб прайсці па траве.

Паказвае нам „Афрадыта ў садах“,
І фрукты ў руцэ і палову грудзей,
І думае, пэўна, аб новых пладах,
Якія любоў прынясе для людзей.

Мінуў ужо час я выходжу на двор.
Тут кветкі на клумбах гараць у вачах,
Усюды краса, цішыня і прастор,
А я быццам п'яны стаю на нагах.

Я чуць буду доўга — і ноччу, і ўдзень,
І твары і позіркі розных жанчын:
Вясёлых, як сонца, і сумных, як цень,
Дам ў пышным адзенні, і голых багінь.

## ДЖВАРЫ

Мы смутна глядзім на разбураны храм,
На сцены, пакрытыя цвіллю вякоў,
На плямы слядоў невядомых нам драм,
Зацёртых стагоддзяў, праплыўшых ракой.

Калі мае продкі з пячор, з курных хат,
Да ідалаў пушчы ахвяры няслі,
Даўно візантыйскі і крыж і абрад
Прайшлі пераможна па гэтай зямлі.

Тады як грыбы вырасталі царквы,
Абвітыя панцырам сцен крэпасных,
І помнік далёкіх падзей векавых
Стаіць перад намі ў праменнях вясны.

Хоць корпус яго аскетычна прасты,
Ды чуць у ім сілу і дзіўны спакой,
І толькі фасады зрок вабяць густым
Рэльефам з арнаментам ранніх вякоў.

На вежы высокай ўзнімаецца крыж,
На купале, як на кароне стаіць,
І, хоць пацямнеў ён высока ўгары,
Абліты праменнямі ярка блішчыць.

А вокны-шчыліны глядзяць, як праз сон,
На голыя скалы, нізіны з травой,
На Мцхету — сталіцу ґрузінскіх плямён,
На моцны абдымак Арагвы з Курой.

Калісь тут, напэўна, быў гоман і рух.
Свяціліся свечкі і ладан курэў,
Было чуць манашскі і марсавы дух,
Ваенную муштру, малітву і спеў.



Арліныя вочы манахаў — салдат,
Тут зорка сачылі з-за сцен на гары
Ці дзесь не з'явіўся варожы булат
У ціхіх далінах Арагвы, Куры.

Мелодыя звона склікала народ
Да ціхіх малітваў і жорсткіх баёў,
І рэхам ішла на ваенны паход,
Вітала вярнуўшыхся з бітвы байцоў.

Не раз звон звінеў тут, як грозны набат.
І вораг не раз тут губіў палашы,
Падчас тут з'яўляўся падступны булат
І ганьбіў, і грабіў, і ўсё пусташыў.

Калі ж адыйшоў, то царква ажыла.
Прыйшлі з гор атрады байцоў маладых
І рэхам малітва ізноў паплыла,
Гаіліся раны — змаганняў сляды.

Настаў век гармат і малая царква
Хоць страціла сэнс, як ваенны аб'ект,
Ды трэба было тут яшчэ пільнаваць,
Ці вораг з-за гор не праехаў Казбек.

Калі ж цар Гераклій аддаў свой народ
Пад скіпетр магутны расійскіх цароў,
Стары манастыр быў ужо нездароў
І стаў паміраць ад нуды і хвароб.

І хутка, як Мцыры — свабоды дзіця,
Заціх ён пакорна без горычы слоў.
Асталася цела без духа жыцця,
Якое марнела ў няволі гадоў.

Як куксы тырчаць рэшткі сцен крэпасных,
Разбураны дзверы і вокны без шыб,
А ветры ўнутры, нібы крык сатаны,
Гудзяць і скуголяць між звaленых глыб.

Нам смутна, што тут старажытны шэдэўр,
Стаяўшы даўжэй ніж трынаццаць вякоў,
Марнее цяпер без апекі людзей
І гіне адзін, як разбіты флакон.

Яшчэ паглядзім на яго з-пад гары,
Ды ты не сумуй, чарнавока мая,
Хоць сэрца маё ад пратэсту гарыць,
Хоць гэта твой край, ды віна не твая.



**М. Давідзюк. Без загалоўка.**





*МІХАСЬ ШАХОВІЧ нарадзіўся 20 лістапада 1953 года ў вёсцы Сакі, што ў Бельскай гміне. Закончыў беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Жыве ў Беластоку і працуе журналістам у тыднёвіку „Ніва". Выдаў паэтычны зборнік „Праміканне" (1978).*

## СВЯТАЯ НОЧ

*(урывак з паэмы)*

*Э. В. прысвячаю*

Бурай змеценае лісце
Не вяртаецца на голле.

**П. Панчанка**

1

Ноч...
Цудоўная ноч
на маім гарызонце.
Заўтра дзень,
новы дзень,
ўзыйдзе новае сонца.
Заўтра я —
ўжо не я,
заўтра блазнам падданым
пад гітару жыцця
затрасу пустым станам,

заўтра зноў маскарад
і выгодныя танцы;
я хачу быць
вадой ў берагах,
а не ў шклянцы!
Ноч,
багіня душы,
сваёй сілай чароўнай
занясі мяне ў сон —
у краіну здароўя!
Пакуль сіла твая —
у сэрцы поўна надзеі.
Занясі мяне ў сон,
палёў снежна-белых
сэрца маё
хай крыніцаю шчасця...
Не баюся я дня,
я прывык да распяццяў...

2

У святыні моляцца,
ў святыні спевы —
уся прырода на ўсяночні.
Будзь ты лістом
маёга дрэва,
дадай чаканню саладосці,
не зачыняй
у веру дзверы! —
Чакаць прыемна,
калі верыш,
што будзе чаша ачышчэння,
што закалосяцца пасевы.

3

Ноч з тайнамі выйшла.
Эліксір надзеі
лье ў чашу
жадання
бязмежнае веры,
трызненню душы
апраўданне прыносіць;
выйшла ты разам.
Апраўданы ноччу,



лыжкаю сэрца
няўмольна шукаю
еднасці чыстай —
цудатворнага раю.

4

Я ў чоўне зялёным
пад ветраззю неба,
утканага зорным узорам.
Сядзь побач, пакінь руль —
стырна нам не трэба;
давай паплывем беззаконна.
Хай бераг загіне
ў туманах ліпнёвых
і беллю ўчарашняе стане...
забудзь аб прыпынку,
не думай, не трэба —
дзень сам нам пакажа, дзе станем.
Глянь ў казачны човен:
табе ў ім складае
ноч боскія цудныя дары;
у сэрцы трывога,
ў душы хваляванне —
што ж я табе дам у дарунак?

5

Я кветак дарыць не умею:
глядзець не магу як канаюць,
як просяць жыцця безнадзейна,
як смерцю другіх пацяшаюць;
і слоў я прыгожых не знаю —
пусты я у слоўным прызнанні,
сабой я сябе адчуваю,
калі паддаюся маўчанню.
Ты глянь тады проста у вочы —
разлогі душы маёй ўбачыш
і рві з іх усё,
не пытайся!
Там знойдзеш, што толькі захочаш...
Я кветак дарыць не умею.
З пялёсткаў
іх смерць за мной сочыць.
Але, калі хочаш дарункаў,
магу табе даць свае вочы.

* ✲ *

і на хаду
мы скачам ў караблі
і на хаду
мы пакідаем мора
аддаўшы доўг
узяты у зямлі
той жа зямлі
магутнай непакорнай
і п'едэсталы
сыплюцца пустымі
або вітаюць
ўздымам галавы
і тыя
што
па нас будуць жывымі
скажуць хто жыў
хто плываў па зямлі.







*ВІКТАР ШВЕД нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора. Закончыў Акадэмію Палітычных навук у Варшаве, Аддзяленне журналістыкі і беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Жыве ў Варшаве, працуе рэдактарам у выдавецтве „Książka i Wiedza". Выдаў паэтычныя зборнікі: „Жыццёвыя сцежкі", „Дружба", „Дзяцінства прыстань". Член Саюза польскіх пісьменнікаў.*

* ✲ *

За летам лодак рад смуткуе.
Ліствой заплакалі галіны.
З кім у дарогу паплыву я?
Хіба ўжо толькі з успамінам.

Ты адплыла, астаўся з марай.
Як Рабінзон пасля крушэння.
Блукаю ў восеньскім пажары.
Я сам, таксама, ужо асенні.



**В. Шум. Збан.**



## СКАЖУ, БЫВАЛА: „ЕДУ ДА БАЦЬКОЎ...“

Скажу, бывала: „Еду да бацькоў“,
І родзіцца ў душы настрой прыўзняты,
Што вось убачу іх, старых, ізноў
І прывітаю на парозе хаты.

Скажу, бывала: „Еду да бацькоў“,
І клопаты знікаюць, абавязкі,
І чую асалоду цёплых слоў,
І мора дабраты, і мора ласкі.

Яшчэ і сёння: „Еду да бацькоў“,
Мне па прывычцы скажацца, няйначай.
І, вось, на міг паверыць нат гатоў,
Што там, у хаце, іх жывых убачу.

Скажу я сёння: „Еду да бацькоў“, —
Цяжарам сум узваліцца на плечы,
Агорне роспач, як з усіх куткоў
Бацькоўскай хаты вызірне пустэча.

Скажу я сёння: „Еду да бацькоў“, —
І цэлы свет становіцца нямілы.
Стаю маўкліва я ля двух крыжоў,
Што там вартуюць свежыя магілы.

## КАБ ХОЦЬ РАЗОК БУДЗІЛА МАМА

Бывала, мама будзіць рана:
— Пара ўжо, уставай, сынок!
Прачнуўшыся, яшчэ заспаны,
Вяду я коней на лужок.

На лузе коні срэбны іней
Глытаюць з вялаю травой.
Клубком скрунуўшыся ў лагчыне
Хаваю ногі пад палой.

Так часта марыцца, каб мама
Мяне будзіла хоць разок,
Каб мог я босымі нагамі
Ізноў пабегчы на лужок.

Хай, як калісьці, восень сцеле
Халодны іней — ну і што ж!
Бягу я ў думках ля аселіц
І малады, і басанож.

Не скажа мама: — Пасвіць коней
Устань, хутчэй устань, мой сын...
А іней сыплецца на скроні,
Як маладосці успамін.



## ДАРОЖНЫ АРНАМЕНТ

Арнаментальны вышываны ўзор
Заўсёды бытаваў у нашай хаце.
Шэдэўры рук умелых і фальклор —
Народа шматвяковае багацце.

А сёння атрыбуты даўніны
З сяліб вясковых выціскае горад.
Са сцен ручнік спаўзае ільняны
І песні заглушае гул матораў.

Воз, трактар, матацыкл, веласіпед,
А нават гумавы бот селяніна,
Штодзённа дзіўны пакідаюць след
На ўсіх дарогах, сцежках, каляінах.

Вандрую я сярод палёў, лугоў,
І ўсюды бачу мноства ўзораў свежых.
Арнаменты сыходзяць з ручнікоў
На пасмы палявых дарог і сцежак.

## ПАЎСТАНАК МОРА

Я на Цэнтральным. Еду скорым,
Ён у тунэлі пада мной.
Прашу білет: паўстанак Мора,
А ў сэрцы радасны настрой.

І як жа тут не ганарыцца!
Таго ніколі не было:
Вядомым сталася ў сталіцы
Маё радзімае сяло.

Час уцякае нам няспынна
І гоніць нас: „Хутчэй, хутчэй!“
Тым больш прыемна: на гадзіну
Мора да горада бліжэй.



## ЗВАНЫ ХАТЫНІ

Цячэ ракою у Хатынь
Бясконцая людская плынь.
Тырчаць у неба каміны,
Гудуць, гудуць на іх званы,
Плыве іх рэквіем кругом:
Бом, бом, бом.

Журботна рэквіем гучыць
У памяць тых, хто вечна спіць,
У памяць матак і бацькоў,
У памяць дочак і сыноў,
У памяць спаленых жыўцом:
Бом, бом, бом.

Нясіце ў свет, званы, праклён
Забойцам учарашніх дзён,
Падпальшчыкам нявінных сёл,
З-пад знаку свастыкі крамол,
Што куляй нішчылі, агнём:
Бом, бом, бом.

Гудзіце, як набат, званы,
Кляйміце носьбітаў вайны.
Ніколі войнам не бываць!
Людзям ад войнаў не ўміраць!
Грыміце грозна ўсе, як гром:
Бом, бом, бом.

*Хатынь, 13.IX.1975 г.*

## МІЛЫ ДРУЖА

Мілы дружа, слухаць горка,
Ты набыў дурных манер:
Брыдкаю завеш гаворкай
Мову родную цяпер.

Нат тутэйшым, як калісьці,
Не завеш сябе, дружок.
Адарваным з дрэва лісцем
Мкнеш, дзе дзьмухне вецярок.

Мо забыў адкуль паходзіш,
Што ты нарадзіўся тут?
Ты ж плюеш на асяроддзе,
На бацькоўскі родны кут.

Ты на гарадской пасадзе
Новых падшукаў сяброў.
Нават прозвішчу ўжо здрадзіў
Сваіх прадзедаў, бацькоў.

І, магчыма, па парадку
Зробіш ты апошні крок:
Здрадзіш бацьку, здрадзіш матцы,
Астанешся, як калок.



## ВЫГАНЯЙ МАРОЗ НА ДВОР

Маем снежань, кажа мама, —
Вельмі дзіўная пара:
Кожны новы дзень з дажджамі,
А марозу ўсё няма.

Ёсць ён, ёсць, штодзённа страшыць!
— Адказаў малы Ягор. —
У лядоўніку ён нашым,
Выганяй яго на двор!



## НЕ ВЕДАЎ, ШТО ТЫ ДОМА

Выйшла мама раніцай на двор
Даглядзець жывёліну нямнога.
А, тым часам, сын яе, Рыгор,
З ложка ў сне скаціўся на падлогу.

Мама кажа: — Пасінячыў нос,
І не плакаў, мілы мой, вядома.
—Меў я, мама, вочы поўны слёз,
Ды не ведаў, што была ты дома.





## ЦІ БЫЎ ТЫ, ДЗЕДКА, МАЛАДЫМ

Пытае дзеда
ўнучак Клім:
— Ці быў ты, дзедка,
маладым?

А дзедка,
поўны дабраты,
сказаў:
— Быў жэўжыкам,
як і ты.

— Дык быў ты смешны,
дзедка мой,
з вусамі,
доўгай барадой.



**А. Герасімюк. Партрэт хлопчыка.**

ЧАМУ СПЯЦЬ ЗІМОЙ СТАНОЖКІ

Схапілася рана з ложка,
Толькі глянула на двор
І спуджалася станожка:
За акном мароз, віхор.

Дома муж, дзяцей багата,
Што рабіць цяпер, дальбог,
Як жа выйсці з цёплай хаты,
Як абуць шмат соцен ног?

І знайшлі тут выхад нейкі,
Бацькі, дочкі і сыны:
Будзем спаць усёй сямейкай
Аж да цёплае вясны.

Як прапаў мароз на свеце,
На зялёненькі мурог
Выйшлі маці, бацька, дзеці,
Выйшла многа соцен ног.





*МІКАЛАЙ ГАЙДУК нарадзіўся 29 мая 1933 г. у вёсцы Кабылянка, Міхалоўскай гміны. Закончыў філалагічны факультэт Беларускага Дзяржаўнага універсітэта ў Мінску. Працуе публіцыстам у „Ніве“.*

*Друкавацца пачаў з 1958 г.*

*ПЕРШЫЯ*

*„Въ лето 6491 иде Володимеръ на ятвяги и победи ятвяги и взя землю ихъ“.*

*(„Повесть временных лет“, запіс пад 983 годам)*

Настанне вясны святкавалі ў Кіеве тады, як сузор'е Сітца зусім знікала з неба, а Жураўліны Шлях станавіўся ўздоўж цячэння Дняпра, паказваючы паўночны напрамак.

Рана, на зорцы, з князеўскага дзядзінца і гарадскіх пасадаў высыпалі дзяўчаты і маладзіцы на навакольныя пагоркі і груды, з якіх сонца ды мяккі вецер ужо сагналі снег. Яны станавіліся колам, павярнуўшыся да сябе плячыма, і гукалі вясну. У настаўшым ранішнім паветры луналі звонкія песні-вяснянкі, упадалі ў заснежаныя яры-лагчыны, несліся ўверх і ўніз па скаванаму ільдом Дняпру. А калі распалены шчыт сонца

высоўваўся з-за далёкіх заднепроўскіх лясоў, яны сыпалі насустрач сонечным праменням зярняты яравога збожжа — ячменю і аўса — і кідалі румяныя, выпечаныя з пшанічнай мукі птушкі-жаваранкі. І печаныя жаваранкі, і збожжа павінны былі заахвоціць птушак вярнуцца з выраю і на сваіх крыллях прынесці веснавую цяплынь з краплістымі дажджамі і багатым ураджаем. Ля карагодаў круціліся чародкі хлопцаў: падспеўвалі, жартавалі, зачаплялі дзяўчат.

Суду — грыдзю княжацкай дружыны — здаравезнаму і статнаму хлапцу, які разам з іншымі маладымі грыдзямі ды воінскай моладдзю жартаваў з карагодніцамі, надта ж прыпала да спадобы стройная прыгажуня з чорнымі доўгімі косамі і карымі вачыма. Як ні намагаўся Суд дабыць ад яе хоць слова, але апроч бліску дробненькіх жамчужных зубоў ды пераліўчатага смеху, не дабіўся ён нічога. А яна то спявала, то смяялася ды, захінаючыся каўняром свайго расшытага каляровым узорам кажушка, зрэдку пазірала на хлопцаў, а на яго, Суда, нават вейкай не павяла. Толькі таго і даведаўся Суд, праводзячы карагод да самых гарадскіх варот, што даўгакосая прыгажуня знікла ў Гасцінным канцы пасаду, дзе жылі іншаземныя купцы ў перамешку з сем'ямі старэйшых княжацкіх грыдзяў.

Як ні рупіла яму сустрэць чарнульку на вуліцы, торгу ці хоць бы даведацца нешта пра яе, нічога з пошукаў не выходзіла. Адно ваявода княжацкі Воўчы Хвост, звочыўшы яго на вулачцы Гасціннага канца, замест бачыць у грыдніцы на дзядзінцы, дзе ў той час Суд павінен быў знаходзіцца, пагрозліва папярэдзіў яго:

— Па пасаду валочышся, дзявок спакушаеш! Глядзі, а то бакі твае наломяць парадкам...

А Даўгакосая смяялася ў снах і церабіла сваёй пяшчотнай рукою яго хвалістыя русыя валасы.

Толькі таго дня, калі на Дняпры рушыў ледаход, і кіяўляне, хто жыў ды здароў быў, усе высыпалі на бераг ракі, Суду зноў удалося звочыць сваю чарнавочку ў вясёлым натоўпе дзяўчат. Ён павольна, але настойліва праціснуўся да яе і стаў побач. Дзяўчаты спявалі ды перасмейваліся, а яна стаяла моўчкі і глядзела на крыгі. Тоўстая каса сплывала па амарантавай, з павалакі, нарутцы, апушанай па краях бабровым футрам. Далікатнае ружовае вушка выхінавалася з-пад бабровай шапачкі. Дзяўчаты заўважылі Суда і захіхікалі. Чарнавокая азірнулася і падалася прэч у дзявочае стадка. Суд схапіў яе за руку і прытрымаў. Яна не глядзела на яго, але рукі не вымала з далоні Суда.

— Як зваць цябе?

— Пашто? — адказала пытаннем яна.

— Так.

— Добранрава, — і яна павярнулася да яго тварам, глянула ў Судавы вочы пякучым зрокам сваіх вачэй. — А дома мяне клічуць проста Добрушка.

— Дзе шукаць цябе?

— Нідзе.

Яна не спускала з яго свайго зроку.

— Добрушка, я хачу пагаварыць з табою.

Бровы яе насупоніліся, і на лоб выхінуўся непаслухмяны завіток валос.

— Не трэба.

— Чаму?

— Так. І ў наш канец больш не хадзі, — яе рука звінна выслізгнулася з яго далоні.

Добранрава схапіла пад локці сваіх сяброваю, і яны сталі аддаляцца ў людскую гушчу. Суд стаяў, як укопаны. Глядзеў услед за знікаючай у натоўпе кіяўлян бабровай шапачкай.

— Усяроўна пайду! — выгукнуў ён, аж людзі навокал здумеліся, і пабег у крэпасць.

Цяпер ужо штодня блукаў па Гасцінным канцы. Аж, урэшце, шэрым надвячоркам скрыпнулі веснічкі перад ім, і з іх высунулася захінутая ў чорны плат постаць. Яна падбегла да Суда і, схапіўшы за руку, пацягнула за сабою ў залом паміж сцяною і тынам.

— Добрушка! — выкрыкнуў ён.

— Цішэй...

Ён схапіў яе абедзве рукі, прыціснуў да сваіх палаючых шчокаў.

— А я знаю, што зваць цябе Суд, Судзіслаў, — зашаптала яна. — І родам ты з Полацка. — Яе рука далікатна высунулася з яго рук і пальцы нясмела крануліся хлапечых мяккіх вусоў, і застылі на шыі Суда. — Але ж і дужы ты, — яна намагалася зняць з яго шапку. Ён апусціўся на калена, і Добрушка стала песціцца яго буйнай чупрынай. Ён цалаваў яе пахучую руку і маўчаў.

Пачуўся скрып весніц і вокліч:

— До-о-брушка!..

— Ой, матуля, — схапілася Добрушка. Яна ўпілася сваімі мяккімі вуснамі ў яго цвёрдыя хлапечыя губы, а потым адскочыла і зашаптала:

— Прыходзь паслязаўтра, у гэтую ж пару...

Скрыпнулі веснічкі і Гасцінны канец зноў заціх. Па дарозе ў цвердзь яму ўсё яшчэ трызніўся Добрушкавы шэпт, дотык і палаючы пацалунак...

З-за залому вулачкі выскачыла іх трох. Першы наскочыў на яго ззаду і гакнуў па галаве нечым цяжкім, а потым падаспела рэшта. Білі, дзе папала. Нешта вострае ўдарыла яму па нагах, і ён адчуў, што зямля на вулачцы яшчэ сырая і халодная. Зрываўся ўстаць, а яны таўклі яго нагамі і прыгаворвалі:

— А гэта за ваявадзянку, за ваявадзянку! Адхочацца табе заманьваць яе...

І зніклі як і з'явіліся.

Вокны ў грыдніцы зацягнуты плёнкамі з валовых пузыроў; святла прабіваецца няшмат, вакол шэрань. Убачыў ён пасярод грыдніцы стажок шэрага попелу, відаць, настыўшага. Вогнішча не распальваюць ужо колькі дзён — вясна. Баліць — спіна, бокі, а рук дык проста не ўзняць. „Ваявадзянка, значыць! Ха-ха-ха! Ну, губа ў мяне не дура. А дзеўка ж! За такую не шкада і пакутаваць!“ — усклікаў у думках Суд.

У дзвярах паказаўся яго напарнік Воймір. Пакруціўся ён па грыдніцы і выцягнуў з-за пазухі нейкі скрутак і падаў:

— Гасцінец табе, Суд.

— Ад каго?



— Не ад цёткі ж з Полацка, сам здагадваешся.

Болю таго ў Суда як бы і не было. Ускочыў ён з палацяў, разгарнуў: шырокі, плецены з каляровага шоўку пояс расплыўся халоднай змейкай па аўчыне, што прыкрывала пасцель.

— Ад яе, ад Добрушкі! — усклікнуў.

— Што ж, бацька малойчыкаў насылае, каб білі, — заўважыў Воймір, — а дачка падарункі шле, каб любілі...

*

Ветраная навала спынілася таксама нечакана, як і ўз'явілася. Пушча застыла ў трывожным чаканні. Цяжкі і гулкі гром няспешна пераваліўся над ёю, і з мутнага неба лінуў струменісты дождж.

Князь Уладзімір паспешна разгарнуў прытрочаную да сядла папону, захінуў ёю сябе і каня. Калі падручны падскочыў да князя, каб паправіць на ім і на кані накрыццё, Уладзімір стаяў ужо пад невысокай разгалістай елкай, а даўжэзны, пакручасты вуж яго дружыны рассыпаўся з гасцінца, хаваючыся ад лівеню ў ельнікавы гушчар.

Грымоты суцішыліся, але дождж не спыняўся.

Да князя пад'ехаў ваявода Воўчы Хвост, параўняўся стрэмя ў стрэмя з ім і, папраўляючы ў руках слізкія ад дажджу паводдзі, загаварыў:

— Ну і лета нам, княжа, выдалася: то суш, то гром. Нешта зямля гэтая няласкава нас судосіць. Ці не знак ано...

— Не сустрэчаю гасціна мерыцца, а провадамі, — неахвотна азваўся князь. — Ты мне драгічынца-праваднікà ды таго яцвяга-снузніка шлі.

Воўчы Хвост зумеўся на твары ад прыкрага слова Уладзімірава, прыціснуў каленямі конскія бакі і знік у лесе.

Пад аднастайны шум лівеню і пранізлы сыры зуд, што мурашкамі забегаў па плячах, паплылі згадкі і роздумы над сёлеташнім паходам.

Яшчэ вясною, калі Прыпяццю і Дняпром кацілася паводка, у чаўне-доўбанцы з крэпасці, што ля вытокаў Ясельды стаяла, прыплыў у Кіеў ста-

ражавы. Адразу з чаўна ды ў княжы двор пачаў дабівацца, да яго — князя самога. Прывёў яго дзесяцкі Суд проста ў харамы. Хацеў было Уладзімір правучыць дзесяцкага за такую нагласць, але дараваў: надта ж любіў гэтага статнага і харобрага грыдзя ды і вельмі ж горка разжалабіўся старажавы.

— Княжа ты наш, Уладзімір Святаслававіч, не забывай ты нас, — выводзіў, комкаючы ў руках кунню аблезлую вушанку. — І крэпасць спалілі, і вояў ды чэлядзь у палон пагналі...

— Хто?

— Хто ж бы, як не яцвягі. Ушчэнт усё па Ясельдзе за зіму спустошылі. Не даруй , — лямантаваў старажавы. — Мы хоць і на водшыбе, але ж гэта зямля твая і да цябе належыць...

Не першы ўжо раз з заходніх ды паўночных цвердзяў шлі ў Кіеў весткі, што племя яцвяжскае, якое сядзела на багнах і азёрах за ракою Бобраю, апошнім часам стала вельмі непакоіць землі рускія. Ваявода і тысяцкія веснавым разводдзем ісці на яцвягаў не раілі. Чакалі, пакуль лясныя гасцінцы перасохнуць і ў рэках роўная вада стане. Рушылі ажно ў чэрвені, на маладым месяцы. Вяшчок у капішчы па сэрцы ахвярнага жарабяці вываражыў добры знак. „З новым месяцам, — маўляў, — тваёй дружыне, княжа, па новую перамогу Дажджбог ісці ўказвае“.

Па Дняпры, а затым па Прыпяці плылі ў лодзях да Пінеска. Потым пераселі на коней і ішлі ў Берасцень. Там, на крутым беразе Буга, святкавалі Купалле, трэбы на капішчным пагорку, ля ног драўлянай постаці Дажджбога, вяршылі. Адтуль ужо берагам Буга ўніз па цячэнню пайшлі да Драгічына. Ля Драгічына і станам раскінуліся, каб коней адпасці ды пра яцвяжскую зямлю праведаць.

Мокне пушча ў струменінах дажджу. Набрынялая ад вільгаці папона зацвярдзела і надыбілася, стала працякаць. Конь штораз часцей уздрыгваецца ўсім целам, намагаючыся пазбыцца сцякаючых па скуры халодных струменьчыкаў вады, перамінаецца з нагі на нагу, непакоіцца.



У драгічынскіх лясах было часу і воям і маладзі на паляванні ды на рыбную лоўлю. Зубраціну і ласяціну вэндзілі або сушылі. Вядома, без сушанага мяса вою ў паходзе не абысціся: ці то на кані дабыў з троку кавалак і жуй сабе на здароўе, ці на стойбішчы, паліцай на цэрабечу пабіўшы і з вадой змяшаўшы ды круп падкінуўшы, на агні смакавітую і сытную жыгўнасць заварыць мігам можна.

Ужо і коні на паплавах бужанскіх ад'еліся; і дружына, адпачыўшы, харчу ў далейшы паход назапасіла, а пра яцвягаў весткі надта ж мутныя былі. Праўда, загон дружыннікаў, што мелі разведаць найвыгаднейшыя броды ды пераходы цераз багны і рэкі па шляху ў Яцвягію, і захапіць знячэўку яцвяжскіх палоннікаў, вярнуліся, але нічога пацяшальнага не прывезлі. Замест палоненых яцвягаў прывялі яны яцвяжскага ізгоя ды двух мальцаў-яцвяжанят. Гэтыя ў пушчы заблудзіліся, за зверам нейкім пагнаўшыся, адбіліся ад сваіх сялібаў. Нічога толкам сказаць з-за свайго малалецтва не маглі. І ізгой нямнога мог паведаміць не толькі пра сілу яцвяжскую, але і пра мясціны, у якіх нарадзіўся. Яшчэ юнаком, як цвярдзіў ён на допытах, у час аднаго з нападаў яцвяжскіх трапіў у палон да крывічоў. Прабыў там год чатыры каля Полацка і працаваў нявольнікам. Пасля ж дружыннік-гаспадар даў яму волю і пасадзіў у сваім сяле смердам-земляробам. Але пры першай нагодзе былы нявольнік вырашыў збегчы на сваю радзіму. Доўга блукаў ён па наднёманскіх пушчах і нетрах, пакуль трапіў у сваю воласць-пулька. Усё ж яго род не прыняў, выракся. Не хацеў мець у сваёй абшчыне таго, хто спляміў гонар крыві свайго роду палонам і працай у ворагаў. Галасіла маці, плакалі сёстры, але радавое веча было няўмольным. Вяшчок-крывейт трохкратным стукам свайго посаха-крывулі пацвердзіў прысуд веча. І павандраваў ізгой-яцвяг з небагатым скарбам за плячыма: тапаром, пешняй, лязівам і іншымі бортніцкімі прыладамі ў нічыйную пушчу, што прасціралася паміж рэкамі Бобраю і Супраслю. Там жыў некаторы час у адзі-

ноце, там і злапалі яго князеўскія дружыннікі.

Багата больш мог паведаміць купец драгічынскі Гасціслаў. Хадзіў ён не адзін раз у далёкую Самбію аж да мора Варажскага, каб памяняць там серабро ды жалеза на прамяністыя самбійскія панцеркі з янтару-бурштыну. Гэты ведаў болей, бо па ўсёй Яцвягіі часценька вандраваў. І прышлося залатой манетай развязваць Гасціславаў язык.

— Што ж, княжа, хіба рушым, бо зусім адубеем тут стоячы, — азваўся зноў Воўчы Хвост, сваім з'яўленнем зганяючы марыва Уладзіміравых разважанняў.

Разам з ваяводам пад'ехалі купец Гасціслаў і два яцвягі — снузнік і ізгой — ды жменька прыстаўленых да іх стражаў.

— Дзе б тут выгадна на стойбішча засекчыся льга было б? — звярнуўся князь да Гасціслава і яцвягаў.

Тыя ціхенька перашапнуліся між сабою і Гасціслаў паведаміў:

— Вялікі княжа, у ласцы нас маючы, за стрэлы два зараз будзе рэчка Белая. Там і стан учыніць можна. Берагі яе ў тым месцы сухаватыя, і брод якраз...

— Добра, — спыніў яго Уладзімір. — Едзьма, а то і ноч нас застане ў гэтай чэкарадзі, — сказаў ён і падаўся на гразкі гасцінец.

Пад конскімі капытамі захлюпала раскіслая ад дажджу гліна. Прыдарожныя дрэвы насякерыліся, мокрае лісце стракацела яскравым бляскам. Хвалямі налятаў імжысты дробны дождж. Дружыннікі маўчалі. Пахропвалі коні ды час ад часу дзвэнкала зброя.

І ўсё ж такі ён адважыўся пайсці паходам у Яцвягію. Калі ўжо не возьме зямлю, дык хоць рубяжы дзяржавы свае цвердзямі замацуе. Таму і вакол Драгічына давялося ягонай дружыне і моладзі належным чынам патупаць. Бо то і нуда людзей не заядае, і моцы ў целе прыбаўляецца. Не валаводзілі: дзядзінец цвердзі пашырылі, валы ў тры росты мужнія ўвысь падсыпалі, вастраколлем дубовым новым сцены крапасныя ўзмоцнілі. На дзядзінцы хорам валадару цвердзі ды грыдніцу стражам абнавілі. І толькі тады, як лік вояў у цвердзі павялічыўся за кошт маладых рамеснікаў і іншага вольнага люду, якіх ён сваёй княжай воляй у грыдзі ўзвёў, адправілі багам належныя трэбы і ранкам наступнага дня паход рушыў у палуночным напрамку. Яшчэ на адыходзе новымі сценамі Драгічына ён залюбаваўся: на стромкай гары, над пакручастай магутнай ракою, пільна сцярог ён шляхоў путнага і рачнога. І не дзіва — Драгічын, значыць, шляхі-дарогі адчыняе. О, не! Цяпер яны для ворагаў будуць наглуха загароджанымі і недаступнымі, а гасцям-купцам тут ахова і прыстанішча. Так, вось ужо першы дзень паходу ў няведамую Яцвягію на зыходзе...

Дождж суняўся. Пухкі сыры туман звольна высоўваецца з долаў і багнаў, залівае звілістую стромань гасцінца. Нізка, над самай зямлёю, выныраве з яго нейкі цень і бесшахотнымі ўзмахамі крыллеяў набліжаецца насустрач коннікам. Звочыўшы іх, падрываецца ўгору і паспешліва нікне ў чорных кронах прыдарожных дрэваў. Гэта сава пачала сваё вячэрняе паляванне.

Нанач засекліся на выжары над ракою Белаю. Выставілі атрады старажоў, абсушыліся пры вогнішчах, перакусілі.

Ужо лежачы на разасланым на ялінавых галінках конскім потніку і падсунуўшы пад галаву сядло, глядзеў ён у тонь ліпеньскага неба і слухаў, як спавольна заціхае стойбішча, а рэдкія пярэклікі стражаў штораз больш аддаляюцца і глухнуць у сутонях пушчы. Так, сённяшнім днём ён здаволены: сама меней попрышчаў паўтара адолелі, так, паўтара, пэўне...

Ранак выдаўся росны, крамяны здаровым халадком. Гэта на пагоду, не інакш.

Уладзімір не чакаў, пакуль падручныя нарыхтуюць снедзь ранішнюю. Прыняўшы сказ военачальніка начной аховы, што ўсё было спакойна і нідзе нікога не заўважылі, князь выйшаў з засеку, каб зірнуць на наваколле.

Сонца прабівалася яскравымі стрэламі скрозь кашлатае галлё, рассыпалася мірыядамі іскрынак па роснай лістоце і іголлю дрэў. За сцяною змур-

шэлых старэчаў-ялін прасціралася нешырокая разложына ракі Белай і нейкай іншай рачулкі. Пры яе вусці ў Белую высіўся невялічкі груд, увесь зарослы ляшчынай і маладым дубняком. Толькі на яго сярэдзіне, на самым высокім месцы, раскінуў свае голле таўшчэзны дуб.

„Ладнае месца, — падумаў князь, — разлог і дрыгвяніца навокал, якраз пры гасцінцы, і брод побач".

І прыйшло непахіснае рашэнне. Ён клікнуў некалькі вояў, што па заведзенаму здаўна парадку, будучы яго асабістай аховай ні на крок не адступалі ад свайго князя.

— Сачыце ўважна, куды ўпадзе, — сказаў ён і, зрабіўшы некалькі крокаў разбегу, пусціў сваё кап'ё ў напрамку груда на разлозе. Кап'ё бліснула, лукам пераляцела над дрыгвіцаю і знікла ў гушчавіне дубняку.

— Пайдзіце, знайдзіце і пазначце месца, — загадаў князь.

Пасля снедання Уладзімір сказаў Воўчаму Хвасту даць знак збору. Пушча мігам загула граннем сігнальнага рогу. Яго рэха звонкім адгалоссем плыло над разлогамі рэк, патанала ў зарасняках аеру і чароту.

Князь павярнуўся тварам да гатовых да выхаду вояў і зычным голасам прамовіў:

— Друзі, зане рушым да селішчаў ворагаў нашых, пакіньма тут, на зямлі нашай, свой след. Учыньма трэбы багам нашым, хай успамогуць нас у пачыне, і заснуйма цвердзь, каб мясціну гэтую сцерагла.

Па натоўпу вояў, што стаялі сотнямі роўнымі, на колькі дазваляла гушчэча пушчы, пракаціўся водгук згоды і прыхільнасці.

Князь звярнуўся да свае аховы:

— Вядзіце нас.

Пакуль воі прабіраліся на выжар-астравок, ён клікнуў к сабе ваяводу, яны затрымаліся і сталі цішком нешта абмяркоўваць. Воўчы Хвост аб нечым горача пераконваў князя, той спачатку не згаджаўся, але потым прытакнуў яму. Ваявода клікнуў к сабе дзесяцкага Суда:



— Што ж, застанешся і цвердзь будаваць будзеш. Князь Уладзімір Святаслававіч загадаў сваёй воляй узяць табе дзве дзесяціны вояў і столькі ж рамеснага люду з Драгічына прывядзеш.

Суд зумеўся ад нечаканага загаду: не па сэрцы яму была гэтая пушчанская глухамань, а тым больш быць валадаром крэпасці, якую трэба самому збудаваць. І гэты настрой не ўцёк ад ваяводзіна вока.

— І не падумай аб іншым! — прыстрашыў Воўчы Хвост. — Будзем вяртацца з Яцвягіі — палоннікаў да працы падкінем ды праверым старанні твае. І калі што не так, табе ж і пільнаваць цвердзі гэтай да часоў оных...

Суд пакорліва схіліў галаў і, павярнуўшы каня, ад'ехаў выконваць загад. А ваявода тым часам ужо быў пры князі, пытаў:

— Уладзімір Святаслававіч, а імя якое цвердзі дасі?

Князь на міг задумаўся, глянуў у бок ракі і сказаў:

— Над ракою Белаю стане, значыць, імя Бельск і няхай ёй будзе. А тут і рачулка яшчэ спакойная, такая любая...

— Праўда твая, рачулка надта ж мілая, — згадзіўся ваявода. — Рачулку Любкаю зваць будзеце, — звярнуўся ён да грамадкі вояў, што акружала дзесяцкага Суда.

Кап'ё тырчэла ля самага камля таўшчэчы-дуба. Вяшчок у свяшчэнным ходзе ўжо абтоптваў вакол дуба траву і маладыя парасткі дрэў. Следам за ім пасоўваліся яго памочнікі. А ён, адшукаўшы яркі сонечны прамень, што прабіваўся праз таўшчэчу лістоты, падышоў і падставіў пад яго свой пааран маршчынамі, старэчы, зарослы сівымі касмамі твар.

Воі застылі ў цішы.

Вусны вяшчка спачатку шэптам, а затым усё грамчэй і грамчэй пачалі выкідваць:

— Кроў... крыві...

І ён раптам скокнуў наперад, закруціўся тройчы на адным месцы і, стаўшы перад князем, па-

блізу якога воі трымалі на аркане ахвярнае жа-рабя, закрычаў надтрэснутым дрыжачым голасам:

— Крыві!.. Не звяроў бязвінных, а крыві ворагаў нашых жадаюць багі! Дай яе, княжа, дай, і пад сценамі цвердзі тваё ворагі заўсёды знойдуць толькі смерць. Дай, Уладзімір Святаслававіч, крыві яцвяжай...

Калі падручныя вяшчка валаклі яцвяжскіх малалеткаў да дуба, дзе ўжо высіўся ахвярны касцёр, у іхніх блакітных вачах адбіваліся праменні ліпнёвага сонца. Яны не крычалі і не вырываліся. Іх ніхто не навучыў крычаць перад смерцю. Шырока раскрытымі, даверлівымі вачанятамі яны шукалі ў натоўпе чужых мужаў-вояў спагады. Але зрок дружыннікаў спачываў на грывах коней.

Шмарагдава-зялёны, шаўкавісты мох, што ўсцілаў карэнні і камель дуба, набрыняў ад крыві і стаў іржава-карычневым. Шуганула полымя ахвярнага кастра. Калі ён згарэў разам з целамі ахвяраў, сабраны попел вяшчок і яго памагатыя рассеялі па ўсяму груду, каб ачысціць зямлю, дзе стане цвердзь, ад злых духаў і пераваротняў.

Потым некалькітысячны вуж паходу ўпоўз у нетры пушчы, кіруючыся далей, на поўнач.

*

У засеку, што натапырыўся голлем навонкі, а камлямі дрэў быў у сярэдзіну, утвараючы для нападаючага непралезную перашкоду, а засекшамуся ў ім зручны схован для абароны, за пару дзён наладзілі тымчасовы будан для людзей і павеці для коней. Суд вылучыў частку вояў, што заняліся нарыхтоўкай сена жывёле ў далінах абедзвюх рэчак і жыўнасці самім на паляваннях вакол будучай цвердзі. Як толькі прыбыла з Драгічына першая група цесляроў на чале з гароднікам — майстрам па будаўніцтву цвердзяў-гарадоў, адразу ж прыступілі да капання глыбокага рову, які адвёў бы частку плыні рэчкі Любкі і акружыў бы груд ад захаду, утвараючы такім чынам вакол будучай цвердзі вадзяную перашкоду. Зямлю з рову валілі на груд, насыпаючы з яе даволі высокі абаронны вал. Калі ён ужо быў гатовы, узяліся да стаўлянння наежанай вострымі канцамі вонкі крапасной сцяны. Пад сякерамі будаўнікоў паволі, але няспынна адступала ад груда кашлатая пушча.

Суд, гледзячы на гэты ўсыпаны пнямі выгалак, меркаваў, што калісьці будуць тут зусім ладныя агароды ды палеткі. Але цяпер праца была страшэнна цяжкая. Валячы і вывалакаючы з пушчанскай крэкадзі дубы, да ўпаду мучыліся людзі і валы. Людзі, перакусіўшы, вечарам падалі покатам вакол вогнішча і засыналі мёртвым сном. Шкадуючы іх, часам самому Суду даводзілася станавіцца на начную стражу, хоць пасля працавітага дня клеіліся вейкі і падкошваліся ногі.

У такія часіны ён вышукваў у трапяткім ад сполыхаў-маланак жнівеньскім небе тыя зоркі, што паказвалі на поўдзень і згадваў пра далёкі Кіеў і яе, Добрушку. Яна ўсплывала перад вачыма такою, якой ён бачыў яе апошні раз.

Быў тады пагодны дзень і кіяўляне выйшлі праводзіць князя і яго дружыну ў далёкі паход у таямнічую Яцвягію. Заліваліся дуды-сапёлкі і грымелі бубны, скамарохі выкручваліся ў скоках, а маладзіцы ды дзяўчаты махалі грыдзям на развітанне сваімі каляровымі платамі-хустамі. Старэйшыя жанчыны ўціралі слёзы, але ён, Суд, пазбягаў глядзець на іх і шукаў у натоўпе іскрыстых карых вачэй. Аднак іх нідзе не было відаць. Вось і канчаецца Кіеў, дружына перайшла ўжо пад Ляцкімі варотамі, а Добрушкі нідзе няма. Засумавала Судава сэрца, забалела.

Пакручасты вуж паходу ўжо сплываў, уздымаючы хмару пылу, з пагорка ў даліну, калі там, побач дарогі, каля куста ўсыпанай квеццем каліны, раптам ён заўважыў некалькі жаночых постацей. Дзве з іх спакваля ламалі калінавы цвет ды складалі ў букеты, а трэцяя пільна сачыла за пылістым і гарлапаністым паходам.

— До-о-обрушка-а! — міжвольна вырвалася з Судавых грудзей, і ён у некалькі скокаў каня быў ужо каля яе, сышоў з сядла.

Дзяўчына стаяла, апусціўшы ўніз зрок, і маў-

чала. Яе тонкія пальцы нервова сашчыпвалі паасобныя белыя пялёсткі з буйных суквеццяў, шчокі пакрыў густы румянец.

— А я баяўся, што ўжо цябе не ўбачу, — сказаў, задыхаючыся ад узрушання і поспеху, Суд. — Намерваўся нават зайсці ў ваш церам, бо ўсе апошнія вечары па падваконіччу хадзіў...

Добрушка на гэта неяк дзіўна ўздрыгнула ўсім целам і з жахам у вачах глянула на юнака.

— Ой, не трэба, не трэба, а то татулька надта ж...

І яна раптам змоўкла і зноў апусціла долу вочы.

— Так, так, не трэба... Пэўна, што ўжо цяпер зусім не трэба, бо ты — перада мною, — выдушыў з перасохлага чамусьці горла той і дакрануўся рукою да яе тоўстай дзявочай касы, пушчанай свабодна па высокіх грудзях, далікатна пагладзіў яе. Дзяўчына стаяла, не падымаючы зроку і не абмаўляючыся словам. Але вось яна нечага ўсхапілася, сунула абедзве рукі ў кішэні свайго карзна і выцягнула адтуль тонкі чырвоны шнурок з шоўку, а на ім вырэзблены з празрыстага янтару маленькі молат. Умомант узнялася на дыбкі і, абхапіўшы шыю дзецюка рукамі, завязала на ёй гэты шнурок.

— Гэта молат магутнага Тора. Ён прыносіць воям шчасце і засцерагае ад смерці, — загаварыла яна, спяшаючыся. — Прывёз яго наш знаёмы норман-вараг са свае айчыны, з-за мора, ну, ведаеш, таго Варажскага мора. Ты якраз ідзеш у той бок. Няхай ён цябе сцеражэ, — яе вочы то ўпіваліся ў яго зрок, то, быццам ласкаючы, бегалі па хлапечым твары, і зараз жа напоўніліся слязьмі. — Гэта ўжо ўсё, усё... Сядай на каня і едзь... Едзь!

— Добрушка! — і Суд спрабаваў абняць яе тонкую постаць.

— Не! — далікатна, але рашуча ўстрымала яна хлапечыя рукі. — Едзь ужо. Я не хачу развітвацца з табою, я заўсёды буду там, дзе і ты...

Конь пад хлопцам ірваўся да сваіх, да паходу, але яздок раз-пораз затрымоўваў яго, каб яшчэ паглядзець на тыя тры жаночыя постаці, што ўсё не адыходзілі ад калінавага куста. Неўзабаве шлях зноў узвіўся на пагорак, а даліну завалакло пыльным туманам, і прагавіты зрок Суда ўжо не змог знайсці ў яго муці любімую постаць. Падобна, як цяпер тую зорку на паўднёвай ускраіне неба, там за ракою Белаю і за лясістым пагоркам. Яна, відаць, патанула ў наплыўшай восеньскай хмары.

„Я заўсёды буду там, дзе і ты...“ — звінеў у вушшу воя далёкі дзявочы голас.

Балючы сум па мінулым і, як яму здавалася, назаўсёды беспаваротна страчаным, агарнуў яго. „Даволі! Не век жа гібець мне тут, у гэтай лясной крэкадзі. Кіну ўсё зараз жа і паеду...“ Ён рэзка павярнуўся і подбегам кінуўся да павеці, дзе сталі коні. Пакуль дайшоў туды, думкай, бы маланкай, прабег увесь шлях ад берагоў гэтай лясной рачулкі да далёкага магутнага Дняпра Славуціча. Вось Драгічын, Мельнік, Бярэсце, Пінск, Тураў, Оўруч, ну а з Вышгарада ўжо і сцены Кіева відаць. І тут ён раптам стаў, бы ўкопаны. Перад яго вачыма ўсплыла шырокая плаха на кіеўскім дзядзінцы, а над ёю галава воіна, што стаіць на каленях, са звязанымі рукамі, і тапор з шырачэзным лязом, і кат... Кат паволі бярэ аберуч тапор, размахваецца ім і з-за пляча апускае яго на мяккую белую шыю...

— Не! — раптам на ўвесь голас крыкнуў Суд. — Не, я гэтага не хачу. Я жыць хачу, а не паміраць як здраднік і ўцякач...

Ён схапіў абедзвюма рукамі сябе за шыю, адчуў пад пальцамі ніць шоўку. Выцягнуў янтарны малаток Тора, сціснуў яго ў далоні і цяжка ўздыхнуў.

Азірнуўся і прыслухаўся, ці часам хто не пачуў яго воклічу, і, упэўніўшыся, што ўсюды цішыня і пустэча, паволі, нага за нагою, павалокся да будана. Раскурштаў там са сну аднаго з вояў, загадаў яму стаць на старожы, а сам паваліўся снапом на ягонае цёплае яшчэ логава.

Першы замаразак ударыў нечакана.

Неяк пасля некалькіх сонечных, ветраных дзён наступіў ціхі, з іскрыстымі зоркамі вечар. Рані-

цай жа наступнага дня трава аказалася ўсланай шэрым марозам. Зварыў ён густыя зараснікі крапівы над ракою, пазалаціў лісце на бярозах і вязах, дадаў болей чырвані калінам.

Пасля ранішняга абходу наваколля, вяртаючыся, Суд затрымаўся на разводным мосце, што злучаў крэпасць з гасцінцам. Пад мостам, у глыбокім сажняў на два і шырокім сажняў на чатыры рове, стыла чорная тарфяная вада. Па-над ровам высіўся стромкі, сажняў у чатыры-пяць насып, а на ім ззялі жаўцізною свежа абкараваныя бярвенні, камлямі ўкапаныя ў насып, а завостранымі вярхамі ўзнятыя па-над надрэчнымі лозамі і алешынамі.

„Да канца пабудовы яшчэ далёка, але і за гэтым частаколам, калі што-якое дык можна будзе знайсці надзейную апору і схованъ", — думалася яму.

Гэтыя думы-згадкі перапыніў яму падыйшоўшы вой.

— Учора ноччу, калі я на старожы стаяў, дык з вежы прыкмеціў, што недзе там, — і ён паказаў рукою на поўнач, — у бок ракі Нарвы, значыцца, вогнішча вялікае гарэла.

— А мо лес гарэў? — перапытаў Суд.

— Не, гэта не лес, — запярэчыў яму вой, чалавек старэйшы ўжо, з сівымі скронямі, які, відаць, не ў першы паход адправіўся. — Гарэла ўсю ноч роўна і на адным месцы.

— Ну і што? — устрывожыўся Суд.

— Цяжка сказаць, — нерашуча азваўся на тое вой. — Яно каб самыя яцвягі, што ў разбой сабраліся, дык хіба ж не паважыліся б класці ноччу вогнішча, пра нас ведаючы. Хутчэй за ўсё, гэта нейкая грамада нашых з яцвягамі вяртаецца.

І здагадка старога воя спраўдзілася надвячоркам таго ж самага дня. На дзядзінец цвердзі ўваліўся натоўп конных русаў і капы дзве перавязаных босых палонных яцвягаў. Воі адразу заняліся параненымі сваімі таварышамі. Адным памагалі сысці з сёдал, іншых вымалі з калысак, што былі на насілах завешаны паміж двума конямі, паілі ды кармілі іх, даглядалі раны. Палоннікі ўселіся цеснай гурбою пасярэдзіне дзядзінца і з-пад ілбоў, варожа, сачылі за воямі.

— Ну, як табе тут сядзіцца, язвец ты пушчанскі!? — рагатаў на ўсё горла і валіў сваёй шырачэзнай, бы лапата, далонню па плячы Суда выразна пахудзелы за гэтыя месяцы Воймір. — Нябось, чарнавокая ваявадзянка кожную ноч табе сніцца. Толькі, пэўна, камары ды кляшчы сон дагледзець да канца не даюць! Ха-ха-ха! Сумуе там, у Кіеве, бедная сама, бы перст той. Што ж, вядома, ні бацькі табе паблізу, ні мілага!..

Воймір, які ўзначальваў прыбыўшую грамаду, цешыўся не толькі таму, што ўбачыў свайго сардэчнага сябра цэлым і здаровым, але і таму, што ўдалося прывесці ўсіх даручаных яму палоннікаў. Як ніяк, але прайсці цераз такую пушчу з сотняю яцвягаў, што ў лесе выгадаваліся і якім кожны куст, бы бацька родны, гэта не малая радасць. Цешыла яго таксама і тое, што рана на баку ад яцвяжскага нажа, пачала добра загойвацца. Так што ў Кіеў ён прыбудзе зусім здаровы.

Недзе за поўнач шугала полымя вогнішча, а яго спалыхі кідалі на частакол абароннай сцяны доўгія цені дзвюх постацей. Гэта Воймір з хваляваннем расказваў свайму прыяцелю аб уласных прыгодах ва Уладзіміравым паходзе ў Яцвягію.

Авалодаць гэтай краінай пушчаў, азёр і балот не было лёгка. За два з лішнім месяцы скарылі толькі восем пагостаў, па-іхняму — пулек, а ўсяго ў Яцвягіі іх трынаццаць. У тых васьмі — князёў-кунігасаў або ў няволю ўзялі, або перабілі, калі бараніліся надта, здольных да зброі адразу перавязалі, а рэшту на веча сагналі ды князь Уладзімір дань вызначыў і сваіх цівуноў-правіцеляў паставіў. А вось тыя пяць аніяк не паддаваліся. Здаецца, усе іх куткі з'ездзілі ды стапталі рускія атрады і яцвяжскія саюзнікі іх, а калі нанач станавіліся ў пакінутых пустых паселішчах ці цвердзях, дык яцвягі, быццам з-пад зямлі, вылазілі і ціхачом рэзалі спячых вояў, як воўк авечкі. І давялося воям Уладзіміравым нанач узводзіць на гладкіх мясцах засекі. Але і яны не маглі быць перашкодай ваяўнічым абаронцам свае зямлі. Як

вужы між наваленага бярвення, праціскаліся ноччу яцвягі скрозь засек і кідаліся на наезнікаў і іх прыяцеляў. Але вось князю Уладзіміру ўдалося, нарэшце, запанаваць над усёй Яцвягіяй...

Род Лоніса паспешліва рыхтаваўся да вялікай урачыстасці, і то ўрачыстасці падвойнай для яго: па-першае, князь Уладзімір узвёў самога Лоніса на пасад вялікага кунігаса-князя яцвяжскага, валадара над усімі скоранымі кунігасамі іншых воласцей-пулек Яцвягіі, па-другое, князь рускі ранішыў узяць сабе ў жоны дачку Лоніса, прыгожую і звітную Анцю. Вяселле вызначылі на трэцюю поўню месяца ад таго часу, калі рускія атрады перайшлі дрыгвястыя багны на рацэ Бобры і ўступілі ў краіну яцвяжскую. Часу да поўні аставалася зусім нямнога — усяго шэсць дзён. Таму ў хаце Лоніса такая гарачка. Нават ён, Воймір, хоць і быў прыстаўлены да нагляду за тым, каб не сталася нічога благога князевай нявесце, часта браўся за тую ці іншую работу, забыўшы пра свае абавязкі. Разам з Лонісам і яго сынам Сайнасам ды поўнай сотняй вояў-русаў яны цэлымі днямі гайсалі па пушчы. Палявалі. Асочвалі зубрыныя і турыныя стады, падыходзілі чароды дзікаў, ганяліся за аленямі. Восень была на сыходзе: звярына адпасеная, сытая.

Аднойчы Воймір пайшоў у гоне за мядзведзем. Звера высачылі Лонісавы людзі ўчора, каля аўсянога поля. Ён прыходзіў паласавацца спелымі грывамі аўса. Ноччу гуляў у стажку збожжа, а ўдзень адлежваўся ў ельнікавым гушчары, пад выкаратнем. Адтуль падняўся зусім перад нагоншчыкамі, яшчэ логава засталі цёплае. І пайшоў у бок сасновага рэдкалесся. Ці то нюхам узяў ці так сабе надумаўся, але ішоў зусім не ў тым кірунку, дзе засела засада. Трэба было добра накруціцца на конях па зарасніках ды гушчарах, пакуль выкіравалі яго ў патрэбны бок. Цяпер звер ідзе добра. І зусім не спяшаецца. Яны, нагоншчыкі, штораз болей завужаюць кола, круцяць трашчоткамі і крычаць, каб адвесці яго ўвагу ад засады. А засада вось-вось. Ці пройшоў бокам?.. Не! Ярасны рык звера і крык чалавека зліліся ў адно. Воймір моцна сціскае ўзброенымі ў вострыя калючкі абцасамі свайго абутку конскія бакі. Ляціць стрымгалоў цераз выкаратні і пні. Голле хвошча яго па нагах, руках, твары...

Калі конь захроп і раптоўна затрымаўся, зарыўшыся пярэднімі капытамі і амаль сеўшы на заднія ногі, Воймір убачыў, як Лоніс і некалькі вояў-русаў з доўбнямі і рагацінамі завіхаліся каля бурай купіны. Купіна рыкала, зрывалася ўзняцца на ногі. І цяпер толькі Воймір заўважыў, што заднія мядзвежыя ступні зусім падобны на чалавечыя. Заўважыў таксама, што яны цалкам голыя, у трэшчынах і задзёрынах. Яшчэ некалькі размашыстых узмахаў доўбняй, і бурая купіна страсянулася ў смяротных дрыжыках. Войміру стала вельмі шкада мядзведзя.

Плача Анця. Плача яна з самай раніцы, галосіць на ўвесь двор. Вось і госці сышліся. Нешта не вельмі іх многа. Больш за ўсё гэта кунігасы-ціўуны — новыя падданыя Лоніса, і зусім мала суседзяў. Пэўна зайздросцяць Лонісу. А мо пагарджаюць... Хто іх ведае? Вось і конь князя Уладзіміра разам з многалюднай вясельнай дружынай уехаў на Лонісаў двор. З хаты выходзіць гаспадар у дарагой блакітнай сукні. На яго шыі зіхаціць залаты абруч, на руках — браслеты, сукня ўтыцкана гузамі-запанкамі. Ён бярэ ад слугі сярэбраны здабычны жбан і абкаваны бронзай рог. Падыходзіць да князя Уладзіміра, схіляецца ў нявольнічым паклоне, хапаецца за князеўскае стрэмя і слініста цалуе бот Уладзіміра, у знак бязмежнай пакорлівасці; падае яму рог мёду.

На парозе хаты паяўляецца Анця. Маці і сёстры ўжо абвялі яе вакол хатняга вогнішча, развіталася яна з родзічамі, пажыткамі, хатнімі рэчамі. Цяпер вядуць яе за стол, каб пасадзіць па левую руку Уладзіміра.

Паволі вясельная бяседа хіліцца к канцу. Пагас жар у вогнішчах пад верацёламі, на якіх нявольныя пяклі вельзныя тушы зуброў, тураў, ласёў і вяпрукоў, каб на сталы ішло мяса, бухаючае смакавітай парай, прапахлае ядлоўцавым дымком ды распаранымі ўнутры надзяваннямі з прыпра-

вамі. Ад кумысу ды старога сычанага мёду, з-пад якіх валяюцца на падворку пустыя амшэлыя стругвы ды бочкі, у бяседнікаў бясследна прападае настрой прыгнечанасці і насцярожанасці. То тут, то там, спачатку нясмела, а потым штораз грамчэй чуюцца за сталом вясёлыя песні.

На падворку з'явілася грамадка музыкантаў, і адразу весела загаманілі дуды і свісцёлкі, зарагаталі паляўнічыя рогі. З-за сталоў паднялася моладзь. Спачатку русы, аправіўшы на сабе святочную вопратку, пайшлі ў кола. Паляўнічыя рогі заклікалі на збор, і каляровы карагод пакрочыў павольна і паважна. Урачыстасць і дастойнасць выхаду бачны і ў размераным кроку і ў засяроджаным выразе на тварах. Рогі паскорваюць свой кліч, і кола ўсё хутчэй і хутчэй кружыцца ў дружным тупаце, быццам конніца, заўважыўшы налятаючых ворагаў, рушыла ім насустрач. Але вось загаманілі-заенчылі дуды і свісцёлкі, кола шаснула і раздалося ўшыр ды ў промнях заходзячага сонца бліснулі мячы і скрыжаваліся з сабою ў звонкім удары. Згібаюцца ў танцы воі, напружваюць мускулы і, быццам рысі, накідваюцца на напарнікаў, тыя падаюць на калені, а калі налятаючыя пераскокваюць над імі, зрываюцца і зноў скрыжоўваюць мячы. Віруе кола, звоняць мячы — русы танцуюць свой ваенны пляс.

Яцвягі згрудзіліся вакол танцуючых, зырка сочаць за зграбнымі і ўвішнымі рухамі сваіх пераможцаў. Музыкі сцішаюць гранне, але кола яшчэ доўга шалее ў гарачцы танца-бітвы. Толькі ўрачыстае паведамленне рогаў, што перамога здабыта, сунімае танцуючых, яны зноў урачыста і дастойна крочаць па колу ды неўзабаве рассыпаюцца з яго, каб саступіць месца яцвягам.

У танцавальны круг высыпаецца стракатая чародка дзяўчат. Да іх падбягаюць яцвяжскія воі без зброі. Дуды і пасвісцёлкі смяюцца дробненькім пагодным рогатам, і рухлівае кола весяліцца ў танцы-жніва. Схіляюцца зграбныя дзяўчаты ні то ў паклоне вясельным госцям, ні то ўяўнай жытняй ніве, а воі, рослыя і здаравенныя, ходзяць важным крокам вакол жнеек-танцавальніц, быццам сцерагуць іх працы. У гранні музыкаў вуха вылоўлівае пералівісты спеў жаўронка і здзіўлены кліч перапёлкі. Жніво блізіцца к канцу, танцуючыя кружацца ў групках-ляшках, групкахмэндлях важкіх калоссем снапоў...

Углядаюцца русы ў пляс яцвяжскі, і па тварах іх ходзіць цень задумы і згадак пра свае далёкія нівы і спакотную жніўную пару на хвалістых палетках, дзе ў паркасці перад ліпеньскай навальніцай так смакавіта пахне жытні колас.

І ці то здалося Ваймiру, ці гэтак было на самай справе, але твар у князя Уладзіміра таксама спахмурнеў. Клікнуў ён к сабе ваяводу Воўчага Хваста, нешта сказаў яму ўпаўголаса. Ваявода ўзняў над сталом свой стальны з пазалотай шчыт і ўдарыў у яго некалькі разоў рукаяццю мяча. Музыкі адразу абарвалі гранне, танцуючыя затрымаліся, павярнуўшы галовы да князя. Уладзімір падняўся, павёў позіркам па бяседніках і яны цалкам застылі ў напружаным чаканні.

— Адно сонца ходзіць над намі па небе, — пачаў ён голасам роўным і цвёрдым, — аднаму валадару-князю дадзена трымаць зямлю. Калі сонца хаваецца за моры-акіяны, каб на спачынак легчы, тады месяц срабрысты пільна сочыць за сонечнай гаспадаркай. Так і тут: час нам на спачынак заслужаны — у горад наш стольны Кіеў мы падамося неўзабаве, а за гаспадаркаю нашаю тут, у зямлі Яцвяжскай, глядзець будзе наш верны родзіч і слуга кунігас Лоніс. Яму даручаем мы сачыць за спакоем у тутэйшай зямлі, карпатліва збіраць дань нам належную і адсылаць яе ў сталіцу нашую. І за заслугі для нас учыненыя даруем яму персцень вось гэты.

Князь Уладзімір зняў са свайго ўказальнага пальца цяжкі залаты пячатны персцень і падаў яго сядзеўшаму побач Лонісу. Той схапіў персцень дрыжачымі пальцамі, усхапіўся з месца і пахіліўся ў нізкім паклоне. І Воймір выразна заўважыў, як па тварах яцвяжскіх вояў прабег цень нездавальнення і пагарды. За сталамі зашалясцелі шэпты.

— Кунігас Лоніс — вой слаўны і мужны, —

працягваў Уладзімір, — вам усім кунігасам будзе, і вы яму послухам служыць павінны. А каб заручыцца вашай вернасцю для нас, паедуць з намі сыны вашыя.

Кунігасы схапіліся са сваіх месц, бліснулі нажы і мячы... Позна! Каля кожнага яцвяга стала двох-трох рускіх рояў з мячамі ў руках. Што ж, давялося ім згадзіцца на гэтую першую і найбольш каштоўную даніну. Толькі той кунігас, што стаяў перад Воймірам, не здаваўся і паспеў тыркнуць нажом у Войміраў бок. Цэлае шчасце, што не глыбока. Сябры-воі зараз жа памаглі моцна крывавячую рану прысыпаць парашком са спецыяльнага зелля, што яшчэ славутая вядзьмарка яму ў Полацку нарыхтавала, перавязалі кужэльным платам. Гной у рану не ўкінуўся, і Воймір адчуваў сябе ўжо зусім добра.

Раніцай наступнага дня Воймір разам з параненымі воямі, іх аховай і часткай палоннікаў падаўся ў бок Драгічына, а Суд, прыставіўшы да работы пакінутых яму яцвягаў, загадаў усім вольным ад абавязкаў воям падацца разам з ім на паляванне. Трэба было нарыхтаваць значныя запасы харчоў, бо неўзабаве магла завітаць уся княжеўская дружына з Уладзімірам на чале, ідучы гэтым шляхам у Кіеў. А і ў цвердзі якраз настаў на гэта час: на магутных завесах спачылі акаваныя жалезам дубовыя вароты, умацоўванне сцен вастраколлем было закончана. Цяпер майстры ды пад іх наглядам нявольныя яцвягі працавалі пры крыцці стрэхаў на будынках, свірнах ды стайнях. Крылі чаротам. Трымаў здаровы марозец, і ўсе багны над Белаю, Любкаю і безліччу безыменных рачулак і ручаёў сталі даступнымі чалавеку. Па чорнай стопе накасілі добрага матэрыялу, што будзе ляжаць на стрэхах доўгія дзесяцігоддзі.

Паляўнічыя высыпаліся на Драгічынскі гасцінец і накіраваліся на разлогі, што прасціраліся над рэчкамі Нурцом, Нурчыкам і Лясной. Мясціны тыя, яшчэ належна не абжытыя чалавекам, кішма кішэлі ад markнага ляснога звера, асабліва дзікаў, бо векавечныя дубровы сталі тут уперамешку з цёмнымі ельнікамі ды тапілымі алешнікамі. На зазімку ў іх толькі і гуляць паляўнічаму. І яны гулялі, аж віхрыўся за конскімі капытамі апаўшы лісць ды іграла ў цяцівах лукаў звонкае паветра.

Вырваўшыся ад натужлівай работы пры пасечцы пушчы, вывалаканні бярвенняў, узвядзенні цвердзі ды ад няўсыпнага нагляду за палоннымі, што цягнулася з дня ў дзень, без пярэдыху вось ужо колькі месяцаў, воі разгуляліся на прыволлі, як дзеці. Нават Суд, хоць яму як начальніку для захавання павагі належалася ўстрымацца ад усялякіх свавольстваў, і той ні ў чым не ўступаў сваім падначаленым — і ў здумках і ва ўчынках. Разам з імі раз-пораз ладзіў то спаборніцтвы ў стральбе з лукаў, то ў кіданні коп'яў, то ў гонках навыперадкі па пушчанскіх палянах. Ад іхняга маладзецкага рогату і воклічаў далёка, на цэлае попрышча, галёкала рэхам пушча ды з елак і сосан гусцей сыпалася кастрыца.

Гулялі так дзён чатыры. А калі здабычы сабралася столькі, што кожны яздок, прымацаваўшы да сядла канцы дзвюх жэрдак, валок за сабою складзеныя на іх па некалькі пудоў дзічыны, усе пачалі выцягвацца на гасцінец, каб падацца ў Бельск. Марудзілі. Нікому не спяшалася пакідаць пушчанскае раздолле і спыняць паляўнічыя прыгоды. Суд таксама сумным вокам праводзіў адплываючыя назад маляўнічыя паплаўцы над рэчкамі ды магутныя, пакарэжаныя навальніцамі і пражытымі стагоддзямі дубы. На сэрца клалася нейкая туга ні то па адыходзячым леце, ні то па нязбыўшыхся асабістых надзеях.

З гэтай задуменнасці выхапіў яго пад'ехаўшы вой:

— З боку Драгічына дружына нейкая ідзе, — паспешліва паведаміў. — Вялікая і цяжка ўзброеная. Здаецца, і парокі для здабывання валакуць з сабою.

— Няўжо?..

— Якраз па той бок Нурца на гарэлы лес выехалі — усё відаць, як на далоні.

Суд прышпорыў каня і ўмеў апынуўся на па-

горку. Асцярожна выглянуў з-за сасонніку на гарэлае і замёр: за надрэчнымі лугамі, па гасцінцы звольна пасоўваўся значны натоўп коннікаў. У яго сярэдзіне, хістаючыся на калдобінах і падскокваючы на карэннях ды пнях, каціліся наладаваныя нечым вазы. З адлегласці больш чым паўвярсты нельга было дакладна разгледзець падрабязнасці зброі і вопраткі, але ўвесь гэты атрад надта не спадабаўся Суду — ад яго тхнула нечым незнаёмым, чужым. Суд прыкінуў вокам, якую баявую сілу ўяўляюць сабою чужынцы і не на жарт занепакоіўся: яны далёка не пад сілу паўтара дзесятку ягоных вояў. Тым больш, што падаючыся на паляванне, яны не ўзялі з сабою мячоў, шчытоў, кальчугаў, шаломаў і іншага ўзбраення, а запасы стрэлаў у іх цалкам распахадаваліся. Суд цішком павярнуў каня, спусціўся з пагорка і ўплык кінуўся да сваіх.

Тыя, зведаўшы пра небяспеку, зграмадзіліся на палянцы, непадалёк гасцінца. Хоць яны і не падавалі па сабе выгляду, але ў душы кожнага з іх было не весела: іх, без зброі ды на змучаных конях, любы вораг мог пералавіць голымі рукамі. З увагай слухалі яны свайго начальніка.

Суд жа загадаў упаляваную дзічыну прыхаваць у зарасніках. Палову вояў, адабраўшы ім рэшткі стрэлаў ды некалькі коп'яў і прашчаў, адразу накіраваў у Бельск, каб цвердзь папярэдзілі аб пагражаючай небяспецы і да абароны належна рыхтаваліся. З другою ж палавінай рашыў застацца тут, бо хацеў як след распазнаць непрыяцеля ды, калі надарыцца магчымасць, нечаканым нападам аслабіць яго сілу.

Калі за дрэвамі зніклі ад'ехаўшыя воі, ён з астаўшыміся падаліся бліжэй ракі Нурчыка і, заняўшы выгоднае для атакі месца, замерлі ў чаканні.

У пушчы панавала асенняя ціш. Толькі дзесьці паблізу мітусілася і цінькала стадка сініц ды на вершаліне сухой елкі дзяцел старанна вымалочваў караедаў. Сонца нядаўна сышло з поўдня, але кароткі асенні дзень ужо хіліўся к канцу.

Раптам праз кволыя зыкі пушчы прабіўся скрып калёс, людская гаворка ды пафырkванне коней. Па ўмоўленаму сігналу, Суд, а за ім іншыя воі, вынялі з калчанаў па страле і моцна сціснулі пругкія гарбінкі лукаў. З-за пагорка высунуліся першыя ездакі, цяпер стрэлы ў Судавых вояў ляглі слізкімі брэхвамі на ўказальным пальцы левай рукі. Ездакі на палёт стралы — цяцівы на луках дзвэнкнулі і напружыліся...

— Стой! Ні з месца!.. — уладна крыкнуў Суд.

Атрад затрымаўся, а воі ў ім адразу працягнулі рукі да лукаў і калчанаў са стрэламі.

— Не рушцеся! У нас цяцівы нацягнуты! — прагучэў Суд, і, калі незнаёмыя воі апусцілі рукі, спытаўся: — Хто вы, адкуль і куды ідзеце?

— Мы — купцы хазарскія аж са слаўнага горада Іціля, што прасціраецца там, на цёплым усходзе, дзе рака Волга ўлівае свае воды ў мора Хвалінскае, — азваўся зычным голасам адзін з вояў. — Цяпер ідзем мы са стольнага горада Кіева ды ў Яцвягію, дзе рускі князь кап'ём славу сабе павялічвае.

І тут сталася нечаканае: у атрадзе з аднаго каня звітна ссунулася лёгкая постаць і, з узнятымі высока рукамі, кінулася ў бок Суда. Судавы воі паправілі цяцівы і на яе нацэлілі жалезныя наканечнікі сваіх стрэлаў.

— Стойце! Не страляйце!.. — закрычаў Суд і, апусціўшы на бядро свой лук, сціснуў пятамі конскія бакі і, бы камень з прашчы, выскачыў на гасцінец.

— До-о-обрушка!.. Гэта ты?! — крычаў ён, на хаду саскокваючы з сядла.

— Я!.. Я, Суд! — галасіла дзявочым голасам постаць, пакуль не заглухла ў мядзвежых абдымках воя і тут жа ўзвілася над галавою на яго магутных руках, каб зараз жа зноў туліцца да мужчынскіх грудзей.

І ўсё гэта дзеялася колькі хвілін на вачах у некалькі дзесяткаў вояў і купцоў, што ўжо паспелі перамяшацца з Судавай засадай. Перапытвалі яны адны другіх пра самыя важныя навіны ды час ад часу кідалі зайздросныя позіркі ў бок маладой пары.

Калі Суд ачнуўся ад нечакана авалодаўшага ім тут шчасця, адразу ж накіраваў двух сваіх дружыннікаў у Бельск, каб паведамілі цвердзь аб хуткім з'яўленні гасцей, а ўвесь атрад папрасіў дапамагчы перавезці на вазах і конях упалявaную ў пушчы дзічыну. Усе ахвотна кінуліся ў зараснікі і выцягалі адтуль тушы тураў, аленяў, дзікаў, цалкам апраўдана спадзяючыся смакавітай вячэры. Яна ім належалася пасля поўнага цяжкасцей і пагражаючых смерцю прыгод сённяшняга дня. Атрад зноў выраіўся на гасцінец, як ужо стаў апускацца змрок.

Суд і Добрушка ехалі побач сябе, у самым канцы атрада. Іх паспешлівай ды блытанай гаворцы не было ні канца ні перапынкаў. З апавядання Добрушкі адно пятае праз дзесятае даходзіла да свядомасці Суда. Ён усё ж зразумеў, што пасля выезду князеўскай дружыны ў Кіеве пацягнуліся шэрыя і сумныя дні. Добрушка ўвесь час думала пра Суда і яго лёс у далёкай Яцвягіі. Але з Драгічына прыбыў у сталіцу адзін дружыннік, і ад яго дзяўчына пачула, што яе любы, быццам бы, замест ваяваць яцвягаў, у нейкай лясной крэкадзі будуе старажавую крэпасць. Яна не ведала: ці цешыцца гэтым, ці плакаць. Праз колькі дзён набралася адвагі і пачала прасіцьмаліць у маці, каб пусціла яе ў падарожжа наведаць бацьку. Тая з першых слоў зразумела ўсю дзявочую недалёкую хітрасць і, нават да канца не даслухаўшы просьбаў, закрычала ды затупацела нагамі, што ніколі дзеўкі ў далёкі свет не пусціць, бо цяпер пайшлі такія паганыя часы, калі не смерць дык немінучая ганьба яе спаткаюць зараз жа за сцяною Кіева. Але Добрушка спачатку выплакалася ўволю, а потым зрабіла выгляд, нібы паслухалася маці і нікуды прочкі з дому не збіраецца, пачала ўсё-такі потайкам рыхтавацца да далёкага падарожжа. І тут зусім выпадкова даведалася пра хазарскіх купцоў, што намерваліся адправіцца з Кіева ў Яцвягію. Аднойчы вечарам, сказаўшы, што яна ідзе да сяброўкі-суседкі, Добранрава згарнула ў кашалёккаліту дараваныя ёй бацькам залатую грыўню, бранзалет, пярсцёнкі і іншыя каштоўнасці і па-за вугламі прабралася ў Гасцінны двор да хазарскіх купцоў. Тыя спачатку і слухаць не хацелі яе просьбаў, бо нікому з іх не спяшалася класці пад тапор на плаху ўласную галаву. Аднак бляск золата дадаў іх сэрцам адвагі. У тую ж ноч з дзвюма старэйшымі воямі са свае аховы яны адправілі дзеўку вярхом у адлеглы Тураў і загадалі чакаць там іхняга прыбыцця. І хоць, напэўна, ваяводавы служкі перерэтрэслі ўвесь Кіеў, але на ніякі след уцякачкі не натрапілі. Праз некалькі дзён, ужо ў Тураве, яны ўтрох шчасліва далучыліся да прыплыўшага па Дняпры і Прыпяці атрада купцоў. Далей усё падарожжа аказалася не такім страшным, як лемантавала маці. Праўда, адзін маладзенькі купчык пачаў было смаліць да яе халявы, але яна пры ўсім атрадзе з'ехала яго па твары і гэтым адбіла ахвоту і ў іншых да заляцанак. У надбужанскай цвердзі, Берасцені, яны спаткалі Вайміра з паранёнымі русамі і палоннымі яцвягамі. Той расказаў Добрушцы ўсё, што ведаў пра свайго полацкага земляка і прыяцеля Суда. І так вось праз тры тыдні яна апынулася тут. Праўда, купцы казалі, быццам гэта таму, што на цэлым шляху была расчышчана дарога ды расстаўлены спецыяльныя старожы для дапамогі вяртаючымся з паходу зраненым воям. Хазары ж ахвотна падаваліся на поўнач, следам князеўскага паходу. Лічылі, што якраз цяпер, пад аховай рускіх вояў, падвярнулася ім нагода добра загандляваць. Вядома, здабычнымі нявольнікамі, футрамі, воскам ды іншымі таварамі воі асабліва даражыць не стануць. Значыць, ім, купцам, вялікае нажыўе пахне...

У Бельску, хоць ужо было далёка за поўнач, сустрэлі іх, як належыцца: на абшырнай пляцоўцы перад варотамі шугала полымя, а ў стайнях шчодрай рукою быў закладзен корм коням. І бяльшчане, і госці, адразу кінуліся пячы на верацёлах прывезеную свежаніну. Суд жа, зняўшы Добрушку з сядла, узяў у адну руку смольную палаючую галавешку ды абхапіў другою

гнуткі дзявочы стан, павёў госцю па цвердзі. Блытаючыся і паўтараючыся, ён намагаўся перадаць усё тое, што давялося яму перажыць у доўгія месяцы разлукі, узводзячы тут гэтыя тоўстыя сцены. Добрушка раз-пораз перапыняла яго апавяданне, прыбліжаючы свае пульхныя губкі да яго цвёрдых і абветраных воінскіх вуснаў.

Бяседа каля вогнішча цягнулася аж да золаку. І было пры чым: бяльшчане не скупіліся на закуссі, а купцы — на віно, што прывезлі ў скураных мяхах. Толькі недзе на досвітку расспяваная гурба разбрылася на спачынак у будынкі цвердзі.

У пустой грыдніцы, на ложы, у перапынку між шаленствамі здзейсненага кахання, дзяўчына доўгапальцай рукой песціла ўсланыя пружыністымі кольцамі валасінак мускулістыя Судавы грудзі. Дотыкам пальцаў наткнулася на шаўковую ніць і прымацаваны да яе малаточак Тора. Яна прыблізіла яго да сваіх вачэй. Кавалачак бурштыну, разагрэты палкім целам каханага чалавека і ўласным, унутраным, цёплым святлом, выдаўся ёй прамянюючым нейкай чароўнай сілай. Яна далікатна пацалавала яго.

— Чаму цалуеш? — спытаўся Суд, што з-пад апушчаных веек назіраў за Добрушкай.

— Ён споўніў маё пажаданне, — прашаптала дзяўчына.

— Якое?

— Збярог цябе.

І іх зноў захліснулі пяшчоты.

Было ўжо недзе пад вечар, калі нехта моцна і настойліва застукаў у дзверы грыдніцы.

„Ну і каму гэта ўздумалася непакоіць мяне ў такі час? — пацяху злаваўся Суд і, асцярожна выняўшы руку з-пад разамлелага ў сне Добрушкавага стану і прыкрыўшы футранай коўдрай яе грацыёзнае голае цела, ён накінуў на сябе карзно, выскачыў босы ў сенцы і абурыўся на стоячага там дзесяцкага:

— Ты што, здурнеў?! А мо з дзяўчынай ніколі не спаў? — І шырачэзная далонь зграбастала дзесятнікавую бараду аж у таго затрашчалі сківіцы. — Хіба зайздрасць цябе заела!..

Колькі хвілін пеніўся раз'яраны Суд на пабялелага ад трывогі дзесяцкага, але калі злосць военачальніка крыху неяк улеглася, той выгарнуў:

— Не да любашчаў тваіх нам... Князь Уладзімір у цвердзь уваходзіць!..

Гэтыя словы, быццам ледзяны віхор — агеньчык свячы, здзьмухнулі Судаў любоўны жар. Ён стрымгалоў кінуўся ў грыдніцу.

За некалькі хвілін яны з Добрушкай паспешліва апрануліся, а Суд прывесіўшы да пояса меч і ўсклаўшы шалом, накіраваўся было да дзвярэй, як тыя раптам расхінуліся ва ўсю шырыню і на парозе з'явілася постаць самога ваяводы Воўчага Хваста:

— Вось які ты! — гучэў ён. — Свайго дабрадзея нават сустракаць не гаразд. Звіў сабе на зіму гняздзечка ды храпеш, бы той мядзведзь у бярлозе...

І тут ён раптам знямеў, а яго твар наліўся нядобрай чырванню:

— А гэта што?! Ты-ы-ы! — і ён зволна пачаў набліжацца да Добрушкі. — Ах, шкура ты свавольная!

Добрушка стаяла пры ложы, бы нежывая. Суд, белы як сцяна, захіліў яе сваім тулавам ад наступаючага ваяводы. А той ужо вытузнуў з ножнаў меч. На шчасце, падскочыўшы тысяцкі ўсім сваім целам абвіс на ваяводавай замахнуўшайся руцэ і меч мякка апусціўся на гліняны ток.

— Абое на плаху!!! Цягніце іх пад тапор! — рычэў ваявода, вырываючыся тысяцкаму і іншым падаспеўшым на дапамогу воям. — Я сам, уласнаручна, адсяку ім галовы...

Некалькі грыдзяў наблізілася да патрупелых Суда і Добрушкі і пачалі вязаць іх вяроўкамі.

Раптам у грыдніцы ўсе расступіліся, даючы дарогу ўвайшоўшаму князю.

— Што тут такое? — спытаў Уладзімір.

— Дык, вось, дзеўка ваяводы з Кіева збегла ды

аж тут на ложы ў малойчыка апынулася, — не без злараднасці паведаміў тысяцкі.

— Сваёй рукой галовы адсяку! — не сунімаўся раз'юшаны Воўчы Хвост.

Князь павёў зрокам па грыдніцы, і яна зараз жа апусцела ад лішніх вачэй і вушэй. Затым ён загадаў развязаць Добрушку і Суда ды, падышоўшы да ваяводы, па-сяброўску пахлопаў таго па плячы:

— Не кіпяціся, Хвасток, і не шалей. Так яно ўжо вядзецца: нам, старым, ваяваць — ім, маладым, любіцца. Хвалю юнака, бо дзеўка, як маліна.

І князь агарнуў сваім вопытным мужчынскім вокам спраўны дзявочы стан.

— Дык, уся ж мая надзея на яе была... — ні то заенчыў, ні то ўсхліпнуў Воўчы Хвост. — Княжа, ты ж ведаеш, што Дажджбог мяне сынам не ашчаслівіў...

— А вось табе і сын! — усклікнуў Уладзімір, паказваючы на павесялеўшага Суда. — І то майстар яшчэ які! Бач, цвердзь ладную адбухаў. Цяпер жа як возьмецца ўнукаў табе майстраваць — толькі коней ды зброю рыхтуй! Капа воіяў нам прыбудзе, ды яшчэ якіх!..

Уся грыдніца аж здрыганулася ад здаравеннага ваяцкага рогату, а пачырванеўшая Добрушка сарамліва апусціла долу вочы.

Ваявода доўга яшчэ не мог супакоіцца ад нападкаўшай яго нечаканасці. Выпытаў усё падрабязна ў Добрушкі, а потым злаваўся ды войкаў усю ноч навылет, нават вока не заплюшчыў. Але калі на ранак князь Уладзімір, паснедаўшы з Анцяй і Добрушкай, загадаў падымацца ў дарогу, бо, маўляў, і Каляды тут яго ў гэтай лясной крэкадзі застануць, Воўчы Хвост клікнуў да сябе дачку і наваяўленага зяця. Прыгарнуў Добрушку да грудзей і пагладзіў шурпатай далонню па яе цёмных, бы смоль, валасах. Тая разрыдалася ўголас. Бацька, супакойваючы яе, заўважыў:

— Не плач, птушынка мая, не я цябе сюды прыгнаў, ты ж сама прыбегла...



І, звярнуўшыся да Суда, паведаміў:

— Ну, што ж, я тут вам некалькі дзесяткаў нявольнікаў падкінуў і сёе-тое са здабычы. У галечы жыць не будзеце. Княжай воляй цвердзь гэтая і навакольныя пушчы аж па раку Бобру табе, Судзіславе, ва ўладанне пакідаюцца. Паклапаціцеся належна і пра яе ўмацаванне і пра павелічэнне жыцця чалавечага на ёй, то і дзецям сваім, а маім унукам, нешта прыдбаеш. А праз некалькі год паглядзім, што будзе далей...

*

Яны абое стаялі на версе старажавой вежы, што ўзвышалася над варотамі цвердзі. Канец некалькітысячнага паходу паволі хаваўся за кашлатымі дубамі, што высіліся абапал Драгічынскага шляху. Калі апошні вой знік за магутнымі камлямі, Суд мацней прытуліў да сябе Добранраву і дзелавіта абвясціў:

— А як на будучае лета народзіцца ў нас сын, назавем яго: Добраслаў, ад твайго і майго імя...

Добрушка, шчаслівай усмешкай, прытакнула яму.

У паветры кружыліся першыя ў гэтым годзе сняжынкі.



**В. Швед чытае даклад аб „Белавежы“ на папулярна-навуковай сесіі, прысвечанай XX-годдзю БГКТ. Побач: Ю. Туронак і С. Яновіч. Сакавік, 1976 год.**





*ЮРКА ГЕНІЮШ нарадзіўся 21 кастрычніка 1935 года ў мястэчку Зэльва, Ваўкавыскага павету, у сям'і лекара. Закончыў Медыцынскую акадэмію ў Беластоку. Жыве ў Беластоку і працуе лекарам. З'яўляецца сааўтарам кніжкі „Зборнік сцэнічных твораў“ (1976).*

## СМЫКОМ ПА СЭРЦЫ

*Выпускнікам Бельскага беларускага ліцэя*

Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрані абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А сумную — бы кіпцюры скрабуць.

Бо дзе той Бельск? Ёсць іншыя ліцэі, славутыя ў гісторыю ўбітымі цвікамі. А я да вас імкнуся, хлопцы і дзяўчаты. На вашай ноце думкі мне пяюць — спеўку матчыную.

Бо не ўдалося піць мне з тых крыніц, дзе кожны дзень купаллем іскрыцца, дзе летні вечар коласам шуміць, дзе ловіш прагна кожны гук, каб не забыцца — хто ты!

І злосць бярэ, кумячыш ліст паперы, і шчыміць нешта болем пад грудзьмі, і марыш — вось, каб двойку хто паставіў за мову родную, сярод сваіх, у сям'і.

А вас ужо грамада. Шарэнгі і плутоны ў свет пайшлі, каб долю зваяваць. Сярод бландзінаў, рыжых і чарнявых ніводнага, здаецца, і не пазнаць...

І струна дзвэнкнула. І вось заклік сваячы згукае вас у той скромны родны кут.

І цяжка мне. Хацелася б быць з вамі. З штодзённай муці пляснуцца ў струмень той плыні беларускай, у ліцэі ўзгадаванай.

Гаворкай роднаю датліць тугу.



**Ян Адамскі, акцёр тэатра імя Ю. Славацкага ў Кракаве, выступае з мастацкім чытаннем твораў з кніжкі „Вялікі горад Беласток“ у час літаратурнага вечара ў беластоцкім клубе „Бакалаўр“ (26.IX.1976 г.).**



## ЗАПАВЕТ

І падаў снег. І белым вершам астры ўпісалі памяць жывых над прахам нябыцця. І цені сэрцаў у вопратках мястовых купінамі, бы вербы, гнуцца пры свячах.

Пакошаныя пні. Галіны рук спляліся ў знак пашаны. І толькі вуснаў два апошнія лісткі малітваю дрыжаць на асеннім ветры...

Сканала сонца. Раптам! Нечакана. І дзень, ужо вырваны з календара, сам злёг у труну. І ночудава, бы павуціннем смерці, накрыла могільнік загібам цалуну.

У змроку тым, густым ад паху ўспамінаў, у духмяным дыме ўзвышанай мальбы, снуюцца душы добрых і паганых, а толькі на асмалках свечак светлячкі хістаюцца, туды-сюды, у нямым паклоне.

І цішыня ў вушах гудзе трубою.

Здаецца, што вось-вось перад табою разверзнецца зямля і мерцвякі, хрустаючы касцямі, натоўпам выйдуць глянуць на жывых.

І наўкруга ўсё ўпадзе ніцма прад імі. Пад вопраткамі сэрцы ажывуць. І страх сашчыміць, сцісне кіпцюрамі, вырве з усіх праўду, каб шчырымі быць.

Бо суд ідзе!! — сатлеўшых, ды над тымі, што, у целе будучы, усё ж гніюць. Смертны натоўп, хрустаючы касцямі, як час няўмольны, дапераду брыдзе. Узгарэлі рэштці свечак агнякамі, каб шлях асветліць белай грамадзе.

І кулакі самі ў грудзі б'юць. Мая віна! Мая віна прад вамі —

І вурдулакам дзесьці пёс завыў. Дзесь гукнула сава. У напоры ветру тапалёвы хор заенчыў прывітанне.

Пярэдні, тут, парушыў сківіцай бязмоўнай. Скрыгат зубоў яго гучыць нямым папрокам. Дном пекла пачарнелі яму яміны вачэй.

І кулакі самі ў грудзі б'юць... Бо ёсць грахі, якіх не выбачаюць.

Мая віна! Мая віна прад вамі... Бо вас няма, а словы мусяць жыць, мовы, якой на гэты свет нас віталі. Той мовы, на якой са светам развітацца найлягчэй.

Мая віна! І я шчыра б'юся ў грудзі, што стрымаю апошні ваш наказ.

На добры лёс дзяцей. На тое, каб і мне ў свой час зямелька родная цяжарам не была. На тое, каб калісь сваім прылегчы з вамі.





## ЧОРНЫМ ПА БЕЛЫМ

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі. Вось толькі заімшэлыя бацькоўскія парогі кінуць — і ўжо яно. Самога Бога ты, здаецца, за бараду схапіў.

Белы, белы настане табе дзень. Ніхто не ведацьме, хто ты такі. І толькі ў песні, у святочнай, пад чарку, дзяўчына мыцьме ў рэчцы ручнікі...

І белы, белы матчыны твар расстане ў малочным тумане. Назаўсёды амаль; каб не ведаў аб ёй і сусед твой новы. Пакуль доля ліхая не змане —

Белых бярозак прывідны чарод, белых грыбоў ліхаманка пад восень іншы раз прысніцца табе.

Снежных юнацкіх мараў кужаль, не затаптаных, сонцам абмытых, скрутак — застаўся дзесь на гарышчы ў хаце бацькоўскай, пад шчытом.

І бель, што вочы слепіць, дзявочых грудзей каханнем налітых, як расой сенакос, вуснаў сухіх табе ўжо не змочыць.

Здаецца, сёння белае ўсё. Па белым свеце белыя дарогі. Адно крочыць!

Ды толькі словам бела-бела-беларускім прагна чакаеш, каб адгукнуўся хто...

## СЕЙБІТ

Загончык невялічкі, які, здаецца, ворагі і пасмешнікі далонямі прысланіць змаглі б, ды і той камянямі-падкіднікамі панатыканы. Ні то ўзвораны, ні то грэбенем падзеяў расчэсаны...

А ён — ідзе! Крочыць праз дваццатае стагоддзе, сыплючы ў крывыя барозны жменю за жменяй. Жменю за жменяй зярнят, часамі ад чужой прымешкі ледзь ачышчаных.

Быццам бы не бачыць суседніх, тлустых дзялянак, на якіх, здаецца, верабей арлом разгарнуўся б.

Быццам бы не заўважае шматлікіх сеялак, гатовых ахвотна падмяніць ягоную, даматканую плахту.

Сее і верыць! Верыць ва ўраджай!

Няўжо ён думае, што хто-небудзь палашчыцца на ягоны чорны, з мякінаю, хлеб?

Хто ж ён такі будзе? Дзівак якісьці? Ідэаліст? Апошні зубр з Белавежскай пушчы? Адкуль узяўся гэты небарака?

А можа гэта ты — сейбіт — мой сябра па пяры, пісака?

Post scriptum:

Вось і наблытаў! Што за параўнанні? І зноў я з фактамі не ў згодзе!

Ядуць жа чорны хлеб ды й хваляць яго тыя, каму жывот выспучыла ад булак.

А зубр — які апошні? Гэта ж калісьці. А сёння ж іх, рагатых, не проста ўжо злічыць. І з пушчы вылезлі ж — у свет шырокі пруцца. А дзе-якіх у валюце нават цэняць.

Хоць — не, браткі! Тут падабенства яшчэ можна дашукацца.

Бо ж ведама ўсім, што роднай барады ніводзін зубр пакуль што не згаліў дзеля таго, каб... пад вала прыстасавацца.





*ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК нарадзіўся 23 жніўня 1926 года ў вёсцы Грабавец ля Дубіч Царкоўных. У час акупацыі быў сувязным партызанскага атрада імя Суворава. З 1946 года працаваў у органах дзяржаўнай бяспекі.*

## СУШЫЛЬНЯ

Не ведаю, чаму ў нас злачынства называлі аказіяй. Памятаю, як аднаго дня, раніцаю, недзе ў тысячу дзевяцьсот трыццаць сёмым годзе, прыйшоў да нас мачышын брат, Іванок, і, убачыўшы, што мы спім, сказаў: „Віетэ спытэ і нэ знаетэ, якая ў сэліе наробылась оказія".

„Господі, а шчо такое?" — азвалася мачыха.

„Нычого, — адказаў Іванок, — оно Баранюк Баранянку зарубаў", — сказаў гэта і выйшаў.

Мы ўсе пачалі апранацца, каб пабегчы і ўбачыць, ці сапраўды здарылася тое, што Іванок сказаў. Мне найменш трэба было апранацца; хадзіў я ў тых жа нагавічках, што і спаў. У сарочцы — таксама. Згарнуў я сваю, так званую, пасцель і вынес яе, як заўсёды, у сені, і, хутчэй ад усіх, апынуўся на панадворку Рыгора Баранюка. Там ужо былі людзі і паліцыя. Баранянка ляжала з разрубанай галавою і страшэнна сіняя. Вываліла яна вочы і ўперла іх у столь, быццам нешта страшнае там бачыла. Злачынец жа сядзеў на запечку, тупа глядзеў на людзей, ды ўсміхаўся.

Дзядзька Трахім, які быў кумам Баранюкоў, падышоў да яго і загаварыў:

„Кумэ, шчо віетэ наробылі? Жуонка нэ жывэ, віетэ пуойдэтэ ў тюрму, а шчо — з дытьмі? Ой кумэ, кумэ“.

Рыгор адказаў:

„А шчо, кумэ, я меў з ёю робыты, як вона мэнэ змыняла?“

Дзядзька Трахім спытаў:

„А з кім жэ вона вас змыняла, то ж вона ныгдэ з дому нэ выходыла...“

Увайшоў паліцыянт, наклаў Баранюку кайданы. І павёз яго.

Параску пахавалі.

Дзяцей, Якава і Маню, забралі да сябе Мікіціны.

Рыгор не вярнуўся. Пакінутая ім хацінка стаяла, згорбіўшыся, пад грушаю за варотамі і сумнымі вокнамі глядзела на вуліцу, быццам кагосьці чакаўшы, і баючыся, што вернецца...

Божа, страшна было!

Найгорш — калі хацелася есці, а страх не дазваляў залезці ў агуркі суседа. Пасля гэтага выпадку, вечарамі людзі не хадзілі.

Было так да 1939 года, калі прыйшла да нас Чырвоная Армія і савецкая ўлада.

Мой дзядзька, ад часу вяртання з Расіі ў 1922 годзе, быў лесніком. Ён не толькі сцярог лес, але і садзіў яго. Каб сеяць — трэба мець насенне, а каб мець насенне, трэба збіраць і сушыць шышкі; за гэта плацілі. Я сушыў іх яму бясплатна, бо, вядома, быў замалы, каб зарабляць грошы, але добры, каб начамі сядзець і паліць печку ў сушыльні. Ды яшчэ дзе! Гэту сушыльню зрабілі — у той хаціне!

Цэлым асвятленнем там быў толькі агонь, што гарэў у печцы. На спецыяльных паліцах ляжалі шышкі. У выпадку ўваходу якогасьці злога духа, пасланага Параскай, або і яе самой — уцякаць не было куды. (Вокны застаўлены паліцамі). Удадатак, кожную ноч нейкая сатана бегала па гарышчы і стукала, аж мне здавалася, што столь абваліцца. Усё-такі, я менш баяўся праклятай стукатні, чымсьці дзвярэй, з якіх вачэй не зводзіў у чаканні чагосьці, што можа ўвайсці, і не ведаў, што яно зробіць са мною! Здавалася мне, што Параска змовілася з чэрцямі і ведзьмамі.

У такія ночы, здаралася, заходзілі да мяне вясковыя вартаўнікі, каб пагрэцца.

Здзіўляліся:

„Васька, браток, як ты тут можэш сыдіеты? Ейбогу, коб мэнэ, старого, загнаў сюды і сказаў: пэрэсыды нуоч, то дам сто рублей — клінусь богом, нэ здобыўся б. То мы, о, удвуох ідэм і бачым, жэ свіэтыцця і ведаем, што ты тут, і то, браткі, аж волосы на голове дубаса становяцся. А ты — добровольно... Ого, шчо то значыт, як нэма кому за хлопцём упомэнутысь“.

Пасядаюць яны, бывала, на падлогу, пакураць, нагрэюцца, ды пойдуць сабе далей. Аднойчы зайшлі да мяне двух савецкіх салдатаў. Пагаварылі, выпыталі, хто я і што тут раблю.

Дзядзька больш ужо не прасіў мяне, каб я ўночы качагарыў там.

Я, нават, да ўсяго гэтага прызвычаіўся і не страхі былі маёй бядою, але тое, што, калі варочаўся дамоў, мачыха не давала мне есці.

Гаварыла:

„Сныданя нэ достанэш. Іды, жэры там, дэ робыў“.

У школе, у час урокаў, я заўсёды думаў аб тым, дзе б дастаць мне кавалачак хлеба.

У апошнюю зіму маёй адукацыі настаўнікі арганізоўвалі ёлку. Я, якраз перад тым, меў дзяжурства ў той трагічнай хаце і зноў не дастаў есці; але, на ёлку, бацька даў мне рубель. Я дапамог упрыгожыць дрэўца, якое першы раз у жыцці цешыла маё сэрца. Пачалі, усе мы, спяваць. Мне хацелася есці і, калі я атрымаў пакунак цукеркаў, па адной соваў у рот. Еў я іх і ўсё баяўся, што калі мала занясу дадому, бацькі будуць крычаць. „Давай, — думаў, — пакіну ім іх па адной на чалавека, а рэшту з’ем“.

Так і зрабіў.

А мачыха:

„Давай, дэ тые цукеркі?“

Я адказаў.

А *яна:*

„Баструку, вэчэраты нэ достанэш!“

Я расплакаўся і ляснуў аб падлогу тымі цукеркамі, што меў у жмені.

Пачалася сумятня.



**Вячаслаў Яновіч. Усходы.**



## СМЕРЦЬ БУРЫКА

Я, як і ўсе дзеці, любіў сабак. Вечарам, калі ўсе спалі, я выходзіў у садок і свістаў:

„Бурэк, на-на-на... Бурэк, на-на-на!“

Прыбягаў да мяне Хведаркаў Бурык, але, убачыўшы, што нічога ад мяне не дачакаецца, пакідаў і, цераз платы, імчаўся назад, да сваёй хаты, быццам кажучы, што ён такіх калег усюды знойдзе. Я заставаўся з сумнай думкаю.

Аднак — як гаварыў Іванок — Гасподзь не без міласці, а казак не без долі. Прыйшоў час, што і я нажыў сабачку. Не памятаю, ад каго я ўзяў рыжае шчаня, якое нагадвала шарык. Сабачка быў вясёлы і вельмі смешна цягаў за нагавіцы.

Назвалі мы яго Бурыкам. Карміў я яго дрэнна: памыямі ды вадою, забеленай малаком, крадзеным. Бурык падрастаў, але быў вельмі худы. Ён, ад голаду, з'ядаў чалавечыя адходы...

Было, як было, а ўсё-такі Бурык вырас і стаўся добрым вартавым гумна ды садка, злосным. Яго баяліся. Па гэтай прычыне Бурыка нельга было спускаць з ланцуга, каб каго не пакусаў.

Ён не мог сабе знайсці ежы.

Аднойчы, калі ўжо вылупіліся кураняты і квактуха вадзіла іх па панадворку, здарылася бяда. Бурык, на мачышыных вачах, глытнуў неасцярожнае кураня. Яна ўзяла кія ды давай Бурыка біць. Я спачатку не аказваўся, бо думаў, што яна ўдарыць яго і пакіне. Аднак — гляджу, што лупіць яго з усёй сілы, а ён, бедны, енчыць і круціцца ад болю ды не можа ўцячы.

Я давай прасіць:

„Мамо, мамочко, нэ біетэ Бурчыка, бо заб'етэ ёго“.

Бурык ужо толькі хроп.

Забіўшы сабаку — кінула кія і сказала:

„Закопай ёго, баструку, бо і тобіе тое будэ“.

Я яшчэ доўга гладзіў ягонае цела і плакаў.

Закапаў я Бурыка, зрабіў яму магілу.

У нас не было больш сабакі, а дзедаў Рэбчык быў якісьці дурны: кусаў ён і знаёмых. Рэбчык хапаў зубамі, дзе папала, і разрываў.

Гаварылі потым, што хтосьці забіў яго на сала для свайго хворага швагра. Не ведаю, як сапраўды было, але Рэбчык знік.





## КАМУНІСТ

Я вельмі люблю спяваць, і мне хапіла пачуць песню адзін раз, каб навучыцца яе. Сяброў я не меў, бо да мяне ніхто не прыходзіў, а калі мне ўдавалася вырвацца з хаты, то бацькі калегаў — выганялі, баяліся, што магу папрасіць у іх есці. А калі трэба было рабіць урокі, дык таксама выганялі — не хацелі, каб я падказваў іх дзецям.

Найгоршым быў дзядзька Вусач. Ён, як толькі заўважыў, што я ў нечым падказаў яго Колі або Паўлу, браў мяне за вуха і выкідаў вон. Не магу сказаць, што гэта былі дрэнныя людзі. Не. Гэта адпавядала ўсяму тадышняму жыццю.

Зайшоў я ў адзін са святых вечароў, якія адбываюцца ад Каляд да Новага Года, да Вусачовых хлопцаў, каб пагуляць з імі.

Сядзеў Вусач каля печы і чытаў евангелле.

Ён сказаў да мяне:

„Сядай, поговорым“.

Сеў я на лаўцы і слухаў, што напісана ў евангелле. Слухаў і думаў: „Чаму ў іх, пад абрусам, ляжыць хлеб і яны яго не ядуць? Ці ж ім, сапраўды, есці не хочацца?“

Хадзіў я і да Кярдзельскіх, таму, што было там трох хлопцаў. Іх бацька быў вельмі малы, і хадзіў ён хістаючыся на бакі; называлі яго „Кердяло“. Меў маленькія вочы, доўгі і гарбаты нос, любіў дасціпнасць і, нават, дазваляў пасмяяцца над сабою. На трохрадцы ўмеў ён іграць польку „Ой, нэй-бы, нэй-бы, бо тыйэлна“... (Хто выдумаў гэтае — застанецца сакрэтам.)

Кярдзельскі больш не ўмеў.

Хадзіў я да гэтай сям'і паглядзець на людзей; у іх, Кярдзельскіх, была крама; уцякаў я, калі пачыналі там біцца.

Гаспадыня ўгаворвала:

„Хлопці, пэрэстаньтэ, нэ дэрытэсь, бо воно, віедаетэ, нэ хорошэ, шчэ возьмэтэ і повыбываетэ мні окна, то піч розваліте, ну, пэрэстаньтэ, бо як возьму віныка, як дам одному і другому по горбові...“

Кярдзельскі, у сваю чаргу, піскліва супакойваў жонку:

„Замоўчы, бо як будэш мышатысь, то поломлю тобіе тые сухіе рэбра. Колі хлопці б'юцся, то, мусыт, віедают за шчо, і нэхай б'юцся. Воны ўжэ мне далі кроху заробыты, а як поб'юцся, і посля будут ладытысь, то шчэ дадут. Ты пылнуй дытыэй і горшчкуоў, а нэ свуой сухый нуос прэш дэ нэ трэба“.

Бывала і так, што ў хаце, апрача дзяцей, нікога не было і тады мы гулялі па-дзіцячаму. Хлопцы сядалі вакол стала, ды я давай співаць ім:

Солнцэ сходыт і заходыт
А ў маёй тюрме тёмно.
Днём і ночью часовые
Стэрэгут маё акно.
Как хатіте стэрэгіте,
Всёравно я убегу,
Ведь мне хочэтся на волю
Цэпь парвать я нэ могу.
Ох, вы цэпі, маі цэпі,
Вы жэлезны сторожа.
Нэ парвать вас, ніе порэзать,
Доля горкая моя...

Я паўтараў яе не раз і так заўзята, што, нават, не пачуў, як увайшоў іх бацька, сеў і слухаў. Ён пахваліў песню і запытаў, хто мяне навучыў яе. Я не ведаў.

А ці я больш такіх „хорошых пысэнь“ не ўмею?

Ах, здраствуй віленская крыша,
Ах, здраствуй, здраствуй, прокурор.
Ах, здраствуй, здраствуй, ты, начальнык,
І ты, гарага часовой...
...В тюрме нам піеть нэ розрэшают,
Смотрэть в окошко нэ дают.
Скажы, за што нас в карцэры сажают?
Скажы, за што нас в морду біют?



Співаў я так, як ведаў, і колькі ўмеў.

Летам, мо вясною, не ведаю — я не вельмі яшчэ адрозніваў тады поры года — убачыў, як да Кярдзельскага прыехаў паліцыянт. Пасля нейкага часу, бачу, паліцыянт выйшаў ад крамнога і накіраваўся да мяне.

„А як ты се называш?“

„Васыль.“

„Поведз мі, Васыль, яке ты ўмеш спеваць пёсэнкі?“

„У, пысэнь то я ўмею мнуого.“

„А кто цебе учы?“

„От, бабы на прадках, то кроху старыэйшы хлопці.“

„А яком мі тэраз засьпеваш?“ .

„Якую хочэтэ.“

„Спевай, яком умеш.“

„Ныне Адаме возвэсэліся, діево прэдматі слюуозы ўтрыся...“

„Не, таке пёсэнкі спеваём зімом. Ты мне заспевай яком інном.“

„Я буольш нэ ўмею, бо мойіе дыеты ў город поліезлі. Як я іх нэ буду пылноваты, то мама прыдэ з поля і мэнэ наб'е.“

„Но то юж ідзь і пільнуй тэ свое дзеці ты, комуністо. Я ці дам!“

Так мы і разыйшліся.

Мой бацька неўзабаве быў два разы пакараны: на восем злоты за тое, што дрэнна вартаваў, а ў другі раз, што не пераставіў дошчачку з надпісам „Варта“ да другога гаспадара, і той не выйшаў на начную варту. Ён праклінаў солтыса Панаса, не ведаў, што пачаткам злога быў я.

Кярдзельскі ўкраў у нас жыта. Сляды на снезе завялі бацьку да Кярдзельскага пуні, аж тут і крамны з яе выходзіць ды, адразу, пытае:

„Шчо, Володя, мусыт і ў тэбэ жыто ўкралі?“

„Слухай, — кажа яму бацька — а чом то од моіх сыены до твоіе клуні сліды, а од твоёйі клуні далей ныгдэ нэ вэдут?“

Заявіў у паліцыю.

Праз колькі дзён паліцыянт сапраўды прыехаў да Кярдзельскага. Прыбег пад акно да нас сын

крамнога, Мікалайка, і крыкнуў: „Мазур, іды до нас, бо поліцыянт ждэ.“

Бацька пайшоў.

Вярнуўся злосны як чмель, і давай мяне лупцаваць:

„За шчо? А хто ў того Кердяла спываў комуністычныя пысні? Ны доволі, шчо жыто пропало, то шчэ поліцыянт чуть нэ забраў мэнэ до Картуз Бэрозы.“

„Бый, сучого сына, бый, бо чэрэз його то і нам прыдэ погыбэль,“ — азвалася мачыха.

„Пэрэстань його чыплятысь“...

І пачалі яны дзерціся!





*МІХАСЬ ШАХОВІЧ*

## ЧАРОЎНАЯ ЗНАХОДКА

— Та хай будзе, у гаспадарцы прыдасца, — падняў нешта з зямлі Іван і схаваў у кішэнь. Пакланіўся суседцы на прывітанне, якая корпалася ў агародчыку, і павярнуў на свой панадворак.

А Матрону як бы дынамітам падарвала. Кінула матыку — і файт дахаты.

— Іван нешта знайшоў. І то, якраз, насупраць нашай хаты! Матычу я трускалкі ў агародчыку, а ён ідзе вуліцай. Ды раптам — гоп, схіліўся, і ў кішэнь. Я прысела за плотам і гляджу між штыхеціны. Ён то мяне не бачыў, а я яго — добра. Разглянуўся вакол, ці нікога няма, і подскікам на панадворак ды пад хлявы схаваўся. І то, бачыш, якраз насупраць нас, — расказвала мужу.

— Найхутчэй наша чубатая яйка згубіла. От, паскуда, седала свайго не трымаецца. То ў крапіве, у Гаўрылянкі, нясецца, то на вуліцы губіць. А мне, дурной, трэба ж не выйсці ды не паглядзець. Напэўна яйка, бо якраз у кулак яму змясцілася...

— А ты глядзі, можа, уночы, сабака нешта вывалак? То гад аблезлы! Усё паразвалакае! У іншых — сабакі дзесь усё на свой панадворак цягнуць, а гэты, чорт яго ведае, што за стварэнне... Хведараў, вунь, два мяшкі ў буду прывалок!... Гіцлю страхату адвязу!

А Гаўрылянка, у крапіве якой Матроніна курка неслася, таксама не лыкам шытая. Заліпала яна ля гумна свайго Гаўрылу і давай вымахваць рукамі:

— Ты бачыш, знайшоў нешта... Ды, якраз, каля нашага плоту. Выганяю я Кірылавых гусей, каб іх халера падушыла, вунь, цэлы панадворак запаскудзілі, аж бачу, Іван пайшоў. І раптам —

лап ен нешта з зямлі ды пад палу, і пасмычыў без аглядкі. Не іначай, нашы дзеці нешта вывалаклі. Я табе ўжо колькі разоў паўтарала: здымі пасак ды ўрэж ім, каб на ўсё жыццё запамяталі: то ты не. То цяпер — маеш, вывалаклі нешта, і прапала. Добра табе так!

А жонка Кірылы ў той час якраз па торф з мяшком пад пуню ішла. Пачула ўсю гэту размову ды пабегла яна дахаты.

— Ты бачыш, Іван нешта знайшоў! На вуліцы! Амаль насупраць нас! Там, дзе Гаўрылаў плот канчаецца. Нешта доўгае, ледзь пад палу змясцілася. Няйначай шпень, што наша карова згубіла. Усюды мы абшукалі, а ён, бач, дзе быў! З цябе таксама разява добрая! Не каб на вуліцу выглянуць, то лазіш дзесь па палях. А цяпер, шыш ён табе аддасць! Хіба, што схадзіць да яго... Як думаеш?

Іван сядзеў ужо дома ды гузік да нагавіц прышываў, калі раптам бачыць — Матрона да іх ідзе. За ёй — Гаўрылянка суне, а затым Кірыліха трэпсае.

— Іванка, ты праходзіў нядаўна вуліцай. Ці не знайшоў ты часам яйка? Паскуда, а не курка наша; дзе ходзіць, там і знясе...

— Ну, што за дзеці ў нас! Усё з хаты павывалакаюць ды пакінуць сярод вуліцы. Не знайшоў ты часам, Іваначка?.. — круцілася Гаўрылянка.

— А можа ты шпень наш знайшоў? Я ж гаварыла свайму туману: прывяжы ты яго як трэба, то не — як гарохам аб сцяну. Ну то цяпер маеш, згубіла. А ў гаспадарцы шпень патрэбны. Няма на чым карову ўчапіць, і хоць ты плач!..

А Іван:

— Та ў гаспадарцы ўсё прыдасца. О, я сёння гузік знайшоў! Кінуў яго сабе ў кішэнь і думаю: глуповіна, але хай будзе. Прыходжу дахаты — зір, а ў нагавіцах акурат гузіка не хапае. І дзе я, здаецца, згубіў? Не знайшлі вы яго часам?





*САКРАТ ЯНОВІЧ нарадзіўся 4 верасня 1936 года ў Крынках, у сям'і шаўца. Закончыў Варшаўскі універсітэт. Грамадска-літаратурную дзейнасць пачаў у 1953 годзе. Член Саюза польскіх пісьменнікаў, старшыня Літаратурнага клуба ў Беластоку. Выдаў кніжкі: „Загоны“ (1969), „Вялікі горад Беласток“ (1973), „Зборнік сцэнічных твораў“ (1976, супольна з Ю. Геніюшам), „Сярэбраны яздок“ (1978), „Не пашанцавала“ (1978), „Забыцці“ (1978), „Сцяна“ (1979), „Самасей“ (1979). Дзве апошнія — толькі ў перакладзе на польскую мову.*

# САМАСЕЙ

(УРЫВАК З АПОВЕСЦІ)*

Але цяпер — сакратарка не званіла. Яна прыйшла. Калі не смешна так сказаць, яна — асабіста прыйшла!

Пасучыў за ёю, за жанчынаю, якую бачыў дзесяткі і сотні тысяч разоў і, з галоднай лакомлівасцю кавалера, абдымаў яе ў сваіх марах ліпнага набабніка, або гвалціў і наводзіў на яе быкаватых тыпаў, каб дапамагалі яму і самі пакарысталіся ўдосталь... Зараз гатоў быў ажаніцца з ёю, адабраць мужу, звольніцца з работы і жыць з гэтай жанчынай, не выходзячы з кватэры, не дазволіўшы ёй апранацца, бо адзенне, няхай сабе нават шаўковае, магло толькі псаваць яе, невымоўна прывабнае хараство, апаганьваць яе, панябеснаму раскошнае цела!...

У дырэктарскім кабінеце, насустрач Андрэю, паднялося з фатэляў двух. З генеральнай дырэкцыі.

— Пан Андрэй, — амаль фамільярна. Пасядалі. — Пан Андрэй, — чарнявейшы. — Мы прыйшлі прасіць вас, пан Андрэй, каб вы, пакуль часова, выконвалі абавязкі загадчыка аддзела. Дырэктар, як вам, напэўна, вядома, хворы...

— Што з загадчыкам? — Андрэю здалося, што сказаў гэта з абыякавай цвёрдасцю.

Адказалі:

— Пажар пачаўся ад яго кабінета і, на шчасце, там яго і загасілі. Аднак жа, ёсць некаторыя меркаванні, нам вельмі прыкрыя, праверка якіх яшчэ працягваецца..., — аказаліся непадрыхтаванымі да такога пытання і Андрэй быў бы рады, калі б, увогуле, не выказваў яго. — Загадчык, па аб'ектыўных прычынах, праз нейкі час — цяжка тут вызначыць, які? — не зможа выконваць сваіх абавязкаў..., — круціў чарнявейшы. — Ну, самі разумееце, — ён не меў права больш гаварыць.

На думку Андрэя, выйсцем са склаўшагася становішча было прыкінуцца мала зацікаўленым. Разгублена паглядзеў у падлогу ды знарочна пазяхнуў: глядзіце, мяне гэта нудзіць! Ён пазяхнуў ад хвалявання. „Загадчыку канец, — думаў. — Яму тут болей не бываць! Падпаліў? Але, які яму ў гэтым быў сэнс? А мо — самы звычайны са звычайных — выпадак, выпадковасць...“

— Пан Андрэй, — гаварылі, адказваючы на яго наступнае пытанне. — Справа ў тым, каб пакіраваць бягучымі... — не дадалі: справамі. Атрымалася б нязграбна; мелі адчуванне мовы. — Менавіта, бягучымі. Тымі справамі, якія налятаюць з дня ў дзень. Вы здолееце. Арыентуецеся. Мы ведаем, — заглянулі ў вочы, быццам сарамлівай дзяўчыне. — Толькі бягучымі справамі. Вы згодны? — чакалі.

— Згодзен, — адказаў, слабеючы ад задаволенасці.

— Вельмі добра! Жадаем вам удачы, — усталі, каб падаць рукі. — Калі ў чым спатрэбіцца наша дапамога, смела звяртайцеся да нас. Усё будзе добра.

Чарнявейшы перадаў Андрэю пячатку загадчыка аддзела.

— Падпісвайцеся па ўпаўнаважанню. Дэкрэтацыю на вашу новую функцыю мы прышлем, павядомім кіраўнікоў секцый...

„Вось табе, Андрэй, і ўлада: лёгкая, гожая, даўганогая каза. Гон яе адбыўся працютка да маіх рук, адно паспявай схапіць яе ды моцна трымаць. Прыгналі двух, з вярхоў... Гэта яны па ўласнай ініцыятыве? Наўрад...“

— Бывайце, — ціснулі яму руку. — Няма бяды: гадавыя справаздачы — закончаны..., — знаходзілі пацяшаючае.

— Нібы спадзяваючыся..., — непрыстойна павесялеў Андрэй і тут жа схамянуўся, злаяў сябе за безгалоўе.

Не засмяяліся.

Прапацеў да сухой ніткі. Ведаў, што не пакінуў на іх добрага ўражання. Занадта нечакана адбылася гэта перадача ўлады.

Галаўны боль.

Па мазгах скакалі яму планы і тэрміны, заданні — выкананыя і нявыкананыя.

Апрануў паліто. У кішэні намацаў ён трыццаць злоты.

У кафейцы „Мядовая“ падавалі неблагое віно.

Андрэй заказаў чаю з ромам, закурыў дарагую папяросіну.

У покуце цалаваліся маладыя. У белы дзень, будзённы, сядзяць сабе, кахаюцца, не дураць галоў агіднымі паперамі, звалкай слоў, паіржавелым ламаччам думкі.

Пасля чаю заказаў чарку кан'яку.

...Скрыпануў воз на пыльных ростанях...

Што і казаць: убачыў сябе больш вартым. Значыць, ён — п а к у л ь загадчык, а нават п а к у л ь дырэктар! Адно з гэтых дзвюх п а к у л ь павінна пераўтварыцца ў н а п э ў н а. Застанецца загадчыкам! Іронія лёсу? О, не! Аднак жа, лёсу патрэбна дапамагчы: нельга абмежавацца да выконвання ўскладзеных абавязкаў загадчыка.

„Будуць глядзець мне, халеры, на рукі!“ — заплаціў за чай (з ромам) і кан'як. Каб разлічыцца за кан'як, дастаў банкноты з партфеліка — з капшука, як гэта пасмешліва казаў.

Вяртаўся, на работу, паіншэлым.

Парт'е ўжо скінуў перад Андрэем шапку:

— Добры дзень, пан загадчык.

Было сцішнавата на душы, калі распранаўся ў кабінеце дырэктара ды сядаў за ягоным доўгім сталом.

— Пан загадчык, мне трэба на тры дні ў Варшаву, — прыйшла сакратарка. Ад яе голасу цяплела пярынаю і падушкаю. А тое, што трэба ёй, менавіта, у Варшаву — прыдавала нейкага размаху, істотнасці. А, таксама, і тое, што была яна адной з першых асоб, якая звярнулася да Андрэя: пан загадчык! — У панядзелак я ўжо буду на рабоце, пан загадчык. — Яе вочы, яе фігура!



Да жанчын прыглядаемся тады, калі магчыма працягнуць да іх сваю лапу або здаецца нам, што існуе такая магчымасць. Жанчына, калі яна спакойная, трохі дрэмле. Трэба яе разбудзіць — дадумваў Андрэй па дарозе да зразумення таго, з чым звяртаецца сакратарка. Прыемна, што стаіць перад ім, Андрэем Антошкам, залежны ад яго чалавек, зграбная жанчына! І сорамна ад таго, што хтосьці з'яўляецца залежным ад цябе. І злосць на гэты сорам.

— Вам чаго ў Варшаву? — спытаў, нібы прачнуўшыся.

— Я ж вучуся, — адказала, як бы з крыўдаю, што ён не ведае аб тым.

— Завочна?

— Так, пан загадчык. На трэцім курсе.

— Вельмі добра! — пахваліў: „Ці там, дзе яна вучыцца, ці там ёсць маладыя выкладчыкі? Ці спала яна з каторым? Мо з такім, як той, які, памятаю, падчас экзаменаў прапаноўваў прыгожым гультайкам, лойкам над лойкамі... Глупствы!“ — Разумна робіце, што вучыцеся: нельга ж векаваць у сакратарыяце. З вашымі здольнасцямі можаце значна больш зрабіць у жыцці, — а ў думках: „Нічога яна не зробіць у жыцці, бо надта прыгожая!“

— Дзякую, пан загадчык.

— Шчаслівай вам дарогі ды паламіце ж сабе рукі-ногі на экзамене.

— Пан загадчык, сардэчна дзякую пану!

— Няма за што, — Андрэй: „Папярэджу яе, каб не называла мяне панам загадчыкам. Але — гэта немагчыма! Так, немагчыма.“ — Дамоўцеся з машыністкай, каб яна замяніла вас, — прыпомніў ёй. „Які ў яе муж? Добры, дрэнны, разумны, дурны?“

— Заўтра я паспею забегчы на хвілінку і прыняць карэспандэнцыю, — пакарнела перад ім.

Муж сакратаркі? Андрэй падазраваў, што жывуць яны не столькі цікава, колькі з прыемнай вёрткасцю, потна. Не думаючы. Ці так? Лекарка з вуліцы Бэма лічыць, што чалавек нараджаецца дзеля захавання гатунку. Усё іншае, што ён ро-

біць, з'яўляецца неабавязковым: культура, цывілізацыя. Нараджаецца ён дзеля таго, каб нарадзіць наступнага чалавека, паўтарыла яна Андрэю. Яго, аднак, займала пытанне, як пазбыцца страшных сноў? Як не пацець? Дарагі пан, трэба спаць пад ваўняным пледам. Мой пан, трэба нармальна працаваць, з работы спяшаць дамоў, даглядаць свае справы, гатаваць, увіхацца, бегаць за пакупкамі, адным словам быць чалавекам, і тады ўсенькія зласонні адляцяць ад вашай свядомасці, за далёкія лясы. Здаровы чалавек не бачыць далей свайго носа. Прыкра быць здаровым чалавекам, ірытаваўся Андрэй. Вам прыкра, бо вы яшчэ хворы, адказала. Да пабачэння, пакліччце да мяне пана... Назвала прозвішча чарговага пацыента. У яе няма часу. „Відаць, лічыць, што той дурны, хто не яна!“ — пазлаваўся Андрэй.

— Зычу вам удачы, — кінуў за сакратаркай, пад яе цудоўныя ногі. Дзесьці лямантавала дзіця.

Нізка праляцеў санітарны самалёт, двухматорны. Андрэй паглядзеў за ім — паміж заслонамі на акне.

Пазваніў кіраўніку адміністрацыйнай секцыі, каб той, не марудзячы, зайшоў да яго: ёсць справа. Аднак жа, адміністрацыйны доўга не з'яўляўся і Андрэй падумаў, што дапусціў памылку: трэба было гэта загадаць сакратарцы.

Урэшце — прыйшоў.

— Добры дзень, — сказаў ён Андрэю, як сусед у шматкватэрным будынку. Сеў без запрашэння, дастаў папяросніцу. — Закурыце?

— Не, — Андрэй падпусціў да языка першую фразу, слініў яе ў кумяк.

Адміністрацыйны закурыў: сам, невінавата паглядаючы ў бакі. У яго — прыкметны жывот, раскірачаныя ногі, налоенае дыхценне.

— Ну, што да мяне маеце?

— Вы не напісалі рапарта адносна запасовых частак для грузавых машын! — грымнуў яму. — Вы ж ведаеце, што без запасовых частак наш транспарт стане на месцы і пачне пераўтварацца ў іржавеючы лом. Як доўга будзеце кешкацца?!

— Напішу, — як бы гікнуў. За гэтым яго адным словам забляяла цэлая чарада іх: камандуеш, ужо камандуеш, не спяшайся камандаваць, ты нядоўга накамандуеш, далі табе пацешыцца ўладаю, бы дзіцяці цацкаю, і адбяруць яе; я пераажыву тваё панаванне, і не толькі, зрэшты, тваё... так, так... Паглядзеў ён на Андрэя вачыма дарослага, якога зачапіў хлапчук.

— Здарыцца аварыя і вы будзеце за яе адказваць!

— Перад кім?

— Перада мною.

— Ага...

— Што?

— Нічога, я так сабе, — у зрэнках яго вачэй зарунела ўсмешка, якую можна дэсігнаваць наступна: „Андрэй Антошка, гэта той, каго часова пастаўлена ў якасці пастуха, каб папасвіў статак, які можа разбегчыся і палезці ў шкоду. Той, якога трэба баяцца, але ў меру, без перабольшвання. Іначай — тыя, што паставілі яго на гэтае месца, могуць дайсці да выснаву аб ягонай адпаведнасці...“ — Ніякай аварыі не будзе, — пыхкаў дымам. — Аварыя за аварыяй не бывае. Не памятаю, каб здараліся аварыі за аварыямі, як пажар за пажарам, — з чорцікамі.

— Няўжо не разумееце вы, што без запасовых частак... — Андрэй: „Не любіць начальства, але толькі таму, што сам не ёсць ім“.

— Чаго панікаваць: запасовыя часткі будуць!

— Як гэта разумець — будуць?

— Звычайна: напішам рапарт, пашлем яго куды трэба; праз тры дні атрымаем належнае нам...

— Напішам... вышлем... — перабіў яму. — Пан адміністрацыйны кіраўнік, ці вам здаецца, што размаўляеце з дурнем?

Андрэй устаў.

Той усё сядзеў.

— Каб я так здароў быў! — бязглузда забажыўся ён перад Андрэем. — А запасовыя часткі дашлюць нам адмысловыя, во! — выставіў свой першакласны палец. — Праўду кажу, пан загадчык, — змяк, і далей ужо не мог мякнуць.

Як не дзіўна, але гэта сварка супакоіла Андрэя, прыгасіла. Яму захацелася закончыць гутарку, дастаць з бібліятэчнай шафы кніжку і, захутаўшыся ў плед, пачытаць нешта разумнае.

Зайшоў у тыл кіраўніку.

— Што з рапартам? — сказаў да патыліцы адміністрацыйнага: „На такога не зробіш уплыву ўласнай асабовасцю. Яго магчыма варухнуць загадамі і толькі загадамі“.

— Як гэта, што? — ён устаў і павярнуўся да Андрэя.

— Ну! — як бацька да перарослага сына.

— Напішу.

— Калі?

— Пажар ці як?

— Будзе пажар, якога яшчэ вы не бачылі! — закруціўся ад раптоўнай ашалеласці. — Як вам не сорамна гэтак гаварыць!? Не выконваеце, самых простых, абавязкаў!

— Вы, пан загадчык, палохаеце мяне? — годніўся кіраўнік.

— Ідзіце мне прэч і — пішыце! Хачу бачыць рапарт тут, на маім стале, — Андрэй стукацеў сагнёнымі пальцамі, быццам морзаўскі алфавіт гневу. Неўгамонная злосць з'яўлялася рэзультатамператомленасці.

— Чаго на мяне крычыце? Не вы мяне паставілі, і не вы — здымеце!

— Каб вы і хацелі таго, дык, ведайце, не дазволю: мусіце працаваць! Навучыцца працаваць! — Андрэй не паўстрымоўваўся. Першы раз так здарылася з ім на рабоце. — Прашу не рэзоніць. Затанцуеце так, як я вам зайграю...

— Не будзьце такім важным...

Выкаціўся ад Андрэя.

Адміністрацыйны паправіў на сабе пінджак падцягнуў нагавіцы. Высмаркаўся.

Рапарт напісаў ён неадкладна і перадаў яго праз сакратарку.

„Ён, балванец, не дацэньвае той акалічнасці што мне, як выконваючаму высокія абавязкі, напачатак многае дазволена! — заця́ўся Андрэй супроць кіраўніка адміністрацыйнай секцыі. — Напачатак многае можна мне, бо ўсенька няправільнае будзе палічана ў рахунак першавопытнасці, вучобы“.

І Андрэю стала зусім ясна, чаго чакаецца ад яго. Дрэнны той загадчык, які патурае падначаленым яму работнікам. Першай праўдай кожнай кіраўнічай асобы з'яўляецца дбайнасць аб інтарэсы свайго начальства. Не трэба таіцца з тым. Можна, нават публічна, прызнавацца да трусасці перад шэфамі; гэта ў нічым не пахісне трываласцю займаемай пасады.

Мадэль усімі паважанага кіраўнічага дзеяча — я добры, але няшмат магу — з'яўляецца самым небяспечным. Усё, што амбітнае, гэта, адначасова, рызыкоўнае. Андрэй з сумам прадчуваў, што яму не пад сілу... Дэманстрацыя трусасці — самы пэўны сродак.

З другога боку, Андрэю не давала спакою тая думка, што, магчыма, удасца працерці сцяжыну ў ведамасныя вярхі. Адсутнасць дырэктара і перадача яму, Андрэю, фактычнага кіраўніцтва дзейнасцю цэлай дырэкцыі, няхай сабе ўсяго часова, з'яўляецца той нагодаю, якая болей не паўторыцца. Ёсць, таксама, мінусы ва ўзніклай сітуацыі: няма перад кім дэманстраваць адданасць! Лічацца голыя паказчыкі, без інтрыгуючай абалонкі псіхічных суадносін: начальства — падначалены. Адсюль, мабыць, пачынаецца адзіноцтва дырэктараў і іх шматгадовая непарушнасць... Генеральная дырэкцыя — далёка і высока! Яна больш за ўсё патрабуе менавіта лікаў, будзь яны і несапраўдныя. На тваю, дырэктар, адказнасць. Уласнаручна раздутыя табою.

Нябачнымі ляйчынамі прытрымоўваў Андрэя голас маці, такі, які, за дзень, надумаўся, што казаць, і, цяпер, зноў сварыцца: „Я, дык хоць сябе пракармлю і ўжо лягчэй дзяржаве. А ты?“ Андрэй: „Адчапіся, мама. Ну, досыць!“ Маці: „Дурная дзяржава: вучыць, апранае, корміць, дае кватэру, пасаду. Дзеля чаго? Дзеля таго, каб ты, Андрэй, мог пісаць беспатрэбныя паперкі? Няхай лепш узялі б Зольку з сямі класамі — пісала б не горай...“ Андрэй: „Маці, ты не любіш мяне! Крыў-

дзіш!“ Маці, перад плачам: „Андрушка! Як гэта ты можаш так гаварыць сваёй матцы? Крыўдуеш на мае словы, якімі кажу табе праўду, бо я — твая маці! Хто ж гэта скажа табе праўду, калі не я? Гэта мне крыўдна, што ты нямала напрацаваўся, папавучыўся, столькі каштаваў нас, тваіх бацькоў, і дзяржаўны скарб, а так марна скарыстоўваеш здабытае, данае...“ Андрэй: „Маці, ты не ведаеш маіх магчымасцяў, таго, што дала мне навука, вучоба. Я, ведаеш, гатоў не такое рабіць!“ Маці: „Гатоў, ведаю, што ты гатоў. Жыццё пражываеш у гатоўнасці...“ Андрэй: „Хто гэта навучыў цябе так гаварыць?“ Маці „А ці я сама не бачу?“ Андрэй: „Не смейся, маці, з таго, што скажу зараз табе: буду дырэктарам! У мяне ёсць шанцы дзеля таго, каб ім быць. Павер! Я ўжо на добрай дарозе. Пабачыш! Крыху часу і...“ Маці: „Каб Бог даў табе, Андрэй. Каб Бог даў... Але ці дазволяць? Ці дазволяць тыя, якія чыняць людзей дырэктарамі?“ Андрэй: „Я зраблю ўсё, што трэба, каб дазволілі. Думаеш — мне не абрыдлі глупствы, якімі вымушаны я займацца, дзень у дзень? Думаеш, — так мне смачна крывіць душою перад загадчыкам? Ды прымушаны я тое рабіць, каб, упачатку маёй дарогі, не падставілі мне нагу і не перакінулі, не пляснулі ў калюгу!“ Маці: „А ці ж гэта патрэбна ажно столькі махляваць ды крыўляць сабою, каб выбіцца на дырэктара?“ Андрэй: „Трэба!“ Маці: „Ну, і што людзям будзе ад таго, што ты, нарэшце, выб'ешся на гэтага дырэктара?“ Андрэй: „Ужо Леў Талстой, якога ты, маці, так праслаўляеш, пісаў, што калі людзі злыя, аб'яднаўшыся, утвараюць сілу, дык людзям добрым застаецца зрабіць тое ж. Ведаеш, маці, калі стану я дырэктарам, дык першае, што зраблю, гэта павыкідаю з дырэкцыі ўсялякую звалату!...“ Маці: „Не ведаю, сынок, што там Талстой пісаў: пра яго, памятаеш, усё гаварыў наш сусед Лявон. І гэты Лявон, ты ўжо не ведаеш таго, змовіўся з добрымі людзьмі ў вёсцы і яны скінулі з солтыса сабаку Якіма-Ліса, і на яго месца выбралі Лявона. Але ён, цяпер, аказаўся не лепшым ад Ліса. Так і думаю сабе, Андрэй, што дабро не павінна змагацца са злом, як сухотнік не павінен хадзіць да здаровых людзей...“ Андрэй: „Абяцаю, маці, не зразіцца....“ Маці: „Можа ўдасца табе, сынок, застацца такім, якім хочаш...“

Андрэй, калі яшчэ не мог вырашаць у істотных пытаннях і з'яўляўся амаль смяццём, не бачыў вострa. Па-каровячаму жоўваў справу за справай ды спазіраў на гадзіннік, ці не час яму дамоў... Купля зубной пасты хвалявала яго мацней, чымсьці афармленне ім шматтысячнага заказу для фірмы, ад якога залежыла, мабыць, і частка ўласнага лёсу. Але гэта быў лёс проданы, з якога Андрэй ратаваў сабе хоць эмоцыі, тое, чаго выразна не названа ў дагаворы аб рабоце.

Усё гэтае, папярэдняе, назваў парабкоўскім раздваеннем асабовасці.

Зараз ён не прадаваў па кавалачку свой лёс, пасведчваючы згоду на тое — штодзённым подпісам у месячнай карце прысутнасці; з'яўляўся пакупніком чужых.

Не баяўся нікога паблізу (дырэктара ўсё не было). Працаваў у дырэктарскім кабінеце (пакой загадчыка — апячатаны). Вырашыў, у максімальна кароткі тэрмін, дабіцца ад людзей пашаны!

Карэспандэнцыю прыносілі Андрэю каля дзявятай гадзіны.

Службовая пісаніна, як хатнія сачыненні вучняў, стэрэатыпная і неахайная. Прытым — нельга ўдумоўвацца ў яе, бо тады нічога не зразумееш. Яна, быццам прасціna, аб якім даволі ведаць, што трэба на ім спаць.

Думкі Андрэя выгнуліся на дзіўны матыў: „Дапусцім, што ў мяне ёсць сын і яму — шаснаццаць гадоў. Ён прыносіць са школы двойкі. На лаянку адказвае пытаннем, што бацьку павінна быць важнейшае: заканчэнне сынам школы ці ягонае пачуццё шчаслівасці? Я — шчаслівы, кажа сын, і гэта самае галоўнае. Двойкі з'яўляюцца дробяззю. Ці ты, сынок, ведаеш, што гэта шчасце? Шчасце заключаецца ў няведанні, адказаў сыніско прачытаным. Хто ведае яго, таму ўжо не быць шчаслівым. А мо такое пераставанне шчаслівасці,

безупыннае, якраз і з'яўляецца шчасцем? Гэтак запытаў сына і ён прыбянтэжыўся...“

Андрэй, на картцы паперы, машынальна пісаў:

| мгр інж. Андрэй Антошка | |
|---|---|
| ДЫРЭКТАР | |
| Дырэкцыя мясцовай прамысловасці | Беласток-Выгода вул. Кароткая 13 |

Пацелі яму далоні, спіна, патыліца. Глыбей удыхаў ён паветра ў прасмуроджаныя тытунём лёгкія. Смярдзела ад забензіненай вуліцы. Андрэй дапісаў ніжэй адрас установы і яшчэ намаляваў порсткую дулю, міжвольна.

Добрую хвіліну плюскаў на яе вачыма, быццам п'яніца на чарку з гарэлкай вышэйшага гатунку, і парваў гэту картку. Рваў — на драбнюсенечкія кавалачкі, якія чамусьці ўсыпаў сабе ў кішэню пінжака.

Падсеў разгледзець карэспандэнцыю.

Андрэя як бацьку пачаў прыкра павучаць голас настаўніка: „За двойкі — лаяць, біць? Біць?! Біць, каб прасіўся і прысягаўся, што болей... Гэта без сэнсу, пан Антошка. Такое спародзіць у вашага сына страх, які потым расшчэпіцца на нянавісць, трусасць, подласць... Трусасць, я б сказаў бы, з'яўляецца формай нянавісці. Гэта так! Нянавісць і трусасць — родныя сёстры. А раскаянне, калі яно шчырае, не фармальнае, заўсёды ідзе следам зразумення. Колькі сваяцтваў!...“

Прамінула больш дзвюх гадзін і да Андрэя ніхто не меў ніякай справы. Прайшоўся ён па кабінеце, з рукамі на спіне. Па-сышчыцку прахіліў фіранку: па дзядзінцы снавалі работнікі секцыяў, скарачалі яны сабе пераходы, паміж грузавых машын, што пад'язджалі да рампы складаў. Шафёры, вось, вылазяць на ступенькі і саступаюць па іх, дастаюць з кішэняў папяросы, прыкурваюць пад вецер, адварочваюцца і плююць, а пляўкі выскокваюць, быццам малыя жабкі — з берага і ў ваду.

Зыйшоў Андрэй уніз.

Наважыўся нешта ўчыніць.



Яму спатрэбілася паставіць некага ў простую залежнасць ад сябе. Дзякуючы таму ён — намацае першую штыхецііну ў плоце, уздоўж якога пойдзе сваёй вуліцай, шчыльна выбрукуе яе трывалымі каменнямі дзейнасці. Уласнай!

Пракантраляваў грузавікі.

У задрыпанага шафёра знайшоў чвэртку гарэлкі — таннай, прасцяцкай.

— Пану дырэктару чаго трэба ад мяне?! — і не даў забраць бутэльку. Андрэй, бы тая пахваленая дзяўчына (пан дырэктар!), занадта не ўпіраўся.

Шафёр кінуў яе назад, пад кажух, ды пагардліва плюнуў. Гэтага было дастаткова: Андрэй ускіпеў і не адступіўся ад яго.

— Вам здаецца, што вы знаходзіцеся на вяселлі! — хапіў за бутэльку. — Пусці-і-і!! — вывіснуў на яго. — Я вам дам піць! Я вам пакажу піць!! Мала выпадкаў нешчаслівых, на дарогах, мала?! — і ірвануў. — Аддай!

— А... ты бачыў!? — шафёр ушчаперыўся за шыйку і, у наступнае імгненне, вытузнуў тую чвэртку з рукі Андрэя ды бразнуў ёю вобземлю; распырснулася, шкло выстрамілася, бы першы лёд на аселіцы, калі, вярнуўшыся са школы, гулялі ў схованкі або — звычайна — бегалі ды папіскваліі...

— Ты так?! — Андрэю асіп голас. Яму засвярбеў кулак, але гамаваўся са страху, падвойнага: дастаў бы па скабах ад гэтага здаравілы, акампраметаваўся б бойкай, страціў бы пасаду. Страх быў, фактычна, патройны. — Памятацьмеш мяне п'яніца! — заенчыў па-вясковаму.

— Ідзі, ідзі, дарэктар!

Пачуўшы „дарэктар“, Андрэй вярнуўся да шафёра.

Той гаварыў:

— Ідзі сабе, гэта не тваё, не шукай чужога. Ба ты яго, ухапіўся! Вынюхаў. Адкуль табе, дарэктар, вядома, што не на мяніны я купіў гэту гарэлку?...

Збіраўся натоўп.

— А вы чаго тут не бачылі!? — Андрэй да лю-

дзей, быццам солтыс да малазямельных гаспадароў. У вушах гудзела яму гаворка паўзабытага бацькі, з якім малаціў авёс і спрачаўся.

Адыходзілі. І чым далей, тым галасней гаварылі, пацiскалі плячыма. Некаторыя смяяліся; хоць ты вазьмі ды разгані ўсё гэта зборышча. Біў бы: удар у дыхавіну, затым — у карак! У дыхавіну, у карак...

Шафёр абапёрся аб высокую кабіну грузавіка „Стар“ і, з зацятымі вуснамі, глядзеў на Андрэя. Капціў агідную папяросу, якая жаўцела ў засліненым куце рота.

„Гэты лыч кпіць з мяне! Гэты хам!! Сынок лавачніка, якому вёска існуе дзеля таго, каб ён меў з каго пасмяяцца, падонак!“ — Андрэй, з цыркавай бадзёрасцю, пераступіў разбітае шкло і накіраваўся да сябе.

За ім хтосьці шпурнуў жалезам.

— Звяжыце мяне з камендатурай міліцыі, — загадаў Андрэй машыністцы, што замяняла сакратарку. Тая не зразумела. — Хутка!

— Міліцыі?

— Міліцыі!

У кабінеце зняў гальштук.

— З капітанам прашу! — гыркнуў, калі, неўзабаве, затраскітаў тэлефон, дырэктарскі. — Неадкладна!

— Капітан заняты...

— Ведаю: пераключайце!

Не выпытвалі.

Азваўся голас капітана. Андрэй мамантальна пазнаў яго. Сказаў яму сваё прозвішча.

— Слухаю вас, — неяк дзеравяна капітан. — П'юць гарэлку? А дзе ж не папіваюць яе, гэтай гары... І кідаюць за вамі жалезам? Сапраўды, гэта ўжо залішне, але што мы зможам зрабіць? Відаць, не любяць вас, не паважаюць. — Ён абражаў Андрэя. — Допыт? Дапытаць можна ды нічога з таго не будзе: выбухне сенсацыя і вы шмат страціце на цэлай цырымоніі..., — ізноў абразіў! — Не, вы дрэнна зразумелі мяне, пан Антошка. Так. Мне хацелася пажартаваць у так сумнай абстаноўцы, аб якой вы... Не, я не чакаю, пакуль вас заб'юць... Думаю, што гэта ваша ўнутраная справа... Што? За спробу забойства? Ну, перабольшваеце... Калі хочаце, я прышлю. Добра, прышлю сяржанта. Добра... Да пабачэння.

Пра тыя валасы капітан як бы і забыўся...

Сяржант прыйшоў праз дзве гадзіны.

Да рабочых.

Андрэй чакаў яго ў кабінеце, але сяржант не заявіўся да яго.

Выклікаў Андрэй персанальніка. Загадаў яму звольніць з работы таго шафёра.

— Пан загадчык, няма падстаў!... — запярэчыў, ведаючы, што на гэта ўпаўнаважаны адзін дырэктар.

— Звольніць! — расхадзіўся перад ім. — Яму авёс у сраку коле. Ён п'е, буяніць, кідае жалезам у людзей, у чалавека! Ім — міліцыя цікавіцца, гэтым разбойнікам.

— Так, але...

— І слухаць не хачу... Якія ў вас сумненні? Ну, выкладвайце іх. — Персанальнік, збіты спанталыку, стаяў. — Я сам, асабіста, знайшоў у яго гарэлку, разумееце? — змучыўся. Апамятаўся: — Сяржант да вас не заходзіў? — спытаў, як аб чымсьці зусім іншым.

— Сяржант? Не, не заходзіў, — персанальнік занепакоіўся.

— Зойдзе, — сказаў аб сяржанце. Не тлумачыў, чаму гэта мае зайсці сяржант? Чаго? — Зрэшты, вынайсці падставу для звальнення, гэта ваш занятак. Я сцвярджаю, што яго трэба выгнаць — п'яніцу і хулігана, забойцу!

— Ніколі не піў ён. Кажаце — кагосьці забіў?

— Калі яшчэ не забіў, дык заб'е! Мы павінны разагнаць тое гарэлачнае братчыцтва...

Падчас сваркі з шафёрам Андрэй мацаваўся са страхам. Эпілептычна дрыжэла яму правая кульша, клубы, курчыўся жывот, трэслася правая рука, язык уцякаў у горла. Страх запоўз у мазгі. Намагаючыся выкінуць яго назад, на плечы, а з плячэй страсянуць на падлогу, уздырдыганіў нервы і спечанымі ад натугі губамі шаптаў: „Я табе пакажу, гніда ты паршывая!“

— Не піў, не буяніў, міліцыя не цікавілася ім...

— Не ведаеце сітуацыі ў нізавых кадрах, не ведаеце таго галоўнага, за што атрымоўваеце грошы...

— Дазвольце, пан загадчык, заўважыць, што я рэгулярна аналізую нашы кадры, аб чым вы ведаеце.

— І што з вашых аналізаў...

Скаўзнуліся з прыбярэжжа на сярэдзіну плыні, дзе тонкі лёд.

— Мне крыўдна чуць такое, пан загадчык. Я ж...

Абарваў яго:

— Ну, якая карысць з вашых аналізаў? Самі добранька падумайце! Даволі было мне адзін раз, досыць выпадкова, пракантраляваць, напрыклад, шафёраў і, пабачце, якое шыла з мяшка вылезла. Ліпныя вашы аналізы! Во, што вам скажу: ліпныя!!

Персанальнік папялеў.

— Калі я непрыдатны на гэтай пасадзе, пан загадчык, дык — калі ласка — перамясціце мяне на іншую.

— Перамясціце, перамясціце..., — перадражніў. — Лёгка вам сказаць: перамясціце. Куды? Дарэчы, трэба вучыцца працаваць, а не ўцякаць ад працы. — Андрэй: „Ого, які ганаровы! Пэўны, сабака, сваіх сувязяў. Якіх? Разлічвае на дырэктара? На ягоную падтрымку? Я яго мушу прыручыць!“ — Гэта, калі хочаце ведаць, нават і неганарова так гаварыць: перамясціце! Трэба перамагаць цяжкасці ў рабоце і ісці далей...

Стаміліся.

Андрэй быў ужо схільны махнуць рукою на справу аб звальненні шафёра, калі персанальнік моўчкі пакланіўся і выйшаў.

„А ты гэта куды зноў?!“ — хацеў перапыніць яго. Схапіць за каўнер, бы шчанюка, вярнуць, намахаць пальцам перад носам, давесці яму да ведама, што без згоды яго, Андрэя, ніхто не можа выйсці, от, так сабе, не папрасіўшы дазволу, самавольна. „Калі я адразу не схаплю іх за морды, потым будзе запозна, панясуць мяне, быццам коні з дарогі ў поле“.



Загадаў сакратарыяту склікаць нараду кіраўнічага персаналу, на дванаццатую.

— Падрыхтаваць чорнай кавы?

— Толькі мне аднаму, — адказаў Андрэй. „Якогасьці смецця напапрыносілі!“ — злаваўся, гартаючы карэспандэнцыю і надпісваючы дэкрэтацыі.

Дыван засцілаў паўпадлогі. Пад канферэнцыйным сталом — ён, як новы: там рэдка топчуцца па ім. — Замкнуўшы дзверы, някепска было б сабе пакачацца па гэтай фабрычнай зялёнастасці, быццам увесну на лузе, калі выганяюць на пашу каровы. Разлягчыся — і глядзець у вышыню, каб аж у галаве закруцілася! Альбо — запаўзці пад стол і ўявіць, што ты знаходзішся ў гушчавіне крапівы, выраслай, у якой пякучыя лісці ўжо высока і магчыма сядзець, сядзець пад імі, не папарыўшыся. У гэтакай старой крапіве можна схавацца і чакаць зручнага моманту на тое, каб дабрацца да салодкай яблыні, што расце на ўскраіне загонаў. Гаспадыні, што выйшла палоць буракі, няма чаго баяцца... Але нашто яе крык? Лепей пачакаць, калі яна, з поўным кашом зелля, пойдзе ў хлявы.

Цвяроза зарыўшыся ў паперах, Андрэй перастаў выразна бачыць. Патрэбны акуляры. (Рацыі, якія выказвае чалавек у акулярах, гучаць пераканаўча. Здаюцца яны дакладнейшымі).

Дэкрэтаваўшы карэспандэнцыю, ён акуратна ўклаў яе ў альбом і, прыадчыніўшы дзверы ў сакратарыят, перадаў для даручэння паасобным к - раўнічым работнікам; зыходзіліся яны.

Нараду пачаў Андрэй пунктуальна.

— Прапаную наступны парадак нарады: маё выступленне — ніякіх пытанняў і адказаў, ніякай дыскусіі!

Твары прысутных зліваліся Андрэю ў густы іканастас, разрэгуляваў зрок так, каб не бачыць іх выразна (аб гэтакім актарскім спосабе недзе чытаў).

— Ясней кажучы — заяўляю, што не дапушчу ў рабоце дырэкцыі ніякай, нават саманайменшай разлезласці, самаздавальнення дасягнутым, пату-

рання гультаям і пранырам. Мы забедныя, каб дапускацца хібаў у рабоце. Кадравік тлумачыць мне, што ён аналізуе кадры. Магчыма, хто іншы на маім месцы паверыў бы яму, але не я! Які гэта аналіз кадраў, калі, напрыклад, шафёры п'юць гарэлку, возяць яе з сабою? Адміністрацыйны пераконвае мяне, што запасовыя часткі для машын будуць. Адміністрацыйны, відаць, лічыць, што кожны, хто не ён, гэта — дурань! Як могуць быць запасовыя часткі, калі адміністрацыйны не аформіў рапарта, без якога, як гэта добра вядома яму, няма падставы для афармлення заказу... — папіў чорнай кавы. Адзін. — І так, па чарзе, прыгледзімся да кожнай дзялянкі нашай дзейнасці...

Пасля нарады — пакідалі кабінет тлумна, усё роўна як тыя авечкі, што, напалоханыя сабакам, выбягаюць з загарадзі.

Кабінет, закончаны пісьмовым сталом дарагога вырабу. Яго сцены памаляваныя, праўда, трохі старамодна. На вокнах — багатыя заслоны тонкай работы. Кафейны столік, фатэлі, пальма, бібліятэчка; далей — канферэнцыйны стол, крэслы. Усюды дываніста. Утульна.

Ад дзвярэй — шмат прасторнасці.

Андрэй ведаў значэнне гэтага прасторнага месца: яно бянтэжыць таго, каго выклікаюць на размову.

„Доўгая сцежка да трона, засланая дыванамі, не толькі аздоблівала. Вопыт вякоў! — Андрэй шукаў спосабу пазбыцца кіраўніка адміністрацыйнай секцыі. Пакуль дзейнічае закон пачатку, які апраўдвае кожную маю раптоўнасць — трэба паспрабаваць зварухнуць з месца таго надзьмутага тыпа. Пасля не будзе ў мяне такой моцы. Несумненна, што ён зробіць усё, каб мне, Андрэю, зашкодзіць! Таму супроць яго, мабыць, нядрэнна было б паслужыцца схемай паступовай нездаволенасці, якая заключаецца ў тым, каб усё часцей і часцей надакучаць заўвагамі і вымовамі. Гэта выкліча ў адміністрацыйнага актыўнасць у сваю абарону і ён пачне пісаць, вядома скаргі, ствараючы становішча несумяшчальнасці нас двух у адной установе" — Андрэя і адміністрацыйнага кіраўніка. Узнікне фінальнае пытанне: хто тут важнейшы, хто патрэбнейшы фірме? І кіраўнік адміністрацыйнай секцыі будзе вымушаны пашукаць сабе месца... Андрэй, вядома, дапаможа яму шукаць, але так, каб... доўга шукаў!

„Я залішне паскандаліў з шафёрам!" — заключыў Андрэй... І гэта Лявон змовіўся з добрымі людзьмі ў вёсцы, і яны скінулі з солтыса сабаку Якіма-Ліса, і на яго месца выбралі, менавіта, Лявона, але ён цяпер аказаўся не лепшым ад Ліса.

Унутраны тэлефон.

— Адміністрацыйны — да пана загадчыка, — голас з сакратарыята.

— Прасіць.

„Чаго ён?"

— Пан загадчык, — міла адміністрацыйны кіраўнік. — Трэба купіць, у кабінет, тэлевізар, венгерскі.

— Вы жартуеце, пан кіраўнік! — І мякчэй: — Я, замест працаваць, прасяджу дзень перад тэлевізарам.

— Не пашкодзіць мець пад рукою гэты тэлебач... Дзеля гігіены разумовай працы, ведаеце...

— Не, пан кіраўнік!

— Як гэта, пан загадчык? Грошы ж на купліо тэлевізара ў кабінет пана дырэктара даўно запланавана, адно чакалася ў продажы венгерскіх тэлевізараў. Пан дырэктар казаў, што яны лепшыя...

— Ах, калі так..., — вылецела з Андрэя. — Дык што: я не супроць.

— Дзякую, пан загадчык.

— Гэта не мая справа.

Тэлевізар унеслі пад канец работы.

Назаўтра дыван быў затаптаны тут да непазнакі; начныя старажы глядзелі тэлевізійную праграму. Патыхала смуродам ад танных папяросаў. Андрэю зрабілася нясцерпна і ён учыніў дзікую авантуру; з дома прывезлі прыбіральшчыцу, якая забегала па кабінеце, з анучаю ў руцэ ды з вядром вады. Пачціва наводзіла яна чысціню.

У дзверы ўстаўлена аўтаматычны замок.

У тую ж раніцу здарылася яшчэ адна непрыемнасць: намуціў тут кадравік. Гэта ён настайваў на тым, каб прыняць на работу былую прастытутку. Улады просяць, казаў Андрэю. Калі просяць, дык трэба прыняць, пагаджаўся з ім. У нас ёсць вольнае месца на шафёра „Ныскі“, удакладніў персанальнік. Няхай ездзіць баба — Андрэй чытаў у газеце, што прастытуткам арганізоўвана шафёрскі курс, каб прыстасаваць іх да жыцця. Няцяжка ёй будзе на „Нысцы“, супакойваў яго кадравік. Глядзіце, пан персанальны кіраўнік, каб яна нам маладых рабочых не пабунтавала, пажартаваў у заключэнне размовы з кадравіком. Нялёгка будзе ўпільнаваць мужчын: яна прыгожая, падла, — паіржаў кадравік. Ну — талкова гікнуў Андрэй, і ўзяліся яны абмяркоўваць нешта іншае. Было гэта на тры дні перад нарадай.

Папрацавала яна адзін ці два дні, і знікла. Лічылі, што, па звычцы, загуляла ў якойсьці патаемцы. Нехта з шафёраў паведаміў, што ў „Нысцы“ зняты прыборы, няма запасовай апоны... Кадравік паехаў да гэтай жанчыны, але ў яе кватэры застаў адну старую маці, якая не ведала нават аб тым, чым займалася яе дачка дагэтуль.

Вярнуўся ён увесь з перапуду!

— Уцякла, пакінула нам дулю! Прапаную званіць у міліцыю, — гаварыў кадравік. У яго ўжо не было той, звычайнай, упэўненасці і гэта Андрэю спадабалася. — Абакрала нас, сука!... Зрабі чалавеку добра, то ён табе, во, чым аддзякуе!

— Хвілінку, спакойна, — супыняў яго Андрэй. — Давайце сядзем ды падумаем, — Андрэй: „Высмеюць у міліцыі; капітан! — У вас, пан Андрэй, калі не дрыстачка, дык балячка, хі-хі-хі...“

— Чаго тут думаць? — кадравік закурыў зверабойную „Партагас“, кашляў і гаварыў, не дагаворваў, лапатаў языком, бы сячкарня сечку рэжучы. — Пазваніць, данесці, хай схопяць, халеру, завалакуць у арышт, дадуць па срацы... заскавыча, прызнаецца, у зубах прывалачэ, блядзь, ногі цалаваць будзе... каб яе абасрала... прыняў на работу, а яна, сука, хвастом павярнула ды ў поле, каб яе сабакі там заганялі ў дошку, загрызлі, заелі ненаеднікі, каб за сраку сваю трымалася, як я за жывот у першы дзень Каляд, пасля качкі з каўбасою, гэтай цёшчынай падумкі...

Ён баяўся Андрэя, і гэта была добрая пазнака.

— Абціхніце, ну, абціхіхайце, — сказаў, амаль жартаўліва, Андрэй. Не яго гэта бяда і ён мог скарыстаць яе. Зараз гэта зразумеў, калі абмовіўся: абціхіхайце. Праз секунду пазней.

Кадравіку, неспадзявана, пашанцавала. Праўда, не вельмі моцна, аднак жа настолькі, каб зноў трымацца перад Андрэем працэй. Менавіта, з'явіўся вуглаваты рабочы з абнадзейваючай звесткай. Ён спачатку скапыціўся перад прасторою ў кабінеце, засланай дываном, і прапусціў наперад сакратарку.

— Гэты пан бачыў яе, сёння, — сказала аб ім.

— Добры дзень, пан дырэктару! — здалёку. На кадравіка ён пакасавочыўся. — Так, пан дырэктар, я бачыў яе, паскуду. Па-суседску. Але, — сказаў хітры адрас. — Там, у той кватэры, жыве такі адзін: любіць крадзяжом займацца, бабамі, спекуляцыяй... Яна бушуе з ім... Значыць, не пры жанчыне кажучы..., — меў на ўвазе брыдкае. Замаўчаў, не дакончыўшы.

— Пазнала яна вас? — Андрэй да вуглаватага.

— Не, адкуль!? Я ж ёй ні сват і не дзядзька — не ведае, што я тут працую...

— Дзякую.

— Да пабачэння, пан дырэктару, — марудна, чагосьці чакаючы.

„Грошай? Платы?“ — паірытавала Андрэем. Ён, магчыма, даў бы яму дробную суму, калі б не тое „пан дырэктару“, перакручанае, быццам назнарок. На румынскі лад, ці што?

— Да пабачэння.

Кадравік, да тупасці, курыў. Азваўся, балбатліва:

— Ну, вось. Так. Хі, чорт...

— Колькі апонаў няма?

— Аказваецца, што дзве!

— А з прыбораў — чаго?

— Ну, лічыльніка няма, бензамера, радыёпрыёмніка — таксама. Скорасніка...

— Дзе ж былі вочы ў старажоў?! — Андрэй як бы пытаў, дзе — у кадравіка. Прыкра! — У міліцыю нельга званіць.

— Як жа без міліцыі?

— Я бяру на сябе ўсю гісторыю.

— На сябе? Вы? — кадравік, здавалася, папросіць квітоў на гэтыя словы. (Асабліва, пасля той нарады.)

— Так, — пашкадаваў сказанага. Пад сабою трымаў страх. — Скажыце, каб людзі не давалі волі языкам. Рабочаму скажыце. Важнае!

— Што вы хочаце зрабіць?

— Яшчэ не ведаю. Падумаю.

Устаў. І кадравік устаў, з сінякамі на душы.

„Я не перадумаў, беспатрэбна паспяшаў з гэтым сваім перайманнем справы на сваю адказнасць, — хваляваўся Андрэй. — Які чорт падкусіў мяне займацца, вось, ёю?! Адшукаю прастытутку, але ці гэта вырашыць тут што? Тыя прыборы, апоны, напэўна прапіла іх яна, з бадзяжнікам на суполку, прасвістала! Вернецца дырэктар і кадравік распусціць чуткі, што я быў у змове з курваю. Ведаю яго звычкі...“

Пазваніў знаёмаму інжынеру. Даўно мы не бачыліся, гаварыў яму. Як сябе ты адчуваеш? А той: „Чуў, што ты ўжо дырэктар? Віншую, калі гэта праўда. Відаць, мой дзённік прыдаўся табе...“ Нельга гаварыць таго па тэлефоне, угамоньваў яго Андрэй. Я не дырэктар...

Хутка закончыў гэтую размову.

Хацеў крыху адпачыць, а гэты інжынер, гэтае няўдала, нагнаў яму суму густога, як восеньскі туман. Паволі прасвечвалася ў ім думка напісаць пісьмо, зладзейцы. Усплывалі першыя фразы: „Шаноўная Пані! Дасылаем Вам тыднёвы заробак...“ Чаму тыднёвы? „Шкада, што не будзеце працаваць у нас...“ Дурна! А, можа, якраз гэта пакіне на ёй патрэбнае ўражанне, як ананімка? Пра найважнейшае: „Гэта залежыць толькі ад Вас. Чакаем да пятніцы, да 10.00“. Няясна? Нічога. Важнае тут не напісанае, але — адрас, зломленая упэўненасць яе ў тым, што няхутка — знойдуць, адшукаюць, арыштуюць. Пазбаўленне яе пачуцця бяспечнасці!

Ліст і грошы паслаў Андрэй сам, грошы — свае.

Мо прозвішча ў яе фальшывае? Нельга панікаваць.

У наступны дзень Андрэй не пайшоў на работу. Пазваніў сакратарцы, што захварэў. Застудзіўся.

Чытаў Фрома „Забытая мова“.

Інжынер, той хатні філосаф, казаў яму пра тое нясцерпнае, ад чаго Андрэй псаваўся, быццам дамскі гадзіннік у лапах.

Час жаніцца табе, Андрэй.

Мне?

Чаго здзіўляешся? Не маладзік жа ты...

Ну, і што з таго?

Не ўяўляю сабе, як гэта можна аднаму ісці праз жыццё? Гэта пагражае непрадбачлівымі скрыўленнямі яго...

Напрыклад, якімі?

Напрыклад, эгаізмам. Чалавеканенавісніцтвам!

Ты жанаты і — без скрыўленняў? Прасцютка прарастаеш? Няпраўда! Я не галаслоўлю: доказам тут — твой дзённік. Доказам чагосьці болей непрыемнага табе: калі б, менавіта, не сям'я, ты не зганучыўся б...

Што маеш на ўвазе, перабіў ён Андрэю.

Маю на ўвазе твае пошукі работы, цэлую гэту жабраніну аб літасць у людзей, якія заслугоўваюць — саліднага мардабою! Гэта быў шантаж не столькі з боку тае звалаты, што іржала з цябе мужыцкім рогатам Паўлюка з вёскі Ніва, колькі шантаж, якраз з боку тваёй сімпатычнай сямейкі, зусім не намераны, якой трэба ж запэўніць, так званы, кавалак хлеба. Найлепш, тоўсценька пашмараваны маслечкам. Калі ж ты быў бы адзінюткі на свеце, як той галыш, дык пляваў бы на шайку гаўняцкіх нелюдзяў, трусоў, і запозненых кандыдатаў у эсэсаўцы!...

Ты, Андрэй, не павінен мне так гаварыць: сям'я з'яўляецца часткай майго „я“ і таму ўсё, што тут сказаў ты аб ёй, перш за ўсё датычыць мяне...

Сям'я з'яўляецца раскошай, перабіў яму. І толькі людзі несвядомыя таго наважваюцца мець яе. Мабыць, некалі мае словы перастануць быць табе актуальнымі... Закласці сабе сям'ю, гэта тое ж, што прытупіць свой бег у жыццё. А кажучы мовай штодзённшчыны — стацца палахліўцам, лізуном, штатным дрыжыкам, дрыстуннчыкам, нічым! Стацца падмятайлам чужога смецця, банды нахабнікаў і мацуноў, моцных, з якімі, калі захочаш раўняцца, вымушаны забыць на мараль, этыку, годнасць, ды ўсё такое. Гэта, з чалавека, робіць цывілізаванага звера... Я не магу сабе дазволіць мець сям'ю.

Ты так са злосці...

Якой зноў злосці? Я ж да цябе нічога не маю. Ты ж мне не пераступіў дарогу.

Не ведаю...

Інжынер перастаў спрачацца.

Здаецца, што гэтакай гутаркі не было паміж Андрэем і ім... Хіба, што калі аддаваў яму той дзённік, які і смяшыў, і палохаў сваёй прэтэнцыёзнай і, адначасова, беспрэтэнцыёзнай вымоўнасцю. Самай уражаючай у гэтым запісе з'яўлялася ягоная сапраўднасць.

Жыццё не адбываецца па задуманай спіралі. Яно — балаганнае, у кавалках, быццам шмацяны ходнік у прыёмнай, які ёсць вытканы на тры метры, але мог бы быць і на пяць метраў, і на дзесяць, і больш...

У пятніцу Андрэй не паверыў уласным вачам: на крэсле — каля пісьмовага стала сакратаркі, якой яшчэ не было, — сядзела зладзейка. Нібы рэдкая птушка, што зляцела з нябёсаў, стомленая і занепакоеная невядомай ваколіцай.

— Прашу, — паказаў ёй на ўваход у кабінет. Заплакала.

— Не трэба, — сказаў, бы да маладой удавы, перад якой яшчэ цэлае жыццё. Першы раз чуў такі плач, ціхі і накоцісты. — Супакойцеся, — падаў ёй шклянку содавай вады. — Калі ласка, выпіце, — яна ўзяла. — Хачу пагаварыць з вамі...

— Я ўсё аддам.

— Аддайце і, заўтра, прыходзьце на работу, — Андрэю здавалася, што кожны яго волас закончыўся кропелькай поту. Дастаў хустачку, свежую, складзеную ў квадрацік, белую, з сінімі палоскамі па краях. — Хо-о, духотна..., — адчыніў фортачку.

— На работу? Я? Пан дырэктар...

— Вы.

— Я ж..., — прыгубіла шклянку з вадою. — Гэта я ўсё... Гэта ён намовіў, каб я...

— Не пытаю вас пра адрас: хто, дзе і калі? Вы — не ў міліцыі. Мяне не цікавяць даныя. Спрабую вам паверыць... Ці вы разумееце? Заўтра можаце прыходзіць на работу. Прапаную: забудзем тое, што здарылася. Сёння прынясеце прыборы і апоны. І канцы ў ваду. Адпавядае?

— Не ведаю, як вам дзякаваць...

— А вы не дзякуйце. Сваю волю вяртання да жыцця пацвярджайце добрасумленнаю працаю. Гэта будзе самая вялікая падзяка нам з вашага боку, — гаварыў, бы куратар.

— Які вы добры чалавек!

— Ці я добры, ці не — гэта мая справа. Не падумайце, што раблю вам ласку або літуюся. Не, даю вам, яшчэ адзін, шанц. Выкарыстайце. Не выкарыстаеце — наракайце тады на сябе. Папярэджваю — буду бязлітасны! — не, не куратар.

— З вас добры чалавек, пан дырэктар, — цвярдзіла з тупасцю вяскоўца ў горадзе.

— Трэба думаць аб будучыні, мілая пані! — востра. — Чалавек, які не можа вызваліцца з мінулага, затручвае ў сабе сілу волі. Мінулае, як кавалак гнілога мяса ў жываце..., — Андрэй: „Што гэта я гавару ёй? Яна ж ні храна не цяміць з таго ўсяго!“

— Не баіцеся мяне... Украла... Уцякла...

— Не баюся, — працягла паглядзеў ёй у твар, нядурны, нябрыдкі: „Яна магла б закончыць сярэднюю школу, потым — вышэйшую. Магла б зрабіць сябе прывабнай паняй інжынер, мець зайздросныя заробкі, кватэру, самастойнасць. Затым — выбраць сабе мужчыну на мужа, такога, які не перавышаў бы яе ні прыгажосцю, ні інтэлігенцыяй. Ён шанаваў бы лепшую ад сябе жонку, бо

ў ёй бачыў бы свой жаданы лёс. Пры гэтакім мужу, паслухмяным і ціхім, яна, як у прыстані, адпачывала б пасля далёкага плывання і знаходзіла б забеспячэнне таго мінімума ўласных псіхічных ды фізічных патрэб, жаночых. Няроўнапраўны страх, гэты папулярны сродак, што гарантуе шлюбную вернасць аднаго з партнёраў, з'яўляўся б бяссільным у сутыкненні з ёю; з пагардай адкідала б ад сябе мужчын, разам з іх высокапастаўленцкімі ўплывамі, дзеля адной галоўнай мэты — паглыблення задаволенасці жыццём. Эгаістычна? Калі прыняць, што жывем дзеля шчасця... Не, не, я блытаюся. Шкада гэтай жанчыны."

— Я, хуценька, усё прынясу... Прывязу, — папраўілася, маючы на думцы апоны. — Дзякую вам, пан дырэктар.

Стрымала слова.

Працавала з якойсьці добраахвотнай рабскасцю, да якой здольная тая жанчына, што страціла надзею дабіцца якіх-колечы пераваг. І, менавіта, гэта не давала гарантыі, што яна не паўторыць ужо раз зробленага.

„Другі раз яна пачысціць нас не так, хітрэй!" — чарнахмурылася перад Андрэем боязь, клубавала, як, тыя самыя, летнія буры.

Кадравік, з'авечаны ад захаплення і ўдзячнасці, кароткатэрміновай, вышэптваў Андрэю словы пахвалы.

„Нечуванае, пан загадчык! Нечуванае!"

*) Урывак публікуецца паводле першай версіі аповесці.



# СЦЯНА

## (УРЫВАК З АПОВЕСЦІ)*

Як добры дурань, ён з незвычайнай сумленнасцю ўзяўся ажыццяўляць даручанае яму заданне; са складвання рапарта аб арганізацыйным становішчы ў арцелі, дакументаванага выяўлення яе слабых і моцных бакоў. З верай у пераканаўчасць аргументаў.

Сумленевіч насіў у сабе крыўду на тых, якія сумняваліся ва ўдачы ягоных захадаў або, досыць адкрыта, смяяліся з іх, прытым не фармулюючы абгрунтаванняў сваіх высноваў. Але і яны, паціху, жадалі Сцяпану ўсяго найлепшага і, таксама, спадзяваліся на змены ў арцелі. Ім і не снілася тое, што настойваючы на паляпшэнні чагосьці можна мець на ўвазе адваротнае.

...Сцяпан падпаліў легкавую машыну старшыні дваццаць трэцяга чэрвеня, у ноч з чацвяргу на пятніцу. (Камісія Сумленевіча, як называлі яе на прэтэнцыёзны манер, практычна ўжо не існавала, пахвальна выканаўшы прынятае на сябе; справаздачу — машыністкі перапісвалі яе ў пяці экземплярах, — падзелена на тры часткі: „Арганізацыйнае становішча ў арцелі, асабліва у аддзелах", „Прапановы паляпшэння дзейнасці аддзелаў і перспектывы іх далейшага развіцця", „Заключныя заўвагі".)

Упярэдадзень здарэння — Сумленевіч прадставіў шэфу чарнавы варыянт справаздачы, над якім яны, абодва, доўга прасядзелі. (Людзі, потым, усяляк перадавалі размову паміж імі, рагочучы са Сцяпана). Ён цвярдзіў у следстве, што старшыня

аоразіў яго, кпіў з камісіі: — Пакажыце, што вы навыдумоўвалі за тры месяцы.

— На мой погляд, гэтыя матэрыялы павінны дапамагчы кіраўніцтву ў выпраўленні шэрагу недахопаў, — тады сказаў старшыні Сцяпан.

— Вы, пане Сумленевіч, э, правільна ўчынілі, прыходзячы да мяне перад канчатковым адрэдагаваннем справаздачы камісіі. Я разумею, што гэтым, э, парушылі вы яе аўтаномнасць, але, э, я запэўніваю вас: не буду хваліцца нашай сустрэчай. Гарантыяй таго — супольнасць інтарэсаў. Ці, э, не так?

— Несумненна, — адгукнуўся яму Сцяпан, абмінаючы намёклівы падтэкст у запытанні старшыні. — Маюцца магчымасці, як самі вы пераканаецеся, на грунтоўнае аздараўленне арцельнай гаспадаркі.

— Пабачым, э, пабачым... — старшыня чытаў, усё роўна быццам бы вышукоўваючы памылковае ў напісаным. Яму званілі і ён адказваў у тэлефонную трубку: „Так". За каторымсьці разам ён адказаў: „Не". І — двухразова: „Выканана". Ад таго аднаслоўя было Сцяпану сцішнавата. — Што ж: няблага, няблага... — гаварыў старшыня, наносячы на чарнавы тэкст справаздачы знакі паметак.

— Дружна папрацавалі ўсе.

— Я, э, ну... — ён выпрастаўся, — у мяне, э, ёсць тут заўвага, дробязная, э, вось, у гэтым месцы, — старшыня ўказальным пальцам павёў па першых сказах другой часткі справаздачы. — Прапаную вам падкрэсліць тут дасягненні... Скажам, прыкладна, э, так: „Нягледзячы на бясспрэчна вялікія дасягненні арцелі, наглядаюцца ў яе дзейнасці, праўда, і некаторыя недахопы..." Га?

— Калі ласка, — згадзіўся з ім Сцяпан Сумленевіч і, уласнаручна, увёў у чарнавік папраўку. — Яшчэ дзе?

На міг здаліся б яны камусьці сябрамі.

— Бачыце, э, у святле вышэйпапраўленага не надта апраўдана гучаць дзе-якія высновы... Вось: „Неабходна правесці кадравую верыфікацыю кіраўніцкага персаналу ў аддзелах, кіруючыся, перш за ўсё, спецыялістычнай кампетэнтнасцю ягонага асабовага саставу," — падняў галаву старшыня і зноўку паглыбіўся ў чытанне. — Гучыць гэта фальшыва, не? Прапаную: „Правесці больш строгую кадравую верыфікацыю..." — і гэтак далей. Э, га?

— Нашто вам, пане старшыня, такія фармулёўкі? Яны, якраз, і фальшывыя, будуць гаварыць няпраўду. Тое, менавіта, што, маўляў, ёсць вельмі добра ў нас і можа быць цудоўна, гэ-гэ-гэ... Выбачайце, мо я не зразумеў вас? Але, калі ўзяліся мы дапамагчы вам, пане старшыня...

— Дапамагчы мне? Жартуеце вы, Сумленевіч!

— Як гэта?

— А так! — засоп старшыня. — Уявіце сябе вы, э, на маім месцы. І вам прыносяць такую, во, справаздачу. Вы чытаеце яе. І што, э, самі робіце?

— Калі ласка, пане старшыня, — суха загаварыў Сцяпан. — Я — аналізую яе. Склікаю праўленне арцелі. Ужо ведаю я, што трэба нам зрабіць. Праводжу, мэтанакіравана, дыскусію на праўленні, арганізоўваю чыстку...

— Не, э, вы не ўяўляеце сябе на маім месцы, шаноўны пане. Вас яшчэ не ўкусіла свая вош. Не перастаеце вы гаварыць знізу ўгору, вось, э, знізу, усё знізу, э, задраўшы галаву... Не дапамагаеце вы, але — дамагаецеся... Дамагацца і ўсё дамагацца... — Старшыня працягнуў руку ў барык. — Зробім, э, па чарцы?

— Не пачнем жа мы, цэлай камісіяй, утойваць тое, што дрэннае ва ўстанове, — Сцяпан машынальна надпіў падстаўленую яму чарку з каньяком, — пераўтварацца ў банду ашуканцаў! Прабачце — за вострае слова.

— Чаму гэта, Сцяпане, трапна здагадваешся ты ды, э, памылкова разважаеш, га? — запытаў ён голасам імгненна закаханага. — Ты патрэбен мне! Разумееш? Абяцаю табе, што на працягу двух гадоў зможаш ты купіць сабе легкавую машыну, э, а ў перспектыве — збудаваць асабняк і жыць, э, не аглядаючыся на ласку цесця. Ну, э, як табе гэта падабаецца?

— Мне, калі вы ўжо пытаеце аб тое, гэта не падабаецца.

— Чаму?

— Вы прапануеце мне быць злодзеем.

— Так ты гэта зразумеў?

— Менавіта — так.

— Не гарачыцеся, пане Сумленевіч. Перадумайце ўсё. Пагаварыце вы з жонкай, з цесцем...

— Дзякую вам за параду.

— Я — усур'ёз!

— Не сумняваюся я ў тым.

— Ну, э, так, — старшыня дапіў сваю чарку. — Ну а над справаздачай камісіі, дык, я так лічу, э, папрацуйце яшчэ з вечарок. Э, няшмат тут трэба ў ёй даробак. Галоўнае, гладзей пачаткі наварадкоўяў...

— Не будзе, пане старшыня, ніякіх вечаркоў, ні даробак, пераробак. крываробак, і ўсялякіх недаробак. Будзе так, як напісана! — ён выхапіў з рук старшыні паперы і знерухомеў, ад абурэння не могучы ўжо гаварыць.

— Смаркач ты! Думаеш — хто-небудзь гэта, э, падпіша табе?

— Сам я падпішу! — сарвалася ў Сцяпана. — Вы кожнага запалохаеце, але не мяне! Падпішу, разашлю, куды трэба, даволі было... — ён зацяўся ў сабе.

— Гэта, э, будзе твой апошні подпіс у арцелі. Абяцаю табе...!

— Пажывем — пабачым.

— Бывай здароў і, э, наракай ты на самога сябе.

— Не... Я не падарую таго!

— Халера цябе ведае, э, чаго ты, э, хочаш?!

— Да пабачэння вам, — Сцяпан кінуўся ў дзверы.

— Ідзі з богам...

Старшыня больш гаварыў, але Сцяпан ужо не чуў яго. Ён выбег на вуліцу, забыўшыся на летні плашч, які пакінуў у сакратарыяце. (Парт'е даў у следстве паказанні, што Сцяпан, бы ненармальны, збягаў з усходаў першага паверху, мармычучы пад носам: „Я табе пакажу! ...Я табе пакажу!...“)



Знайшліся і такія, што бачылі як Сумленевіч падпальваў машыну. Ён, сведчылі яны, выпусціў з бака бензін, каб не дайшло да яго выбуху, што дадаткова даказвала свядома злачыннае дзеянне Сцяпана не ў карысць пацярпеўшага старшыні. Бак усё роўна ўзарваўся б, аднак жа так не сталася; нехта казаў, што Сцяпан наліў у яго поўна вады... Агонь ахапіў, нават, калодзежык каналізацыі, куды нацякала палыхаючае гаручае, і адкуль, — таксама і гэта бачылі, — выскоквалі пацукі, ( аднаго, спаленага, усе хадзілі глядзець, але, аказалася, быў гэта жмут клочча ці пакулля). Гаварылася — калі Сумленевіча выпушчана з камісарыята міліцыі — што ў машыне старшыні сядзела яго, Сцяпана, жонка, бяздзетная фахоўка, і ён, з французскім ключом у руцэ, пагнаўся за ёю, ды яна, зняўшы з ног туфлі на высокіх абцасах, паімчала цераз нізкія платы агародаў, у напрамку стражніцкай вежы пажарнікаў, каб, падняўшы там трывогу, выратаваць рэшткі дабра ягонага шэфа...

Нікому і не падумалася тое, што Сцяпан Сумленевіч сам заявіўся ў міліцыю. (Калі адчуў ён, што можа забаяцца сваёй задумы).

Сяржант да Сцяпана:

— Ідзіце вы дамоў.

— Я не п'яны, — ціха запярэчыў яму Сцяпан. — Прыходжу я да вас са справай і вы абавязаны выслухаць мяне.

— Чуў я тое, хопіць! Трэба будзе — паклічам вас.

— Што я павінен зрабіць, каб вы паверылі мне?

— Перастаньце.

— Мо пабіць шыбу ў акне камісарыята?...

— Да пабачэння вам.

— Вы абражаеце мяне!

— Чым?

— Даючы мне зразумець, што з'яўляюся я ненармальным.

— Спалілі вы машыну і яшчэ хочаце запэўніць нас, што зрабілі гэта напэўна вы, каб, крый божа, часамі не памыліліся мы. Ці вы, скажыце мне, лічыце нас дурнямі?

— Я прашу вас: складзіце пратакол допыту мяне.

— Мы — не бюро бытавых паслуг насельніцтву. Ясна?

— Калі так, дык, калі ласка, звяжыце вы мяне з капітанам.

— Які вы чалавек! — знецярпліві́ўся сяржант. — Ну, ідзіце вы адгэтуль. Па-добраму вас прашу я: ідзіце сабе дамоў.

— Нікуды я не пайду адсюль!

— Званіць мне па карэтку хуткай дапамогі? — сяржант паклаў руку на тэлефон, які, як на тое, якраз зазваніў; ён уздрыгануў. — Слухаю, — сказаў у трубку. — Выканана, — далажыў ён камусьці. — Ага. Так Што? Не, — павярнуўся ён бокам да Сцяпана. — Разумею. Не. Не. Не. Раблю, што магу... Так. Так. Ясна! — Сяржант паклаў тэлефонную трубку і, даўгапішучым алоўкам, натхнёна пачухаўся за вухам. — Гм, — уважліва прыглядзеўся ён да Сцяпана, можна сказаць, з сардэчнасцю. — Дык, значыць, жадаеце вы даць паказанні?

— Вас аблаялі? — Сцяпан: „Што я найлепшага раблю, ідыёт!? Хачу ж я дабіцца ўмоў дзеля знішчэння кагосьці, хто...“

— Дайце мне, калі ласка, ваш пашпарт, — папрасіў ён у Сцяпана, выклаўшы з шуфлядкі колькі бланкаў пратакола допыту.

У Сумленевіча не аказалася пашпарта.

— Хвароба, я, мусіць, пакінуў дома... — Сцяпан абшукоўваў кішэні, але, ён ужо ведаў, што дарэмна гэта робіць. — Нашто патрэбны ўчціваму чалавеку пашпарт? — гаварыў ён, бы той, хто, нарэшце, дачакаўся пачастунку і, толькі для прыстойнасці, аднекваецца ад яго. — Вось, не падумаў я, гэ!... Мо хопіць вам маёй службовай легітымацыі?

— Давайце мне яе.

Складанне сяржантам пратакола працягнулася не болей, як паўгадзіны. Сцяпан, звычайна, прадыктаваў яму вопіс здарэння. Паспрачаліся яны адносна матывацый учынку.

— З вас — нядурны госць, а пляцеце тут аж такое, — упарціўся перад Сцяпанам сяржант. — Вы будзеце адказваць перад судом за падпал. Вашы галаслоўныя абвінавачванні старшыні мяне не цікавяць. Нам неабходны ёсць факты, якія магчыма праверыць. Як кіраўнічы работнік арцелі вы разумееце, што адных падазрэнняў мала, каб на іх падставе можна было заводзіць справу. Усё, што вы гаворыце пра свайго шэфа, не пазбаўлена агульшчыны, ананімнасці. Мо вы чаго баіцеся? Не? Слушна! Са страху яшчэ ніхто нічога добрага не зрабіў. Што? Прабачце, я вас добра не чуў... Ці ў нашай фірме бывае зло? Канкрэтна, у камендатуры? Гм, дзіўны вы — першы раз бачу я такога кніжнага, такога Няхлюдава... Што? Якая мая адукацыя? Сярэдняя. І вучуся я далей. Чаму вы пытаеце мяне пра гэта? Ага, таму што я — не афіцэр. Буду ім. Адкажу вам на папярэдняе пытанне: зло, гэта наш надзённы хлеб. Адсюль — натуральнае тое, што праяўляем мы асаблівую цягу да прыгожага ў чалавеку. Жывем жа мы ў смуроднай атмасферы, з'яўляемся як бы чысцільнікамі адходаў грамадства, таму, па-афіцэрску, кахаем адэкалоны... Вы разумееце мяне? Прафесіянальнае скрыўленне — змоўніцкае бачанне намі рэчаіснасці... Вам гэта ясна? Яйбогу, вы ёсць цікавы тып! Штосьці скажу я вам: з вашым характарам патрэбна пашукаць сабе месца работы ва ўстанове, дзе няма буйных фінансавых аперацый, значыць, і камбінатарства. Што? У міліцыі? Не, вы ў нас больш нарубалі б дроў, чымсьці трэба іх. Тут мус ведаць жыццё, мець на яго нервы. Вы ж занадта танкаскуры. Шчыра кажу вам: шкада мне вас! Вельмі спрыяльнай вам акалічнасцю з'яўляецца ваша, добраахвотнае, прызнанне ў злачынстве. Дастанеце вы на судзе, лічу, гадок умоўнага пакарання турмою плюс рамонт машыны на ўласны кошт. Кар'ера, вядома, ваша лясне. Малады вы, лёгка дагоніце страчанае, і пераганіце...

— Дзякую вам за пацяшэнні, пане сяржант. — Сцяпан устаў. Яму надакучыла слухаць яго. — Я, здаецца, ужо магу ісці?

— Так, — пацвердзіў яму сяржант, неяк увесь

суцішыўшыся. — На наступны допыт вы атрымаеце ад нас павестку.

„Дабіўся я галоўнага — стварэння дакумента, на які змагу паклікацца ў гутарках з капітанам, — разважаў Сцяпан. — Сёння, не, заўтра я звяжуся з ім. Паверыць ён мне ва ўсім, калі даведаецца, чаго я начоўп! Тады і пагутарым мы сабе пра старшыню ды ўсялякую зволач!“

У бары Сцяпан напіўся піва.

## XXV

— Дзе ты, Сцяпан, быў?! — насупонілася Кіра. За ёю, пацямнелая, стаяла цёшча, а з кухні, аблізваючыся ад абеду, выйшаў цесць. — Куды гэта цябе носіць?! Што з табою?

— Нічога, — Сцяпан: „Ого, ужо збегліся ўсе!“. — Здарылася што?

— Яшчэ ты і пытаеш, — прабубніў цесць.

— Ідзі, бацьку, бо спознішся... — загаварыла да цесця старая, быццам баючыся, што ён, вось, адпярэжа дзягу ды возьмецца лупцаваць Сцяпана. — Сядай, Сцяпанка, есці, — мітусілася яна.

— Няхай сабе ён есць, калі можа, — сказала аб мужу Кіра.

Сцяпан, распрануўшыся, памыўся над ваннай. Мокрым ручніком націраў ён карак і плечы. „Гульнуў я, як голы ў крапіве, — уколамі распаўзалася па яго целе свярбячка. — Кіра, як Кіра: хацела б яна ўсё мець і, адначасова, нічога не чапіць. Ці яна любіць мяне? У даны момант важнае, бадай, тое, што Кіра не з'яўляецца абыякавай да мяне. Каханнем, магчыма, называем патрэбнасць у партнёрстве, — ён выціснуў пырышчык на барадзе. — Спальванне чараўніц у Еўропе адбывалася ўпярэдадзень новага... Вогнішчы ў Італіі палыхалі ўпярэдадзень...“

— ...Сам ён накруціў усяго, вар'ят! — віснула Кіра да маці. Гвалтоўна скрыпнулі дзверы — загрукалі яе крокі, коратка.

Пабегла яна да гэтай Ані, здагадаўся Сцяпан. Калі жонка шукае спагады ў сяброўкі, дык гэта і ёсць трывожная ў ёй праява адчужанасці да мужа, пошукаў бяспечнасці там, дзе яе няма. Урэшце, — гэта і перапалох ад самоты, і прыступ зацьмення, у якім можна дзейнічаць толькі ў шкоду ўласным інтарэсам. „Я аб нічым не папярэдзіў яе, не пагаварыў з ёю... Гм, я ж не ведаў, што ўсё так атрымаецца...“

Паабедаў Сцяпан адзін.

Цёшча падыходзіла да яго, каб запытаць, ці даліць яму стравы або дадаць бульбы з сельдэрэевым соусам; катлета, сасмажаная па-варшаўску, мела адменны смак. Кампот з ігрушаў, густы ды салодзісты, гаркавы ад лішняй дозы карыцы, давіў і цяжка было піць яго. Дзіва — столькі з'еўшы Сцяпан адчуваў голад.

І сонную млеўкасць.

Ён прылёг адпачыць.

„Ну, пайшла яна расказваць, што я спаліў старшыню...“ — Сцяпан перавярнуўся на правы бок, выцягнуў далонь з-пад скроні, і кроў цішэй запульсавала. Слабавалі яму ногі, ныючы, бяздарна...

* * *

...Прыпякала сонца. Калі праязджалі яны праз ядлаўцовае кустоўе, было асабліва душна ад разагрэтай настойкі пахаў. Чарнеў высмал ад вогнішча ля дарогі, адкуль пачынаўся прасцяг пасбішча, у канцы якога выстрамляўся пад борам комін спаленай лесьнічанкі і хіліўся да зямлі склеп з маладой бярозкай на гарбе.

— Гэта там — іх?... — маці прыкметна кіўнула галавою ў бок пажарышча. І ўздыхнула яна са словамі: — Божа, божа...

— Ага, — пужліва пацвердзіла ёй цётка. Яе паспалітая постаць адрознівалася, відавочна, тым, што яна была надзвычай тоўстай і мела імя, здаецца, Люба.

— Ціха, бабы, — прыструніў іх дзядзька. Да ягонага выгляду падыходзілі словы: „Ну, каму ў морду?“

— Кажаш, іх — пад ранак?... — дапытвалася маці ў цёткі.

— Ага. Імполь бачыў...

— Но-о, буланка! — дзядзька сцебануў пугаю кабылу і воз загрукатаў на каменнях у каляінах, валакучы за сабою хвост пылу і заглушаючы размову.

Маці шукала бацьку. Ён — Сцяпан ужо ведаў аб гэтым — пайшоў на банды, добраахвотнікам пайшоў, з суседам, худым і даўганогім, бы певень, дзядзюлем Колем, якога называлі: убовец. Рушылі яны ўночы. (Сцяпан чуў, як маці, тады, плакала, а бацька злосна штосьці тлумачыў ёй, не дакончыў, якраз засігналіла машына на вуліцы... — Галонзка паб'е вас — прарочыла яна бацьку. — Гаўно ты ведаеш! — крыкнуў бацька і па сцяноўцы заскрэбла нешта цяжкае, відаць, прыкладзіна вінтоўкі, калі ён адвярнуўся, каб выйсці да чакаючых яго там, дзе таемна гудзеў поначы матор. А ўдзень стала вядома, што Колю забілі. Аб гэтым паведаміла Чэся: — Ідзі да іх ды папытай, ці не бачылі яны твайго, — гаварыла яна да маці Сцяпана, якая не змагла і слоўца вымавіць. — Прыехалі, во, тыя да Колінай... Не стой ты, бяжы да іх, мо яны што скажуць табе? — Маці, не слухаючыся Чэсі, села за сталом і запытала ў Сцяпана, ці не забыў ён купіць шмальцу; меліся быць на абед бульбяныя пляцкі).

Цела бацькі — не знайшлі, дзядзюля Колі, зрэшты, таксама. І іншых, што былі з імі. Маці, узяўшы з сабою Сцяпана, аб'ехала радню ў вёсках за Супрасляю і ў Букштэлі, дзе, у хаце лясніка, бандыты напалі на Колю і яго людзей, вывезлі іх у пушчу, а будынкі падпалілі (машыну, спецыяльна імі разбітую, — гаварыла тая ж Люба, — увапхнулі яны ў Дзеразінскую бяздоніцу, што ля гасцінца ў Ліпаў Мост.)

Ехалі ў Супраслю — паўз Святую Ваду і Сцюдзёнку.

Кабыла, упрэлая, з натугаю цягнула воз пад гару, на якой хілеў крыж.

— Злазім з воза, бабы, — скамандаваў дзядзька. — Пяску, во, па калодкі...

— З нядзелі, пэўна, будуць людзі ўжо жаць, — гаварыла Люба. Палоскі жытоў набіраліся жаўціны.

Маці, памяншэлая, ніцма ўпала пад крыжам і загаласіла: „А мой ты бедненькі, а мой ты любенькі, а што я буду рабіць без цябе, а з сірацінаю тваёю на свеце, адна-адзінюсенькая, няшчасная!? А чаму ты пакінуў мяне, а чаму ты пайшоў на пагібель, а ці я нядобрай была табе, як і ты, сірата-сірацiна!? А чаму ўсё гора на галечу валіцца, а на галаву маю, г-ы-ы-ы-гы...“

— Перастань, ну, перастань, — супакойвала яе Люба. — Не пры дзіцяці так, чуеш... — азіралася яна на Сцяпана, які плакаў з самага спалоху.

— Годзі, ну, будзе таго! — круціўся дзядзька. Ён не зводзіў вачэй з лесу, быццам заўважыўшы там пагрозлівае.

І, сапраўды, у паркай далечыні бахнуў стрэл. Маці ўсадавілі, цётка з дзядзькам, на фурманку і крыклiва паганялі кабылу, самі бегучы побач; Сцяпан учапіўся за гнаяўку, ззаду, калечачы руку аб паіржавелы цвік, (рана ад яго не гоілася).

У Беласток Сцяпан з маці даехалі аказіяй; шафёр узяў ад яе за гэта пару яек, якімі сваякі абдарылі іх.

Потым Сцяпан пачаў усведамляць сабе, што маці не траціла надзеі, чакала бацькі. Схоплівалася яна ўночы, калі нешта зашаламацела ў сенях, (бегалі мышы). „Гэта ты? Азвіся!“ — і заходзілася яна ад нястрымнага плачу, і да світання хадзіла па хаце, распусціўшы валасы, што асабліва пужала Сцяпана. У тэхнікуме, пасля нейкага сходу класнай ячэйкі ЗМП, сябар Сцяпана, Антоні, (от, забыў ён яго прозвішча), сказаў яму, што бацька, — праўдападобна, — удзельнічаў у партызанскай дыверсіі на Таварным вакзале, дзе працаваў ён у акупацыю. — Ад каго ты аб гэтым ведаеш, Антоні? — Ад сваёй маці, Сцёпа, але, яна, нічога пэўнага не можа сказаць. — Твой бацька, таксама, загінуў, Антоні? — Не, ён памёр ужо пасля вызвалення, ад пабояў у гестапа. Адбілі яму там лёгкія. — Мой, Антоні, прапаў без звестак... Трапіў ён у засаду банды. — Яны, зволачы, многа ведалі, Сцяпан. — Так, Антоні? — А як ты думаў, Сцяпан! І

зараз усяляк бывае: класавая барацьба завастраецца. Трэба быць пільным... Трэба!

Будучы ў другім класе, — так, у другім, якіясьці прыходзілі вербаваць у афіцэрскія школы, — нехта наказаў матцы Сцяпана, што ў калодзежы знішчанага ў вайну хутара за Сакалдою знойдзена трупы. Маці ў чым стаяла ў тым і паехала туды. „Вучы ўрокі!" — адказала была Сцяпану, які збіраўся ехаць разам з ёю. Доўга яна не вярталася адтуль, каля трох дзён; з'явілася дома апоўначы, быццам з пасядушак у Пячурках, прамочаная. Лягла ў пасцель, стаіўшыся, што вучаніца, якая загулялася на позняй, клубнай вечарыне. Папрасіла яна ў Сцяпана піць. Уночы разбудзіў яго лямант: беспрытомна кідалася яна ў гарачцы. Сцяпан, нядотыкам апрануўшыся, пабег да Колінай, але там вісеў на дзвярах замок.

Хварэла маці колькі тыдняў, да Спаса. Чэся прыносіла зелле, з якога гатавала ёй, на пліце, адвар. (Лякарстваў з аптэкі не хацела маці прымаць; знаёмая Чэсі паставіла ёй банкі.)

— Памру я, сынок, калі закончыш ты школу, — сказала яна. Маці пачала папраўляцца. — Ажэнішся, шануй жонку...

У Сцяпана пасыпаліся, першыя горкія, слёзы.

Быў ён ужо мужчынам.

І тады, не, пазней, значна пазней, падумалася яму, што ў чалавеку — шмат камердынера. Гэтым мучыўся Сцяпан, мабыць таму, што калі хавалі яго маці, уздыхнуў ён ад таго з палёгкай, цалкам на людскіх вачах. Побач Сцяпана стаяла Чэся і хоць, праўда, крапацеў дождж, яна, несумненна, прыкмеціла жахлівую радасць у сыне нябожчыцы, але, відаць, зразумела яго па-свойму, так, як бывае гэта ў простых, шчырых кабецін, прыхільных кожнаму, каму цяжка даецца жыццё. Ніколі не адчуў ён з яе боку намёку, — ці то ў злосці, ці то ў непасрэднай гамонцы, — на тую хвілю, калі, вось, дачакаўшыся апушчэння труны ў дол, досыць голасна прамовіў: „Нарэшце!" Усе плакалі. А памінкі — у саракавы дзень — наладзіла, менавіта, Чэся; яна запрасіла на іх айца Максіма, лэмка з Карпатаў, якому мадзярскія карнікі пастралялі радзіну. Сцяпан упіўся на іх; у п'яным выглядзе яму лягчэй было смуткаваць. Сапраўдны смутак адкладваў, усё адкладваў ён, пакуль закончыцца той балаган, які выклікае смерць у сям'і. Прыйшла вясна, а за ёю лета, якое часткова правёў Сцяпан у маладзёжным лагеры на пустынным беразе мазурскага возера і, яшчэ, у прысудэцкім мястэчку; памятаў — за Валбржыхам, дзе хэўрай купаліся хлопцы ў сцюдзёных, гліняных кар'ерах, у якіх, казалі яны, ляжыць нямецкі самалёт. Ды памяць аб маці не з'яўлялася ў ім глыбейшай, чымсьці — аб настаўніку матэматыкі; не снілася яна Сцяпану. Ажно, неяк пад восень, ужо ў Беластоку, будучы ў Антоняга, так, недалёка Азёрнай вуліцы, пайшоў ён паглядзець яе магілу і сеў там на чужой лавачцы перад надпісам на багатым мармуры „Магільня Нікіфарукоў", закурыў па-важнецку і раптам застагнаў ад накоцістага плачу. Галаву нешта сціскала Сцяпану з такім болем, што, здавалася, разляціцца яна асколкамі; абхапіў яе аберуч. Аглянуўся ён на рабіну, расчырванелую, у цёплым закутку, і з незвычайнай выразнасцю ўбачыў маці, яе твар, маршчыны, цяплыню позірку, сутаргу вуснаў, што так і засталася пасля прычытаў ля дарожнага крыжа. І Сцяпан зразумеў, што яна жадала пакінуць свет загадзя, не знявечанай...

* * *

Ляскатліва прачыніліся дзверы ў пакой і Сцяпан, з дзіцячай хітрасцю, прыкінуўся спячым; гэта падзьмуў скразняк.

У пярэдняй — прастуджаны голас Кіры:

— Мама, я купіла радыскі.

— А дзе ты, увечары, знайшла яе?

— Прадавалі..., — расказвала яна. — Сцяпан дома?

— Спіць.

— Столькі?! — яе крокі набліжаліся.

— Няхай ён паспіць, — як бы супыніла Кіру маці. — Во, квашанінкі паеш ты.

— Не магу, — зашапацеў на Кіры лёгкі плашч.

Яна распраналася. — Хо, горача. — Заскрыпела шафа з адзеннем. — Блага мне, мама.

— Залішне бярэш сабе ў галаву...

— За сябе я не бядую, мама, — сказала Кіра, пацягнуўшы носам. — За дурною галавою і нагам няма спакою... Возьмуць і пасадзяць яго!

— Цішэй, бо пачуе...

— Няхай сабе чуе! — грукнула шкло; запсычэла „ігрушка“ з адэкалонам. — Прычоска мая, хвароба, распадаецца. У мяне, мама, мяккія валасы. Заўтра пайду я да Райкі: у яе — французскі лак...

У прыцемку, у самюткім куце бібліятэчнай паліцы, паглядзела на Сцяпана дзяўчына на каляровай паштоўцы. Яна прыціскала да аголенага пляча букет жоўтых і чырвоных цюльпанаў; мела здумелыя, чорныя вочы і просты, грэчаскі нос. Ад яе красы, тыповай у пачатках стагоддзя, рабілася яму млява і ўтульна. Хацелася Сцяпану пасмяяцца з тых турбот, ад якіх брыняла потам яго піджама і мучылі сны. Дзве сусветныя войны ўяўляліся яму плёткамі старых!

Сцяпан запаліў святло і пашукаў сабе кніжку. Але не ўкладалася чытанне яе. І не было як яму пайсці на шпацыр, праветрыцца: час ад часу чулася гаворка маці з дачкою ў кухні.

Кіра сама прыйшла да Сцяпана.

— Што чытаеш? — запытала яна ў яго.

— Не ведаю, Кіра.

— Трымаеш жа ў руках кніжку!

— Зараз скажу табе... — ён адгарнуў тытульны ліст у кніжцы.

— Сцяпан, — Кіра падыйшла блізка да яго, але не прыхіліла, як зазвычай, яго галаву да сваіх пругкіх грудзей. — Што ты, Сцяпан, нарабіў! Людзі смяюцца з цябе. Скажы: ты, сапраўды, спаліў легкавую машыну старшыні?

— Спаліў, Кіра.

— Навошта?

— Так трэба.

— Цябе будуць судзіць за гэта!

— Я таго і чакаю.

— Суду?

— Суду, Кіра.

— Што ты зноў задумаў?

— Знішчыць падлюгу.

— Значыць, каго? Старшыню?

— Ага.

— Самому трапіўшы ў суд?

— Няма іншага спосабу, Кіра.

— З цябе ўчыняць злачынца! Разумееш? І пры судзяць адкупіць машыну...

— Хто акажацца злачынцам — пабачым, Кір А машыну, калі трэба будзе, я адкуплю.

— За сваё?

— За сваё, Кіра.

— Ці ты, Сцяпан, хоць памятаеш, якія ў цяі заробкі?

— Так, Кіра.

— І ты адкупіш — за іх?

— Калі трэба будзе...

Села яна ў крэсла, насупроць Сцяпана.

— Ты ёсць ненармальны.

— Не разумееш мяне, Кіра.

— Не разумею? Як можна разумець...

З'явілася цёшча.

— Крычы, не крычы — сталася, — загаварыл яна. — Мусова цяпер думаць нам, як бяду збыць.

Сцяпан зноў разгарнуў кніжку.

— А балячку хіба хто збыў? Прадаў яе? Узя ды прадаў? — узлавалася Кіра.

— Ты гаворыш, як аб чужым, — не адступала ся ад свайго цёшча.

— А калі ён вычаўпаў такое, дык падумаў пр мяне?

— Падумаў, не падумаў, але Сцяпан — тва муж, дочка.

— Твой... Твой... Ах, маму, ідзіце вы разам с сваімі павучэннямі... — Кіра вытузнула кніжку рук Сцяпана. — Слухай ты, булава, калі да цяб гаворуць! Не адзін жа жывеш тут!...

— А ну вас! — цёшча, выціраючы далоні а хвартух, павярнула назад.

— Ну, — Сцяпан трымаўся.

— Ведаеш, на каго ты падобны?

— Ведаю.

— Перастань ты дурня клеіць ды ідзі да старшыні, чуеш? Прасі яго — мо прабачыць табе, адпусціцца...

— Прасіць гэтага лайдака — не ў маім плане.

— Тады — што?

— Я ж табе, Кіра, казаў...

— Не, я ўтаплюся ад гэтакай размовы!

— Кіра, калі б старшыня ўмеў думаць, дык ён сам не дапусціў бы да суда. Ён павінен дасканала прадчуваць тое, куды я хілю. Не выключана, што ён ужо бегае, куды трэба..., — Сцяпан закурыў. — Але, дудкі, запозна: я быў у міліцыі!

— Што?!

— Зараз яму не выкруціцца ад следства.

— Ты — прызнаўся?...

— Гэта вельмі важнае, Кіра: стварыць падставу.

— На сваю галаву?

— Дакладней, на яго.

— Вар'ят ты! Тэрарыст! — Кіра захадзіла па пакоі. — Ну, капцы ўсяму...

— Кіра! Як табе гэта вытлумачыць? — ён паклаў кніжку на паліцу. — Праўда, я захуліганіў, але чаму? Якія прычыны склаліся на тое? І я раскажу пра іх на судзе... З маленечкага зробіцца вялікае! Прападу я, але і ён прападзе. З той розніцай, што праваліцца ён на нечым значна — беспараўнальна! — большым, Кіра.

— Паважаны Сцяпан Сумленевіч, — іранічна скрывіла яна губкі. — Па-першае, як я ўжо неаднаразова гаварыла табе, з'ўляешся ты жывым экспанатам наіўнасці, надзвычай каштоўным сваёй рэдкасцю, і таму, адразу, падлягаеш кваліфікацыі ў музеі. Па-другое, ты вінаваты ў дачыненні да іншай асобы, што не зможа апраўдаць ніякая, нават сусветная, матывацыя. Па-трэцяе, гэта акампраметуе цябе, прынамсі, на перыяд аднаго пакалення кіраўнікоў грамадскага жыцця, у якіх прозвішчу Сумленевіча будзе спадарожнічаць дадаены сказ: „А, гэта той дурань, які, калісьці, спаліў легкавую машыну, ну, таго...“ Пачацвертае, ашчаслівіш ты гэтым наступнага праныру, якому, мабыць, і абрыдла чакаць нагоды... Па-пятае, у арцелі нічога не зменіцца ад твайг ўчынку...

— Усё?

— У асноўным, усё.

— Калі б паверыць табе, Кіра, дык дзеянне ча лавека павінна быць накіраванае безумоўна н асабістую карысць. Не пратэстуй ты, бо іншаг выснаву са сказанага табою, звычайна, не мож быць. Страчванне сілаў дзеля агульнай...

— Прыгожа кажучы...

— Не бачу я ў гэтым нічога смешнага.

— І я. З другога боку.

— Свайго.

— Невядома, хто з нас, абоіх, чысцейшы эгаіс Сцяпан...

— Што, Кіра, маеш на ўвазе?

— Тваё „я“.

— Ах, во яно як!

— Пры тым, куды гэта падзелася Сумленевіча ва перамаганне зла дабром, га? Ды, наогул, адн ты гаворыш, а другое робіш. Дзіця, выдатнік п тэорыі і двоечнік па практыцы, анархіст, вулічны камічны ў задуманым. Жыццё не пажартуе з табою! Будуць падорвы ў судзе, калі абвінавачань Сумленевіч пачне растлумачваць, што ён спалі прыватную легкавую машыну свайго шэфа, ка выкрыць яго нядобрасумленнасць. Заплача пуб ліка ад рагатання! — Сенсацыйны метад зніш чання камбінатараў: спальванне іх маёмасці.

— Выйдзі, Кіра!

*) Урывак публікуецца паводле першай версіі аповесці



Беластоцкія пісьменнікі ў летнім лагеры для культурнага актыву ў Аўгустове, у жніўні 1977 г. Злева — Багуслаў Пэзовіч, крайні — Ян Сохань.



# ПЕРАКЛАДЫ МІКАЛАЯ ГАЙДУКА

## *АЛЬЖБЕТА КАЗЛОЎСКАЯ*

* * *

крочыла я са світання да гарызонта
на вуліцах шапацелі галасы
і вецер ад аргумента: ёсць
столькі разоў страсала за плечы
і тады хрыбетнік схіляў надзеі
бачыла я матылькоў
як падымалі наспеўшы дзень
(канец справе вянец)
існуючыя дзверы, вочы, нараджэнні
апраўдвалі мяне
на калідоры горада
чакала я
стрэлка на шкале сэнсу
паказвае цяпер:
паасобна нічога няма
дрыжаць на цыферблаце
як перадапошнія словы...

*ТАДЭВУШ АНТОНІ МАСЛАВЕЦКІ*

## КРУПНІК

Калі галодны
ці не гэтак бывае
становіцца павуком
вось такі пануры

як шалёнае сонца
з тысячма рук навокал
з разяўленай мордаю вінаў

пад такім сонцам
такім дзівосным шляхам
наступае агонія часу

сход імператараў
на гарачай патэльні
і такія вось тры ежы
па выбары галодных

крупнік на Вэстэрплятэ
крупнік пад Сталінградам
крупнік на Монтэ Касіна



## ХАТЫНЬ

I

Бярозы чорныя і блакітныя
узялі столькі што і званы
якія маюць больш чым жывыя

II

Я — Хатынь, — суддзя тых памёршых
на існаванне забойства аб'яўляю
маўчанне

III

Цела маё з бяроз і званоў
каб вы дарма не сумавалі
запрашае да супольнага стала
на якім тры бярозы кормячыя
і агонь дзе чацвертая — з мае раны

IV

Мая каменная мэбля ўздымае
горда галавы спазіраючыя на жывых

V

Мой дом гэта апусцеўшае пекла
каб вы яго называлі Святасцю
няхай вас цераз боль свой вядзе
гэты вось старэча з бронзы
на руках якога памірае чацвертая бяроза

*Хатынь, 1976.*

# ПЕРАКЛАДЫ МІХАСЯ ШАХОВІЧА

*ЯН ЛЕАНЧУК*

## НЕЎЗАБАВЕ СВІТАННЕ

мама
рукі выцягвае
працягнення дзён просячы

загледжаны
ўападанне павек
змрок свечкай рассяваю

неўзабаве світанне
неўзабаве світанне — паўтараю





## ПАЛЫНАВЫ ВЕРШ

палыну смак даўкі ў роце
вянуць вусны без уцехі

сэнс з нявдзейсненай надзеяй
на дарозе дзесьці згінуў

хаця з той жа самай плыню
ды сябе я забываю

ўрасла арлом у зямлю шапка
час маўчаннем запячатаў

нават марыць штораз горай
сны не крануты тугою

памяшалася няўлоўна
свежасць ран з зямлёю мёртвай

толькі верны палын ў роце
смак раскошы не узятай

*ТАДЭВУШ АНТОНІ МАСЛАВЕЦКІ*

## НА ВАКЗАЛЕ

Грузчыкам вочы надзеяю свецяцца
а ў маіх чамаданах — у адным плач
у другім смех
— мне калі ласка ў той цягнік
што на лузе
ці ёсць яшчэ вольныя месцы
цярплівым





*АПАЛОН ЦЯЛКЕВІЧ*

## СЫНОЧКУ

Месяц так як цукерка
шакаладам сплывае
і зоркі быццам разынкі
ў вырaслым цесце неба
ля ложачка цацкі
цяплом казачным грэюць
і толькі твой кашаль раптоўны
спіхае зрок у падлогу



*ВЯСЛАЎ ШЫМАНСКІ*

### АПАГЕЙ

Як у скарбонку — у старыя галошы
некалькі грашовін сцёртых ад рук жабрачых
укіну
і ў дзедаў сурдут уверх падшэўкай прыбраны
навыварат выйду на вуліцу
дзе ні машын ні беганіны смуроду і калек
у піўным ларку без грошай газету дастану
дзе няма пра патопы землетрасенні катастрофы
цыклоны
і рукамі валочачы зайду ў парк
што зышоў у абстрактнасць архаізмам лексічным
і сеўшы на лысай зямлі
гляну ў неба





## ПЕРАКЛАДЫ САКРАТА ЯНОВІЧА

*ЯН ЛЕАНЧУК*

### ЗА ГРЭБЛЯЙ

За грэбляй — лугі дзявочыя, быццам дружкі на вяселлі. Квітнелі яны навыперадкі, пахі бурліліся над іх нявыспанасцю. Выгнаныя на пашу каровы выскубвалі на іх усё прыгажэйшае.

Нейкі смех таіўся ў лугах, запаўзаў і ў маё цела, нявыветранае са сну і пасцелі, лашчыўся, бы сабачук суседа. У сне, а па-праўдзе ў ягоным паху, пазнаў я цёплае, знаёмае дыханне. Потым прыкмеціў я, што каровы ішлі так, быццам бы ім трэба было зайсці туды...

Неба ўсё вышэй падымала спадніцу.

Я бессаромна глядзеў на аголены дзень.

За грэбляй празвінела пчала. З позванам панесла яна крышынку майго ўражання. Дзесьці папырхнуўся нейкі матор. (Курцы, людзі кажуць раней паміраюць). Кнігаўка — за штосьці — прасіла прабачэння ў лугоў.

За грэбляй я пералічыў грашавінкі; затым — незайздросныя залатоўкі гадоў. Жыццё, відаць, зводзілася да дадавання ды адымання.

Кароў купіў сусед.

## БАЦЬКА

Зялёнае неба ўсё часцей світала.

Бацька, выцягнуўшы шыю, нюхаў вясну.

Свіронак гудзеў, быццам пусты жывот, пявуча соп, чухаўся, як той лінеючы сабака... Гэта бацька мерыў там квартаю зерне; дасыпаў да яго — са свянцоных вяночкаў, мяшаў, спрабоўваў на зуб, жаваў. А калі неба кужалем пабялела, каторагасьці дня вялікодныя святыя адумаліся; грымоты па небакраі, быццам той воз па хілым мосце, пракаціліся. Дома гладзілі святочныя прасцірадлы.

А зноўку каторагасьці дня, яшчэ досвіткам цёмным, бацька пайшоў на загуменне. У вакне бачыў я, як уваходзіў ён у мяккія барозны, усё бліжэй расчыненага неба.



## ЧЭРВЕНЬ

У чэрвені, замест спачынку — даўкі самасад.

Задыханая ноч лашчылася да мяне, бы маладая ўдава.

У грудзях маіх каваль з пудовымі кулакамі няспешна каваў коней, ажно горла маё раз-пораз іржала...

На межах толькі трава не качалася ад рогату. І, няйначай, патрэскаўся б небакрай, вылезла б фастрыга рэчак, і прыйшоў бы канец раганосцам ды маім снам расцялячаным, і, мабыць, быў бы гэта мой апошні смех у прастуджанае неба, за якім штораз халадней...

Ды, урэшце, у гэтым маім іржанні як бы па-суседску знаходзіліся словы адвеяныя, бы мякіна, у такое рагатанне...

А потым, пазней, — адны пытанні, даволі бесцырымонна штурхаючыя мяне наступнымі пытаннямі.

## КРЭСЛА

Калі я закончыў спробу апісання крэсла, дакладней кажучы — дзіцячага зэдліка, калі прадмет ужо быў гатовы і нема стаяў ён у куце пакоя, прыйшоў мажны Незнаёмец, сеў у, не менш ашаломленае ад мяне, крэсельца і пачаў гаворку.

Гадзіннік перад інфарктам усё яшчэ цік-такаў.

Распадаўся снег за акном.

Пабялела неяк.

Толькі крэсла...





## АМЯЛА

Пад дзевіцай, святой Агатай, на пачарнелым абразе, амяла не давала нам супакаення сваёй прысутнасцю.

Бабуля злічвала яе галінкі, шмаруючы іх мёдам дзеля багатага жыцця. Анёлы прылятталі лізаць цветаліпнёвую яе свяжыну, ажно позван вячэрні разыходзіўся наўкола ад спявання пчаліната.

Тады бацька неяк дзіўна клаў сваю далонь на далонях маці.



## МАЛОЕ МЯСТЭЧКА

Удовы ў малых мястэчках нагадваюць доўгія пацеркі ценяў, што стаяць у чарзе за эленіумам.

Учэпістая памяць, уваскрэслая, вяртаецца да іх нязоркім поблiскам хісткай лямпачкі вулічнага асвятлення. Вяртаецца пошаптам малітвы на заўтрань або вячэрню, каб спачынак вечны ім быў лёгкім.

Вяртаецца — у пакрыўленае Блудава, захлябешчвае цемрай вокны, і кладавіцца ў стылую пасцель адзінокіх.

Удовы ў малых мястэчках умеюць старэцца.





*БАГУСЛАЎ ПЭЗОВІЧ*

## ЧАТЫРЫ ЎВАСАБЛЕННІ КАБ ПАСПРАБАВАЦЬ

калі ж ветрам быць дык ураганам
і дрэў вываліць больш чым надзеяў
хаця травінкі паслухмяныя захаваюцца бо малы
ды камень абыякавы заляжа абыяк

калі ж вадою быць дык рыбаю нямою
за рухавасць беспатрэбную заплаціць маўчанне
або ціпыню захаборыць рухам
ды загольваць хвалі буйнапеністыя

калі ж канём быць дык толькі галападаю
прастору паламаць вудзіла парваць
ды ў грыву растрывожаную быццам у вока
імгненне
слязу ўшпіліць расістараннюю

ну а птушкаю быць — не іначай як прастораю
сашпільваннем аздобным неба з зямлёю
крыламі засланяць словы заменныя
або шукаць новай зоркі сэнсу

*БАГУСЛАЎ ФАЛІЦКІ*

* ✲ *

А Сэрцы?
Кінь ты гэта.
Яны ж не стрымоўваюць у кожнага —
Хто яго мае.





* ✲ *

А што калі нехта ўсё тое бачыць
А што калі ёсць гэтакі дэтэктыў за ўсіх
спрытнюгаў спрытнейшы
А што калі менавіта ён вядзе дакладны спісак
тваіх ціхіх легальных
А што калі ёсць птушкі якія запамяталі
кажнюткую тваю інтанацыю
А што калі ёсць гэткія несмяротныя птушкі
А што калі існуе гэткі паэт
які пра ўсё тое некалі запытае ў цябе



# ПЕРАКЛАДЫ ВІКТАРА ШВЕДА

## *ГАЛІНА КАБАЦ*

* * *

На людзей
не трэба
бедстваў,
войнаў,
канца свету...

Хопіць
усіх паставіць
тварам да твару
і кінуць косці.





### ПАМЯЦІ МАЛГОСІ

Дробная ручка, на якой
кожная ямачка расцалаваная,
кожная скуры маршчынка.

І гладкая чала раўніна,
дзе першых роздумаў зародкі
боль нараджаў і забываў іх.

А вуснаў змораных куточкі
адмовіліся ад усмешкі,
слоў тысячы на іх памерла.

Нішто не станецца ніколі
даспелай формай канчатковай.



*ЯН СОХАНЬ*

* ✲ *

Я ёсць таму што мушу быць
як вецер
насякомае
пясок або вада

Калі б мяне тут не было
што вы зрабілі б
з пустым месцам
з маім чакаючым каханнем.





* ✲ *

У вачах
прага існавання
не дапаможа боль
вайна чарговае дзіця
жыць хутчэй і хутчэй
вопыту хопіць
на пагашэнне даўгоў
удзячнасці і расчараванняў
лес гарыць у чаканні
лес людзей з паходнямі грошай
і старонкамі разгорнутай Бібліі
разрастаецца да памераў веры цела
лес людзей падпальваючых свае ступні

жывем з раскошы
губляючы якуюсьці прыгажосць

*ЯЎГЕНІ ШУЛЬБОРСКІ*

## КУЦЦЯ

У куце жменя збажын спелых
сена скрыўляе міскі з ежай
хлеб чорны на абрусе белым
— клубіцца грыва пахаў свежых —
Елка зрабілася стракатай
сонна-бліскучаю такою
і асвяточніла ўсю хату
анёльскага дала настрою

Вячэраем — няма кагосьці
месца свабоднае і лыжка
пабачыш — татка прыйдзе ў госці —
дык пачакайма яшчэ крышку!



* ✲ *

Пакуль я думку запрагу
ў саху
пакуль я жураўлём
арошваць буду поле
зямля абернецца ў скалу
у пошуках ежы
сыдуць сюды анёлы
а тут — толькі прах
скала пустыня прах



* * *

Касцы
ўзялі на плечы косы
моўкне брусок
і сталі звон
знік прыдарожны
святы ў змроку
і конік палявы —
цвыркун
чувацъ бляянне
і мычанне
па бруку ціхі стук калёсны
цераз лугі
з сівой расою
прайшлі касцы
як праз жыццё





# ЛЕАПОЛЬД РОДЗЕВІЧ,

***гэта адна з самых цікавых постацей у беларускай літаратуры і гісторыі, чалавек выключнай усебаковасці: мастак слова, арганізатар літаратурнага жыцця, урэшце, грамадскі дзеяч і палітык, якога шматлікія прадбачанні пацвердзіліся ў бегу падзей, адзін з выдатных стваральнікаў заходнебеларускай палітычнай рэчаіснасці, велічы рэвалюцыйнага руху. Аб жыцці і дзейнасці Леапольда Родзевіча вядома нам надта мала ды павярхоўна, а яго літаратурная і публіцыстычная спадчына ўсё яшчэ чакае свайго даследчыка і выдаўца.***

***У альманаху змяшчаем некалькі твораў Родзевіча. Удалося нам атрымаць іх з архіваў, у якіх захоўваюцца заходнебеларускія камуністычныя выданні. Падаем, таксама, цікавы яго ліст, які публікуем паводле зборніка БДУ „Беларуская літаратура і літаратуразнаўства“.***

С. Я.

* * *

Беларусь мая мужыцкая,
шматпакутная, непачатая,
зварухніся, моц крывіцкая, —
слава наша ты крылатая.

Беларусь мая юнацкая,
шалам дзікая, уся бунтарская,
парві пута Ты чужацкае,
будзь дзяржаўная, гаспадарская.

Беларусь мая несмяротная,
кветка белая, маці родная,
усёй істотай сваёй Табе шчасця хачу,
аб ім сню-лятучу,
на дне бур, між віхроў усё шукаю...

Не найду. Не прычакаю.
Я згару ў барацьбе...
О, зайздросць маёй судзьбе!

## НАЧНЫ СВЕТАГЛЯД

I

Ноч падзяліла... Светач дзе? Жыва!
Шоўгаем!.. Слізка!.. Балота ці кроў?
Сыкаюць цені... Абоймы... Тужліва
Дбайце аб волі! Волі!
Хрыпат братоў...
Душаць!..
Людзі ці зверы? —
Сэрца гвалтоўна б'ецца ў дзверы,
Жалезныя дзверы жыцця! —
Волі! Волі!
Свету праменьчык хаця!
Так не было і не будзе ніколі!
Ланцуг-спавіяч з адчаю зубамі —
Скрогат, стагнанне...
Пры катаванні для мук тамавання
Робяць святымі славамі:
„Жыві Беларусь-святліца працоўных!"
Ах, колькі ж ёсць мук невымоўных!

II

Агнём свае помсты
Мы цемру запалім,
Тугу, безнадзейнасць
Развеем, расплавім!
Агонь у нявольных
Руках — суддзя строгі:
У попел заменіць
Кайданы, вастрогі.
Агню не давалі
Багі — ліхадзеі.
Цяпер хай лагво іх
У попел сатлее.
Агонь сонца-бацька,
З агню маць-зямелька,
Агонь вось сусвету,
Ён смерць-збавіцелька!
Хай Жыжа укусіць
За карак злой ночы,
А полымя сушыць
Заплаканы вочы.
Агонь, ганец гонкі,
Жывучы, чырвоны,
Пакажа, як скача
Раскрыўшы заслоны.
Ён музыка помсты,
Пяець і бушуе.
Пылай жа агнісцей,
Хто скуты — пачуе!

III

Настане час і рэха творчай, спорнай працы
Акордамі атуліць зямлю-маць.
І задрыжыць зямля ў захапленні юначым!
Аркестр касмічны — годзі фальшаваць!
Настане час — аб гэтым кажа мудрасць краскі,
Пчала мядком пахучым вабіць нас.
Туды нас клічуць сонца, спелай нівы ласкі,
І змагары за волю — за той час!



## РАЗДЗЕЛ X

(з паэмы „Беларусь“)

Працуй, Беларусь,
На хвалу для людзей.
Кажы, Беларусь,
Сваю праўду смялей.
Удар, Беларусь,
У вечавы, гулкі звон.
Узгары, Беларусь,
Свой забыты загон.
Гэй, скінь, Беларусь,
Ярмо цьмы прошлых лет!
Жыве, Беларусь,
Каб жылі: воля, свет!



## ЛІСТ ЛЕАПОЛЬДА РОДЗЕВІЧА ДА УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ[1])

*9.VI. (23 г.)*

*Даражэнькі!*

*Выдалі называецца! Столькі часу, грошы, стараннаў, лаянне з Знамяроўскім[2]) і паперу даў такую, як у „Строме“, калі не лепшую, і раптам: трах — сканфіскавалі!*

*Пракляцце!*

*Што яны вырабляюць, дык гэта трудна сабе ўразумець. Каб чалавек чалавеку мог так шкодзіць злосна? Хай жа на людзей сыйдзе існасць сусвету, уяўленне брацкага, любоўнага сужыцця!*

*Жадаю Лукішак[3]) як збаўлення, так змучаны акружаючай няпраўдай, духовай барацьбой, устрымліваннем узрыву пачуццяў, азлабленнем.*

*Супакою!*

*Хоць смерць, абы ўсціішыцца — дух перавесці — уздыхнуць.*

*Ідуць подлыя хіенскія канфіскаты, безупынныя, беспардонныя...*

*Пасылаю верш з канфіскаванага нумару, якога выйшла ўсяго 3 экзм.*

*Паклон ад усіх усім.*

*Пішы, браце, як жыў-здароў. Твае рукапісы, верш[4]) і аб „Беларусі“ перадаў у „Моладзь Беларусі“, але думаю, што тамака змарнуюцца, бо матэрыялам кіруе Леўчык — мусіць, адбяру і Табе перашлю.*

*Бывай.*

*Л. Родзевіч*

---

[1]) Ліст падрыхтаваў да друку У. А. Калеснік.
[2]) Адзін з віленскіх выдаўцоў.
[3]) Славутая турма ў даваеннай Вільні.
[4]) Верш гэты, змешчаны ў „Нашым жыцці“ 30 мая 1923 г., быў прысвечаны Веры Маслоўскай, якую судзілі за беларускую дзейнасць 16 мая 1923 года ў Беластоку. Тады ўзнікла справа аб беларускай падпольнай арганізацыі ў Агароднічках ля Супраслі.

З КАЛАМБУРНЫХ ФАКТАЎ.



**Барскі, Яновіч, Швед — злева направа — у гразечы на дарозе ў Вялікія Азяраны, увосень 1966 г. Фатаграфаваў У. Паўлючук.**



## НАШЫ МАСТАКІ



*АЛЯКСАНДР ХОМЧЫК нарадзіўся ў 1941 годзе ў Паўднёвым Востраве, што каля Крынак. Закончыў Вышэйшую школу мастацтваў у Гданску. Жыве ў Беластоку.*

*Ён — адзін з цікавейшых мастакоў, вядомы ў Польшчы і за мяжою.*

*Аформіў шмат нашых беларускіх выданняў.*



МІКАЛАЙ ДАВІДЗЮК нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Ўснаршчына, што каля Гайнаўкі. У 1969 годзе закончыў ён Лодзінскую вышэйшую школу мастацтваў, у якой зараз працуе ў якасці старшага асістэнта па жывапісу.

Работы Давідзюка знаходзіліся на міжнародных мастацкіх выстаўках — у лазанскай галерэі Паулі, у Майдлебруш (Англія). Першую асобную выстаўку сваіх палоцен меў ён у 1976 годзе, у варшаўскай Галерэі сучаснага мастацтва.

Давідзюк марыць аб мастацкім увасабленні таго ўласнага свету, які называецца — Беларусь.





ВЯЧАСЛАЎ ШУМ нарадзіўся ў 1949 годзе ў Сямяцічах. Закончыў ён Мастацкую акадэмію ў Кракаве. Свае работы выстаўляў дагэтуль у Сямяціцкім цэнтры культуры.

Жыве і працуе ў родным горадзе, у сваёй краіне.

Фотакопіі работ Шума зрабіў Мікалай Гайдук.



*АЛЯКСАНДР ГЕРАСІМЮК нарадзіўся ў 1941 годзе ў Беластоку. Закончыў Тэкстыльны тэхнікум. Працуе ён у якасці праектоўшчыка бытавай графікі ў Баваўняным камбінаце. З 1962 года прымае ўдзел у выстаўках жывапісу, якія арганізоўвае Ваяводскі дом культуры ў Беластоку. Шматлікія яго работы былі ўзнагароджаны.*

*У 1972 годзе А. Герасімюку наладжана асобную выстаўку яго работ, якая адбылася ў клубе „Фасты“.*

*Адбіткі яго работ, якія змешчана ў альманаху, зрабіў Зэнан Вернер.*



**ЗМЕСТ**

Нашы мастакі



Заўвага

Фатаграфічныя матэрыялы, надпісы і біяграфічныя звесткі публікуюцца са згоды зацікаўленых формай іх змяшчэння аўтараў альманаха.

***Калегія***